# крыніца

ISSN 0234—1387

ЧЭРВЕНЬ 1989


МІФАТВОРЦЫ

«МРОЯ», «УЛІС», «РЭЙ»...

СЫМБОЛЬ і КАМПАНІЯ

КУРАПАТЫ



# Юрый ІВАНОЎ

**ФОТАВЕРНІСАЖ**

**«Не будзь, фатограф, лунаходам...»** Словы гэтыя, рытмічна падобныя на пачатак песні ці нават бравурнага марша,— фірмавая прыказка Юрыя Іванова. Сэнс, які ў ёй заключаны, гранічна просты: не здымай усё, што на вока трапляе, а выбірай і думай. Шукай, мастак, вобраз. Як у імя фотамастацтва, так і дзеля эканоміі срэбра.

Юрый Іваноў умее выбіраць і думаць, умее знайсці і стварыць вобраз, таму ён і майстар. Мастак. Хоць вось ужо роўна 50 гадоў (выключаючы ўзрост немаўляці) сціпла называе сябе фотакарэспандэнтам. Яно тым больш сціпла, што сярод прыблізна дзесяці тысяч прафесій, якія афіцыйна зарэгістраваны ў нашай краіне, прафесіі фотакарэспандэнта не значыцца... Зрэшты, мы да такіх парадоксаў прызвычаіліся: нібыта нідзе і нічога ў нас няма — і ў той жа час паўсюль і ўсё маецца.











Таму, калі ў Юрыя Іванова не маецца, напрыклад, капелюша, дык толькі з той прычыны, што капелюшоў ён не любіць. Не носіць і не трывае. І не здымае. А ў астатнім усё ягонае пры ім: талент, прызнанне, вопыт, персанальныя выставы, публікацыі ў вядучых айчынных і замежных выданнях... Ёсць нават прыстойная фотаапаратура, чым, дарэчы, наша рэдакцыя пакуль пахваліцца не можа. Ведаючы пра гэта і разумеючы, што ілюстраваны часопіс без ілюстрацый глядзеўся б, тактоўна кажучы, без прэтэнзій, Юрый Іваноў па-сяброўску садзейнічае нам у тым, каб захаваць усё ж такія-сякія прэтэнзіі.

Мы не пазбаўлены зваротных пачуццяў, таму, друкуючы фотарэпартаж Юрыя Іванова, проста ніяк не можам не пажадаць і не павіншаваць. Што і робім:

З юбілеем, ЮРЫЙ СЯРГЕЕВІЧ!

Ганарар за гэты нумар супрацоўнікі рэдакцыі пералічваюць на рахунак Станькаўскай школы-інтэрната.


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 6 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года





Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.



ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42



Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 14.04.89.
Падпісана да друку 24.05.89.
АТ 06275.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,0.
Тыраж 49 680.
Зак. 170. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

1-я стар. вокладкі: Мікола СЕЛЯШЧУК. «Дзеці».

# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

## СЕЕ-ТОЕ ПРА ЛІСТЫ, ПРА КУМІРАЎ І... ШАНТАЖ

Мы не сталі б займаць дэфіцытную плошчу часопіса пад такія размовы, калі б тое, пра што пойдзе гаворка, не прыняло б літаральна пагрозлівых памераў. Нешта накшталт стыхійнага бедства. Ці пошасці эпідэміі. Ці таго і другога разам.

Галоўныя і адзіныя дзейныя асобы нашага агляду лістоў — прадстаўніцы цудоўнага полу ад 14 гадоў да... Другую лічбу апускаем — хутчэй за ўсё немагчыма прадугадаць, якога ўзросту экзальтаваная натура прадоўжыць заўтра спіс «шантажыстак». Трэба аддаць належнае мужчынскай палове чытачоў: ніводны з іх пакуль не спрабаваў выкарыстаць «апошнюю меру» ўздзеяння на рэдакцыю «Крыніцы» (цьфу, цьфу, цьфу! — барані божа сурочыць!). Аднак стоп-стоп-стоп...

Вельмі не хацелася б, каб стварылася ўражанне, што мы дзелім чытачоў на два процілеглыя лагеры: «дрэнных дзяўчынак» і «добрых хлопчыкаў». Натуральна, чалавечыя якасці меней за ўсё залежаць ад полу, але так ужо атрымалася, што справакалі нас на гэтую дзіўную статыстыку менавіта чытачкі, і толькі яны... Так што — не крыўдуйце...

**«...Паглядзеўшы кінафільм «Танцор «дыска», я не магла спаць ноч. Дачакалася наступнай раніцы, узяла білеты на ўсе сеансы і ўвесь дзень не выходзіла з кінатэатра. Я пакахала яго на ўсё жыццё (я кажу пра індыйскага артыста Чакраборці), думаю пра яго пастаянна, нават на ўроках. Многія дзяўчынкі з нашай школы таксама ў яго закаханыя, але гэта зусім не тое пачуццё, якое перажываю я. Упэўнена, што яго ніхто так не пакахае і я больш нікога так не пакахаю. Дарагая рэдакцыя, адзіная надзея на вас. Вышліце мне, калі ласка, хатні адрас артыста Чакраборці, я хачу з ім перапісвацца. Я ўпэўнена, што ўрэшце і ён мяне пакахае. Усе лічаць мяне вельмі прыгожай, усе пацаны проста балдзеюць, але я ні на кога не гляджу. КАЛІ ВЫ НЕ ВЫКАНАЕЦЕ МАЮ ПРОСЬБУ, Я КІНУ ШКОЛУ І ЎЦЯКУ З ДОМУ (тут і далей вылучана намі.— Рэд.), а мае бацькі гэтага не перажывуць, я ў іх адна...» Аксана К., 15 гадоў, г. Гомель.**

**«Дарагая рэдакцыя! Я вельмі люблю «Крыніцу», чытаю яе ад самага пачатку да канца. Асабліва падабаецца мне і маім аднакласнікам рубрыка «Яшчэ раз пра каханне». Я таксама хачу падзяліцца з вамі сваімі перажываннямі, а заадно папрасіць дапамогі. Толькі не кажыце, што мне рана кахаць (мне нядаўна споўнілася 15 гадоў). Я, між іншым, з выгляду нашмат больш дарослая, бо высокая, маю добрую фігуру і модна апранаюся. І ў разумовым развіцці адрозніваюся ад равеснікаў: шмат чытаю, люблю кіно, тэатр, нават гуляю ў шахматы, і вельмі нядрэнна. Дарэчы, аб узросце: Джульета ж таксама закахалася ў Рамэа, калі была, паводле нашых уяўленняў, зусім «малалеткаю». Вядома, «любви все возрасты покорны», але лепей закахацца ў мае 15, чым у якія-небудзь 20 ці 30 гадоў... Гэта так, між іншым. А цяпер пра галоўнае. Мне патрэбная ваша дапамога. Вось ужо паўгода як я без памяці кахаю аднаго чалавека, кахаю так, што нават страшна самой. Ён для мяне — бог, я на яго малюся. У маім пакоі вісіць ягоны партрэт. У мяне, вядома, ёсць хлопец, але гэта ад нуды, каб быць «як усе». Я ўсё роўна пастаянна думаю пра свайго каханага і ўяўляю, што менавіта ён побач са мною. Напэўна, таму я іншы раз і дазваляю «лішняе» гэтаму хлопцу, хоць і не кахаю яго. А кахаю я Дзмітрыя Харацьяна, кінаакцёра. Дапамажыце мне, калі ласка! Я хачу з ім сустрэцца ці хоць бы напісаць яму ліст. Скажыце, як мне яго знайсці? Я ўжо пісала пра гэта ў адзін часопіс, але адтуль ні слова ў адказ. А для мяне гэта пытанне жыцця і смерці. Між іншым, у адчаі я магу пайсці і на апошняе, бо жыць без яго проста не магу. Калі і вы мне не дапаможаце, Я НАКЛАДУ НА СЯБЕ РУКІ, як казалі гераіні раманаў. Я не пагражаю. Я і праўда не магу без яго жыць...»**

**Каця К., г. Мінск**

**«Паважаная «Крыніца»! Паведамляю табе, што праз тыдзень Я АБ'ЯЎЛЯЮ ГАЛАДОЎКУ. Толькі ты адна можаш мяне ўратаваць. Я без памяці закаханая ў спевака Аляксандра Сярова. Калі ён спявае песню «Мадонна», мне здаецца, што гэта пра мяне, што я — тая самая мадонна, пра якую ён марыць. Я збіраю яго фатаграфіі і запісы і хачу мець яго вялікі партрэт. Дарагая «Крыніца», вышлі мне партрэт Аляксандра Сярова з яго аўтографам (толькі вялікі!). Я не ведаю, што будзе са мною, калі праз тыдзень ты не выканаеш маю просьбу. Я не жартую! Аднойчы я ўжо аб'яўляла галадоўку, калі мама не хацела купляць мне «варёнки». Яна не верыла, што я вырашуся на такое, думала, я проста пагражаю. А я вырашылася, бо ў мяне моцная сіла волі. Затое цяпер у мяне ёсць «варёнки» і ўсё, што захачу... Улічы, я буду чакаць адказу роўна тыдзень. А далей усё будзе на тваім сумленні...» Зоя Д., 16 гадоў, г. Гродна.**

**«...Я проста не магу, да чаго ж я кахаю Віктара Цоя! Вы, канечне, таксама ведаеце гэтага спевака. Я проста страціла розум. Няўжо ён так і не даведаецца, якое ўсёабдымнае пачуццё да яго ў адной дзяўчыны! Дарагая рэдакцыя, пасылаю вам сваю фатаграфію. Калі ласка, перашліце яе майму куміру. Мне здаецца, ён не застанецца абыякавы і абавязкова захоча пазнаёміцца са мною. Калі ж вы не пойдзеце мне насустрач, Я ПАЧНУ ПІЦЬ, КУРЫЦЬ, ГУЛЯЦЬ І РАСПУСНІЧАЦЬ. Мне губляць няма чаго!..» Ніна З., 18 гадоў, Віцебская вобл.**

**«Дарагая рэдакцыя! Прашу не дзівіцца і не лічыць мяне вар'яткаю. Я зусім нармальны чалавек, вось толькі ўмовы, у якіх я жыву, нельга назваць нармальнымі. Справа ў тым, што ў мяне няма ніякай свабоды. Я не гавару пра нейкія там сацыяльныя моманты, мне на іх, шчыра кажучы, напляваць, мне і так добра. У нас няма свабоды ў адносінах паміж людзьмі. Мяркуйце самі. Калі ў Мінск прыязджаў Уладзімір Кузьмін, многія яго прыхільніцы зрабілі ўсё, каб трапіць на канцэрт. Мне таксама ўдалося «пралезці», і я ўдзячная лёсу за гэтае шчасце, бо Кузьмін — маё адзінае сапраўднае каханне. Калі кахаеш чалавека, ды яшчэ так моцна, хочацца быць побач з ім. І толькі чэрствыя і прымітыўныя людзі гэтага не разумеюць. Я некалькі разоў спрабавала прарвацца да яго ў гасцініцу, але мяне не пусцілі. А чаму? Гэта ўсё нашы дзікія норавы і адсутнасць свабоды. Я ж не магу без яго жыць. Разумееце? Вельмі вас прашу: дапамажыце мне сустрэцца з Уладзімірам Кузьміным сам-насам. Толькі не кажыце, што не можаце, я ведаю, што рэдакцыя можа ўсё. КАЛІ ВЫ МНЕ АДМОВІЦЕ, Я АТРУЧУСЯ ЦІ ПЕРАРЭЖУ САБЕ ВЕНЫ. Так і ведайце!..» Таццяна С., 21 год, г. Мінск.**

Вось так, шаноўныя чытачы... І яшчэ мноства падобных лістоў. Цытаваць іншыя мы не будзем, бо ўсе яны напісаныя прыкладна паводле аднае схемы: «Я пакахала спевака (артыста, музыканта), не магу без яго жыць (страціла розум, не сплю начамі), і калі вы не надрукуеце яго фатаграфію (не дадзіце адрас, не дапаможаце сустрэцца), я...» Далей ідзе пагроза зрабіць з сабою нешта жахлівае, такое, што скалане астатніх, а на сумленні супрацоўнікаў рэдакцыі пакіне незмывальную пляму. Ні больш ні менш: «Аб'яўлю галадоўку... стану піць і распуснічаць... пайду ў манастыр... перарэжу вены... павешуся... кінуся пад электрычку...» і г. д.

Што гэта? Невынішчальная вера ва ўсёмагутнасць рэдакцыі? Душэўная інфантыльнасць? Ці, выбачайце, ужо стыль жыцця, калі пагроза і вымаганне — здавалася б, амаль бяскрыўдныя— уяўляюцца адзіна надзейным спосабам дасягнення мэты?

Спачатку можна напалохаць галадоўкай маму, якая адмаўляецца купіць «мармуркі», і, пераканаўшыся, што метад дзейнічае спраўна, паспрабаваць тым самым спосабам, ужо з другой нагоды, прыстрашыць і рэдакцыю. А што, чаму б і не? Раптам і гэтым разам пашанцуе? І зусім няважна, як гэта выглядае, галоўнае — мэта. Што б там ні было. Любымі сродкамі...

Рыхтуючы агляд лістоў, мы збіраліся пагаварыць перш за ўсё пра маральны бок з'явы. З'явы, а не асобных выпадкаў, бо, мяркуючы па чытацкай пошце, памеры і «папулярнасць» такога кшталту «шантажу» зусім не бяскрыўдныя. Мы хацелі прааналізаваць прычыны і вынікі, разабрацца ў псіхалогіі і растлумачыць учынкі. А потым вырашылі: няхай гэта зробяць нашы чытачы.

**ДЫК ЗАПРАШАЕМ ДА РАЗМОВЫ!**

**Святлана БАРТОХАВА**

**Міхаіл КАПУСЦІН,**
**доктар філасофскіх навук,**
**прафесар**

# «ЦІ МАГУ Я РАБІЦЬ ГІСТОРЫЮ»?

## ПРА РОЛЮ АСОБЫ Ў ГІСТОРЫІ

Сэнс рэвалюцыйнага руху ў Расіі, пачынаючы з Радзішчава, дзекабрыстаў, заключаўся перш за ўсё ў тым, каб **знішчыць сваволю вярхоўнай улады,** усталяваць такі характар грамадскіх адносін, каб ён выключаў магчымасць для грубай або жорсткай асобы кіраўніка выяўляць сваю сваволю.

«Сталёвая воля» Сталіна, яго грубасць і жорсткасць — неабходныя праявы яго асобы, яго натуры, «псіхалогіі» (гэтаксама, як і ўсіх яго «апрычнікаў»), і ў адносінах да грамадскага ходу гістарычнага жыцця, зразумела, яны **выпадковыя.** Але яны зрабілі свой уплыў на лёс усяго народа; больш таго — **увайшлі і ў лік прычын,** якія абумовілі сабою нашу айчынную героіка-трагічную долю. Выпадковасць, паводле Пляханава, з'яўляецца толькі ў пункце перакрыжавання **неабходных** працэсаў. Вось чаму асобы часта маюць вялікі ўплыў на лёс грамадства, хоць у канчатковым выніку гэты ўплыў вызначаецца самім унутраным ладам грамадства і **яго адносінамі да іншых грамадстваў.**

Лёс нашага народа пры сталінізме, вядома, не быў бы такі суровы і горкі, калі б ён не быў адгароджаны ад іншых народаў «жалезнай заслонай»; у закрытым грамадстве, як і ўсюды за зачыненымі дзвярамі, можна вычвараць усё, што заўгодна [1].

**Мы выпакутавалі** неабходнасць **сацыяльнай адкрытасці,** якая следам за галоснасцю з'яўляецца наступным важным крокам наперад нашай сённяшняй перабудовы.

Вернемся яшчэ раз да балючага пытання: калі сацыялізм пры сталінізме быў такі, тады навошта ён быў патрэбен? Пэўна, пры некаторай дастатковай колькасці фактараў, якія яшчэ не паспелі праявіць сябе, магчымы быў бы і іншы зыход, **процілеглы** таму, які мы ведаем? І далей: калі сталінізму магло б і не быць, дык тады чаму ж ён не знік разам з фізічнай смерцю Сталіна, а ў форме постсталінізму праіснаваў яшчэ трыццаць гадоў — і зусім не на нелегальным, хоць і не на афіцыйным становішчы? (Гэта толькі цяпер, пры перабудове, ён вымушаны хавацца).

(Заканчэнне. Пачатак у № 5)



Згодна з выбранай намі метадалогіяй, выходзіць, што ў якія б цёмныя і крывавыя абалонкі ні спляліся «псіхалагічна» прычыны сталінізму, яны **ні ў якім разе не знішчылі б шырокай грамадскай патрэбы ў пабудове сацыялізму,** хай казарменнага тыпу. Гэтая грамадская патрэба, абуджаная ленінскай партыяй, пры Сталіне так ці інакш атрымала далейшае развіццё ў выглядзе новай велічнай карціны грандыёзнай сацыяльнай Будоўлі. Рэвалюцыйны рух у цэлым не спыняўся, нягледзячы на рэпрэсіі і Вялікі тэрор, які быў па-езуіцку абвешчаны неабходнай часткай аховы гэтай Будоўлі, на якую нібыта замахваліся полчышчы «ворагаў народа».

Зразумела, тады мелася на ўвазе толькі грамадскае задавальненне, пра асабістае не магло быць і гаворкі. Усё асабістае цалкам прыносілася ў ахвяру грамадскаму — гэта было ўмовай Вялікай Будоўлі, якая ўсім была патрэбна як нешта найбольш важкае і істотнае ў жыцці, як **звышкаштоўнасць,** што замяніла спрадвечнага Бога. Гэта ж бо яны сваімі рукамі будавалі сваю Будучыню, пра прыход якое раней маглі толькі марыць... (Таму мо так апантана ў той час накінуліся на рэлігію і царкву.)

На фоне гэтай унікальнай у гісторыі чалавецтва Будоўлі дзесяткам мільёнаў людзей, ахопленых адзіным парываннем, усё астатняе магло здацца дробяззю: «Лес сякуць — трэскі ляцяць!» Нават калі гэтымі «трэскамі» аказваліся лёсы і жыцці бацькоў і братоў...

Нягледзячы на ўсе гэтыя недаравальныя ахвяры, народ наш здзейсніў не толькі нечуванае, але і проста НЕМАГЧЫМАЕ — адсталая аграрная краіна за нейкія паўтара дзесятка гадоў ператварылася ў магутную індустрыяльную дзяржаву [2].

Гэта не паэтычная гіпербала ў гётэўскім духу: «Хто хоча Немагчымага, мне любы». Гэта — дакладная канстатацыя таго факта, што намаганнямі аднаго дарослага пакалення за 15 гадоў грамадскага развіцця зроблена тое, што ўяўлялася практычна немагчымым. Любы сацыёлаг і эканаміст пацвердзіць гэта адпаведнымі статыстычнымі і матэматычнымі выкладкамі.

Такім чынам, паколькі сказанае — не метафара, а канстатацыя факта, які мае міжнародны рэзананс, дык яна вымагае таксама і **навуковага тлумачэння.** Тут нам можа дапамагчы ўсё той жа Георгій Валянцінавіч Пляханаў.

Завяршаючы сваю бліскучую кнігу «Нашыя рознагалоссі» (1885), дзе ён узяўся «матэматычна даказаць», што кожны крок на дарозе грамадскага развіцця Расіі набліжае час перамогі марксісцкіх ідэй, ён, у прыватнасці, падкрэсліў момант, які стаў гістарычным прароцтвам: «Наш капіталізм адцвітае, не паспеўшы КАНЧАТКОВА расквітнець, за гэта зарукай нам **магутны** ўплыў міжнародных адносін».

Прароцтва Пляханава збылося двойчы — ужо незалежна ад яго самога, а па логіцы даволі спецыфічнага развіцця грамадскага жыцця Расіі (якое так было яму вядомае):

капіталізм, які хутка набраў сілу, адцвіў, не паспеўшы канчаткова расквітнець, у 1917 г.;

нечувана ўзрослае паскарэнне 30-х гадоў вылучыла Расію (дакладней — ужо СССР) у лік першых дзяржаў сучаснага свету.

Трэці ж фактар — «магутны ўплыў міжнародных адносін» — пачаў дзейнічаць для нас толькі сёння, калі М. С. Гарбачоў за тры гады цесных міжнародных кантактаў і абвешчанага ім **«вотуму даверу»** зрабіў больш, чым было зроблена за ўсю гісторыю нашага сацыялізму.

На якой жа, аднак, базе змагло разгарнуцца гэтае паскарэнне?

І зноў нам можа дапамагчы Георгій Валянцінавіч:

**«Немагчымасць ёсць прыватны выпадак цяжкасці.** Цяжкасці ж, якія пераходзяць часам і ў немагчымасць, бываюць двух родаў. Адзін род цяжкасці залежыць ад **асабістых уласцівасцей дзеячаў,** ад пераважнага характару іх імкненняў, поглядаў і схільнасцей. Гэты род цяжкасцей ствараецца грамадскім асяроддзем праз пасрэдніцтва індывідуумаў, і таму адценні яго таксама разнастайныя, як разнастайныя ўласцівасці асобных людзей... Немагчымым абвяшчаецца часта не тое, што немагчыма само па сабе, а тое, што, на думку гэтай асобы, прыносіць выгоды, якія не акупляюць зробленых намаганняў...

Але не трэба перабольшваць гэтых цяжкасцей...

Быў час, калі ўзрыў Зімняга палаца і падкоп на Малой Садовай здаліся б рэччу нязбытнаю і нездзяйсняльнаю самім рэвалюцыянерам. Але знайшліся **людзі, якія здзейснілі немагчымае, спраўдзілі нездзяйсняльнае.** Няўжо праява такой настойлівасці непамысная ў іншых сферах рэвалюцыйнай дзейнасці?»

Айчынная гісторыя, у прыватнасці 30-х гадоў, паказала, што цалкам дапушчальна і магчыма і нават не толькі для тых ці іншых выдатных асоб, але ў маштабах усяго народа, ахопленага парывам рэвалюцыйнага руху,— парывам, які заняў ледзь не палову ўзросту сталасці. Вось чаму наш народ здзейсніў нешта гістарычна немагчымае, спраўдзіў не здзяйсняльнае. І вось чаму «ўсе тады былі сталіністамі»,— амаль усе людзі, якія мыслілі па-грамадзянску, калі вызначыць дакладней [3].

Калі ж у брэжнеўскім грамадстве ў 70-я гады грамадскія патрэбы змяніліся на процілеглыя — **наяўныя,** дык і рэвалюцыйны рух спыніўся. СОНЦА САЦЫЯЛЬНАЙ ВЕРЫ ЗАЙШЛО.

Якія б ні былі асаблівасці сталінскага культу, яны не могуць адхіліць дадзеныя складзеныя сацыяльна-эканамічныя адносіны пэўнай (пачатковай) фазы сацыялізму, пабудаванага, вядома ж, усім нашым грамадствам разам, а не пэўнай асобаю.

У асабістай гутарцы са Сталіным у 1937 г. Л. Фейхтвангер звярнуў увагу на датклівы слыху еўрапейца хор славаслоўяў правадыру, і «крамлёўскі горац» амаль згадзіўся з ім у гэтым, спаслаўшыся на тое, што гэты хор спявае па-за яго воляй і яго амаль немагчыма спыніць [4].

Якія б магутныя ні былі праявы зноў здабытых гістарычных рыс грамадскага руху — усё большае паскарэнне, невераgodны энтузіязм працоўных мас,— усё роўна тое, што існавала на працягу доўгіх стагоддзяў у народзе, не магло знікнуць — ён трансфармаваўся і адаптаваўся да новых умоў сацыяльна-гістарычнага быцця.

Гэтыя векавыя традыцыі грамадскага жыцця (якія адносяцца, вядома, не да аднаго толькі сялянства, а да «миру» ў цэлым, уключаючы і ўсе прамежкавыя пласты, бюракратычны апарат і г. д.) адыгрываюць надзвычай істотную ролю ў лёсе новага напрамку грамадскага жыцця. Правадыр, які яго ўзначальвае, павінен інтуітыўна ўлоўліваць іх, каб заставацца на чале руху.

М. А. Бакунін у XIX стагоддзі даў прыклад адной з найбольш універсальных класіфікацый «галоўных рыс» рускага народнага ідэалу. Гэта тры «добрыя рысы»: 1) уся зямля належыць народу; 2) права на карыстанне зямлёю належыць не асобе, а цэлай абшчыне, «миру»; 3) абшчыннае самакіраванне. Далей названы тры ці нават чатыры «дрэнныя рысы»: 1) патрыярхальнасць; 2) паглынанне асобы «миром»; 3) вера ў ЦАРА; 4) вера ў БОГА (М. А. Бакунин. Государственность и анархия).

Калі згадзіцца з бакунінскай характарыстыкай абшчыннага ідэалу, дык адмоўныя яго рысы трансфармаваліся наступным чынам: вера ў бога, якая прымала часам экзальтаваныя формы асаблівым чынам і пераўвасобілася ў працоўны масавы энтузіязм, хваля якога паўтарыцца зноў у часы вайны з лютым ворагам; вера ў цара («За царя, за Отечество» — з гэтымі словамі заўсёды ішлі на смерць, і нават сялянскія паўстанні былі за «добрага цара») так ці інакш трансфармавалася ў праслаўленне Бацькі народа. Вось чаму, калі Рабесп'ер «сваім



няўмольным тэрорам паскорыў падзенне сваёй партыі» (паводле Пляханава), дык Сталін тэрорам у непараўнана большых маштабах не толькі не паскорыў падзенне сваёй, а хутчэй, наадварот, даволі ўмацаваў яе ўладу і аўтарытэт, які ўсяляў страх.

У гісторыі Расіі з яе феадальна-прыгонніцкімі перажыткамі склаліся дзве доўгія і трывалыя традыцыі: адна — лінія аўтарытарызму з апрычнінай, якая ішла ад Івана IV, і другая — бюракратызму (у прыватнасці, з «фіскальным» апаратам), якая цягнецца ад Пятра I. Толькі на такіх сацыяльна-гістарычных традыцыях, на якіх адстаялася ў стагоддзях усё расійскае грамадства, магла развіцца сталінская дзяржава, абсалютна немагчымая ў Еўропе, пра што і сведчаць шматлікія і сур'ёзныя выступленні супраць дыктату сталінізму ў Югаславіі, і супраць постсталінізму — у Польшчы, Венгрыі, Чэхаславакіі.

Як гэта ні горка ўсведамляць, але наш народ — у процілегласць, скажам, французам — быў якраз «гатовы да працяглага панавання», вельмі нават гатовы (як ні білася з гэтым адчайная сумленная інтэлігенцыя, рады якой, трэба сказаць, істотна парадзелі).

Пляханаў пісаў так: «Чалавек, які ўзводзіцца ў званне дыктатара, павінен быў са свайго боку неспатольна прабівацца да ўлады, энергічна распіхваючы і **бязлітасна душачы ўсіх, хто заступаў яму дарогу».** (Ён меў на ўвазе Напалеона, але гэта самае стасуецца — тыпалагічна — і са Сталіным). Вакол Сталіна ў канцы 20 — пачатку 30-х гадоў было нямала людзей, здольных узначаліць рух, і людзей куды больш яркіх. Разумеючы гэта, ён і зрабіў усё, каб пазбавіцца ад магчымых канкурэнтаў.

І ўсё-такі, калі б не было Сталіна, ці мог узнікнуць у тых сацыяльна-гістарычных умовах з дадзенай айчыннай спадчынай прынцыпова іншы зыход у будаўніцтве новага грамадства? Немагчыма не згадзіцца з мудрасцю Пляханава: «Але канчатковы зыход рэвалюцыйнага руху **ўсё-такі ні ў якім разе не быў бы «процілеглы» сапраўднаму зыходу.**

Уплывовыя асобы, дзякуючы асаблівасцям свайго розуму і характару, могуць змяніць ІНДЫВІДУАЛЬНУЮ ФІЗІЯНОМІЮ ПАДЗЕЙ і некаторыя прыватныя іх вынікі, але яны не могуць змяніць ІХ АГУЛЬНАГА КІРУНКУ, які вызначаецца іншымі сіламі». Слушнасць такой высновы пацвярджае сама гісторыя: у краіне, падобнай на нашую па шэрагу вельмі важных характарыстык — велізарнасць тэрыторыі і насельніцтва, працяглае феадальнае мінулае, слабасць буржуазнага развіцця, традыцыі азіяцкага дэспатызму, адсталасць, нецывілізаванасць асноўнай масы і г. д. падзеі пайшлі ў тым самым «агульным кірунку» (мааізм у Кітаі).

Разглядаючы іншыя праблемы, Пляханаў гэтак жа пранікліва адзначае наступнае: разважаючы пра ролю вялікіх асоб у гісторыі, мы амаль заўсёды робімся ахвярай пэўнага **«аптычнага падману».** Напрыклад, дыктатар, выступіўшы ў ролі «добрай шпагі», што ратуе грамадскі парадак, тым самым адхіляе ад гэтай ролі ўсіх іншых вартых кіраўнікоў, з якіх некаторыя, магчыма, ігралі б яе гэтаксама або — дадамо ад сябе ў нашым выпадку — больш плённа (напрыклад, захаваўшы многія «разумныя галовы»). Паколькі грамадская патрэба ў энергічным ваенным кіраўніку была задаволена (наша тыпалогія дапушчальная і тут, бо Сталін **заўсёды быў у вайсковым кіцелі** не выпадкова — яго кіраўніцтва заўсёды насіла ваенізаваны характар; нагадаем хоць бы «ваенна-феадальныя» метады раскулачвання; судовыя працэсы, што праходзілі як ваенныя трыбуналы), дык усталяваная грамадская арганізацыя рупліва заступіла ўсім іншым аналагічным талентам дарогу да месца Вярхоўнага. І сіла грамадскай арганізацыі (у нашым выпадку — МАНАЛІТНАЯ) тым самым стала даволі неспрыяльнай для выяўлення іншых талентаў такога роду. Дзякуючы гэтаму і адбываецца АПТЫЧНЫ ПАДМАН: **асабістая сіла дыктатара з'яўляецца нам у вельмі перабольшаным выглядзе,** бо мы адносім на яе рахунак **усю тую самую грамадскую сілу,** якая вылучыла і падтрымала яе. Так, напрыклад, гіганцкая грамадская сіла атрымала перамогу над фашысцкай Германіяй, але ёсць людзі, якія дагэтуль прыпісваюць перамогу генералісімусу, які

быў вылучаны гэтай грамадскай сілай на ролю арганізатара. «Яго сіла здаецца нам нечым зусім выключным, таму што іншыя, падобныя на яе, не перайшлі з МАГЧЫМАСЦІ Ў РЭЧАІСНАСЦЬ»,— піша Пляханаў. І калі кажуць: не было б Сталіна — не было б і перамогі, дык «наша ўяўленне проста блытаецца, і нам здаецца, што без яго зусім не мог бы адбыцца ўвесь той **грамадскі рух, на якім [!] грунтаваліся яго сіла і ўплыў»** (Пляханаў). А ў нашым выпадку сюды трэба дадаць яшчэ і надзвычайную інтэнсіўнасць гэтага агульнанароднага «грамадскага руху», калі народ у смяротнай сутычцы адстойваў самога сябе і ўсе такой непамыснай цаною дасягнутыя заваёвы, прычым, вялікі народ, **гістарычна** прывучаны да абсалютнага самазабыцця, **які таму наогул пераматчы нельга.**

Што ж да ролі Сталіна, які стаяў на чале гэтага грамадскага працэсу, дык да таго, як ён нарэшце крыху навучыўся (у другой палавіне вайны) на зробленых раней трагічных і недаравальных памылках і пралiках весці вайну, ён не так дапамагаў гэтаму грамадскаму руху, як усяляк да дзіўнаты ўпарта перашкаджаў яму.

Гэта можна было б зразумець толькі ў адным выпадку, калі б гэтая Асоба з якой-небудзь прычыны хацела, каб спачатку загінула альбо было палонена[5] як мага болей сваіх; так што ў самыя страшныя, самыя цяжкія першыя месяцы вайны народ наш выстаяў безумоўна **не дзякуючы, а толькі насуперак Сталіну.**

У напружанасцях **быцця,** калі ў **падзеі** (прыгледзьцеся: рус. событие!) агаляецца яе сутнасная канструкцыя, таксама праз выпадковасці прабівае дарогу неабходнасць. Украінская трагедыя жніўня — верасня 1941 г., калі быў разгромлены рассечаны на кавалкі велізарны Паўднёва-Заходні фронт (6 армій!), і яе кульмінацыя — гібель усяго штаба (каля 400 афіцэраў, 22 генералы на чале з камандуючым — генерал-палкоўнікам Кірпаносам) — гэта таксама трагедыя невыпадковая, у якой, як у піцы, сканцэнтравалася ўся трагічная эпапея першых месяцаў для ўсіх нашых франтоў.

Як ваенны стратэг і тактык, Сталін зрабіў усё для таго, каб краіна аказалася не гатовай да 22 чэрвеня 1941 года, з цяжка зразумелай упартасцю метадычна робячы як сапраўдны — і самы небяспечны! — унутраны вораг свайго народа...

Можа паўстаць пытанне: ці варта абмяркоўваць сёння нявыкарыстаныя магчымасці, кола ж гісторыі не раскруціш назад? Мне здаецца, варта. Менавіта таму, што роля таленавітай асобы ў ваеннай гісторыі выключна вялікая,— асобы, якая магла б выратаваць свой народ ад лішняй крыві, марна загубленай праз асобу капрызную, упартую, якая не хацела нікога слухаць і літаральна душыла ўсё, што выяўляла самастойны розум і талент[6].

Выпадковасці тых або іншых памылак і няўдач не перашкаджаюць навуковаму вывучэнню пачатку вайны як **цэласнага феномена,** а не калейдаскопа асобных падзей, рухаў такіх ці такіх злучэнняў і воінскіх часцей. Усе ўспаміны нашых маршалаў пра гэты перыяд — пры ўсёй павазе да іх асабістага ўкладу ў агульную справу перамогі — носяць, на мой погляд, менавіта такі, калейдаскапічны, ваенна-статыстычны, характар, а ў адносінах да Сталіна, «пад якім» яны ўсе «хадзілі», ім больш, чым каму-небудзь, уласцівы той самы «аптычны падман», на які звярнуў нашу ўвагу Пляханаў.

І нарэшце, думаецца, настаў час зрабіць самую агульную выснову, адкрытую **як закон** аўтарам «Ролі асобы ў гісторыі», які важны і для сучаснага, і для будучага стану палітыкі і культуры, бо закон гэты універсальны, пазачасавы.

У выніку самай агульнай прычынай гістарычнага руху чалавецтва трэба прызнаць развіццё вытворчых сіл, якімі абумоўліваюцца паслядоўныя змены ў грамадскіх адносінах людзей.

Побач з гэтай **агульнай прычынай** дзейнічаюць **асобыя** прычыны, г. зн. тая **гістарычная абстаноўка,** пры якой адбываецца развіццё вытворчых сіл і народа і якая сама створана ў апошняй інстанцыі **развіццём тых самых сіл у іншых народаў,** г. зн. той самай агульнай прычынай.

Нарэшце, уплыў **асобых** прычын дапаўняецца дзеяннем прычын **адзінкавых,** г. зн. асабістых уласцівасцей грамадскіх дзеячаў і іншых «выпадковасцей», дзякуючы якім падзеі атрымліваюць, нарэшце, сваю **індывідуальную фізіяномію.**

**Агульныя прычыны** руху сучаснага свету адзіныя для сацыялізму і капіталізму — гэта бурнае развіццё вытворчых сіл, якое набірае тэмп. У тых частках свету, дзе яно па нейкіх прычынах затрымалася і адстае ад перадавога сусветнага ўзроўню, яно можа быць інтэнсіфікавана з дапамогаю свядома пастаўленай задачы і адпаведнай ёй навукова-тэхнічнай і сацыяльна-эканамічнай праграмы паскарэння (як гэта робіцца ў нашай краіне з красавіка 1985 г.).

**Асобыя прычыны** — гістарычная абстаноўка — абмалявана ў прамовах і заявах сённяшняга савецкага кіраўніка: гэта свет, які жыве ва ўмовах **ядзернага супрацьстаяння,** якое стварыла беспрэцэдэнтную гістарычную абстаноўку, што ўладна патрабуе радыкальнай змены палітычнага мыслення, **новага мыслення** ў палітыцы і культуры.

Сутнасць гэтага мыслення — у адмаўленні ад застойнай традыцыйнай канфрантацыі, і адмаўленне гэта прадыктавана не **выпадковасцю** новага ўрада, які прыйшоў да ўлады, а неабходным дзеяннем усё тых самых агульных прычын — вытворчых сіл, якія ў розных народаў нарадзілі сілы, здольныя знішчыць усё, значыцца, і саміх сябе.

Нарэшце, зазначаныя асобыя прычыны (зноў-такі не выпадкова) выклікаюць да жыцця такіх **адзінкавых** палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, чые **асабістыя ўласцівасці** мыслення дазваляюць рэалізаваць у **канкрэтных індывідуальных акцыях** тое, чаго ад іх **чакае цяпер гісторыя,** гэта значыць усё чалавецтва.

---

[1] На гэта звярнуў увагу і засцерагаў ад «закрытасці» («замкнёнасці») Энгельс яшчэ ў сярэдзіне 70-х гадоў: «Рускія павінны будуць скарыцца таму **непазбежнаму міжнароднаму лёсу,** што ад гэтага часу іх рух будзе ісці на вачах і пад кантролем астатняй Еўропы. **Нікому не давялося так цяжка паплаціцца за ранейшую замкнёнасць,** як ім самім. Каб не гэтая замкнёнасць, іх **нельга было б гадамі так ганебна дурыць...** І больш за ўсё карысці ад крытыкі з боку Захаду, ад узаемнага міжнароднага ўздзеяння розных заходнееўрапейскіх рухаў на рускі і наадварот, ад здзейсненага, нарэшце, зліцця рускага руху з агульнаеўрапейскім здабудуць самі рускія. (К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 18. С. 526.)

[2] Праўда, сённяшнія даследаванні ўнеслі ў гэтую карціну істотныя папраўкі: выявілася, што даныя, прыведзеныя статыстыкай у 30-я гады, былі «дутыя». Так што, строга кажучы, індустрыяльнай краінай у поўным сэнсе гэтага слова (г. зн. калі доля прамысловасці перакрыла долю сельскай гаспадаркі ў вытворчым нацыянальным прыбытку) СССР стаў зусім не ў 30-х гадах, а толькі ў 60-х. Гл.: ЭКО, 1988, № 8, с. 5.

[3] Былі і адкрытыя акты пратэсту («Манифест» Руціна, 1932 г., пазіцыя Бухарына); але, безумоўна, большасць асоб славіла Сталіна як бацьку дзяржавы, што здзейсніў цуд.

[4] «Падхалімніцкі дурань прыносіць болей шкоды,— злосна сказаў Сталін,— чым сотні ворагаў». Усю гэтую шуміху ён трывае, заявіў ён, толькі таму, што **ведае, якую наіўную радасць дае святочная сумятня тым, хто яе наладжвае,** і ведае, што ўсё стасуецца да яго не як да пэўнай асобы, а як да прадстаўніка плыні, якая сцвярджае, што пабудова сацыялістычнай гаспадаркі ў Савецкім Саюзе важнейшая, чым перманентная рэвалюцыя» (Л. Фейхтвангер. Масква — 1937 (студзень).— М., 1937. С. 65.

[5] Што, у сутнасці, было амаль адно і тое самае — і гэта само па сабе таксама вельмі дзіўна: бо чалавек, які трапіў у нямецкі палон (няважна, па чыёй віне), аўтаматычна аб'яўляўся ў сябе на радзіме як бы па-за законам, так што вызваленыя з нямецкіх канцлагераў савецкія ваеннапалонныя амаль аўтаматычна накіроўваліся ў «свае» лагеры ў Сібір, на Поўнач або, у лепшым выпадку, у штрафбаты — «крывёю змываць віну» (невядома, чыю і якую).

[6] У прамове пра Вялікую Айчынную вайну Сталін сказаў, асабліва падкрэсліваючы ролю рускага народа: «Але кроў, пралітая нашымі людзьмі, не прапала марна...» На вялікае няшчасце, у вельмі многіх выпадках яна якраз менавіта і прападала марна, бо пра яе вельмі клапаціліся ў тыя часы заўзятыя «рэвалюцыяністы» — камандзіры, якія больш думалі не пра салдацкія жыцці, а як бы «начальству дагадзіць», бо, не дагадзіўшы, усяго пазбавішся, аж да ўсячэння сваёй галавы. Вось жа якая была створана сацыяльна-псіхалагічная атмасфера, што губіла ўсё сумленнае, таленавітае, смелае, самастойнае.



ПАРАЗВАЖАЕМ!

Валерый ЛАПІН

# ПРЭСТЫЖ



Адстаўка дылетанту ўжо мажлівая, але яшчэ не дадзена. Таму інжынер і сёння стаіць ля станка, а ўчарашняя троечніца пасля тэхнікума лепш пачувае сябе за канцылярскім сталом і з маленькай зарплатаю «радавога ўпраўленца».

Аб'яўлены, але пакуль рэальна і цалкам не здзейснены гасразлік неўзабаве, паступова і ўсё-такі хутка, павінен навучыць працоўныя калектывы працаваць па-іншаму. Рацыянальна працаваць. Эфектыўна. Аднак усё новае — гэта ў многім забытае старое. Няхай гэта будзе фітатэрапія, адраджэнне хутароў ці запозненае ўсведамленне таго, што за розную працу трэба і плаціць па-рознаму. І няма нічога дзіўнага ў тым, што сёння ў прэсе досыць часта сустракаюцца аналогіі цяперашніх перамен з падзеямі ў эканамічным жыцці краіны напярэдадні першых пяцігодак.

Як і шэсць з лішкам дзесяцігоддзяў назад не хапае самага неабходнага: жылля, мэблі, прадуктаў харчавання, моднае адзежы... І самае вострае цяпер пытанне: адкуль і як хутка ўсё гэта возьмецца? Ды яшчэ ў велькай колькасці (каб — канкурэнцыя!) і адмысловае якасці?

Вядома, рукі рабочых ствараюць усё багацце гэтага свету, а разняволеная праца творыць цуды. Але да самых залатых рук няблага было б мець яшчэ і светлую галаву. Якая, дарэчы, не дапусціць новых «цудаў» накшталт усялякіх «паляпшэнняў» прыроды намаганнямі меліяратараў ці збудавання грандыёзных прадпрыемстваў па вырабе нікому не патрэбных вырабаў.

Калі на сусветным рынку ўпала цана на нафту і нафтапрадукты, мы адразу і балюча тыцнуліся носам у канчаткова збяднелыя вітрыны. І чым менш імпартных тавараў, тым усё больш папулярныя робяцца «імпартныя» паняцці менеджэры, аўкцыянеры, кан'юнктура, канвертабельнасць... Міністэрствы, генеральныя і проста дырэктары аб'яднанняў, фабрык, заводаў па ўсёй краіне шукаюць класных спецыялістаў, таленавітых канструктараў, людзей, у якіх вірую ць і вірую ць ідэі. Шукаюць. Але не ўсе знаходзяць... І гэта натуральна. Бо за апошнія гады ў 15 разоў павялічыўся конкурс у гандлёвыя навучальныя ўстановы і ВНУ, чые выпускнікі працуюць у сферы абслугі, а прэстыж творчае працы на вытворчасці дужа ўпаў.

У Міністэрстве народнай асветы БССР аўтару паведамілі:

— Самыя прэстыжныя інстытуты рэспублікі — інстытут народнай гаспадаркі, медінстытут, інстытут культуры. Самыя непрэстыжныя — тэхнічныя ВНУ. Такія, як Брэсцкі інжынерна-будаўнічы ці Наваполацкі політэхнічны. Туды зазвычай паступаюць не лепшыя выпускнікі школ.

Карацей кажучы, усе ці амаль усе «светлыя галовы», медалісты, пераможцы алімпіяд па фізіцы, хіміі ці матэматыцы ўжо гадоў пятнаццаць—дваццаць у выніку трапляюць куды хочаце, толькі не на «вастрыё тэхнічнага прагрэсу», не пад дахі (пра абаронную і касмічную прамысловасць мы тут не гаворым) праектных, даследчых інстытутаў, а таксама прадпрыемстваў.

Чалавек шукае дзе лепей. Што, вядома, натуральна. Затое зусім ненатуральна, проста крыўдна і страшна: найбагацейшая краіна (якая толькі золата «намывае» за год сотні тон) вымушана рашэннем Вярхоўнага Савета зацвярджаць дзяржаўны бюджэт на 1989 год са шматмільярдным дэфіцытам. І пры гэтым, як паведаміла нядаўна газета «Известия», «толькі на складах прадпрыемстваў Дзяржзабеспячэння цяпер замарожаны таварныя запасы на суму звыш 450 мільярдаў рублёў. Гэта амаль палова ўсяго нацыянальнага валавога прадукту! Апрача таго, 14 мільярдаў замарожаных сродкаў — у неўсталяваным абсталяванні, ды яшчэ 9 мільярдаў — у звышнарматыўным незакончаным будаўніцтве. Усё гэта вынік гаспадарання, якое абапіраецца на састарэлыя ўяўленні».

Адно з самых небяспечных састарэлых уяўленняў — уяўленне аб працы інжынера, як аб працы непазбежна руціннай, працы, якая адымае нервы і дрэнна аплачваецца,— і таму працы не ганаровай. Не ганаровай! Пра каго нашы песні і вершы? Не пра спецыялістаў, вядома. Пра інжынераў усё болей з эстрады — жартаўлівыя, ды ўсё ж спачуванні... Памятаеце, як у Хазанава:

— Просты савецкі інжынер... Просты англійскі інжынер...

Смех у зале! Смех, выкліканы элементарным прыёмам проціпастаўлення, кантрасту. Але пры ўсім тым, вядома, існуе і падтрымліваецца ўпэўненасць: нашыя студэнты не горшыя за «іхніх», нашыя дыпламаваныя камандзіры вытворчасці могуць, калі захочуць, усё, што хочаш.

А мы ж даўно ўжо хацелі нават не ўсяго, а хаця б дзесятае часткі таго, што рэкламуецца ў заходніх (цяпер ужо, выяўляецца, ідэалагічна няшкодных) каталогах. Што толку, што яшчэ М. С. Хрушчоў сказаў: «...Але нельга ж, каб усе мелі правільную ідэалогію, а без штаноў хадзілі?» Разумная фраза была сказана, перамен жаданых не было.

Добрыя штаны сёння прадаюцца ў ГУМе за 100—140 рублёў. Якраз зарплата маладога спецыяліста. Дарэчы, і прадаюцца ж «фірмовыя» штаны — нават з суседняе Польшчы — усё радзей і радзей... Чаму так?

Прыйшла вострая патрэба зарабляць валюту не толькі продажам нафты, газу ці золата з брыльянтамі. Каб хоць бы нармальныя лёзы для галення, лекі, пасту зубную ў капіталістаў працягваць купляць. Але ж калі хочаш нешта купіць — павінен нешта прадаць.

І ўжо як мы спрабуем прадаваць! Усё, любое, за нішто амаль. Толькі купіце! Аднак глядзяць на нашчадкаў

«чырвоных купцоў», здаецца, як на купцоў зусім не першае гільдыі. Давайце пацікавімся, якія беларускія «тавары для народа» імпартуюцца з рэспублікі ў самыя развітыя ў эканамічных адносінах краіны. Японія, напрыклад, нядаўна папрасіла адгрузіць шкло, трохі прасцін, поліэтылен, сто гадзіннікаў «Луч» (напэўна, для якой-небудзь крамы з рэкламаю «У нас — любыя гадзіннікі!»), а таксама дэмітылтэрэфталат, атрутлівая вытворчасць якога, дарэчы, у сямідзесятыя гады наладжана ў Магілёве. ЗША імпартавалі зноў-такі нашае таннае шкло, трошачкі посуду, карагоды драўляных «матрунак» і іншыя нацыянальныя сувеніры. Зжыжаны газ, поліэтылен, мізэрная колькасць радыёпрыёмнікаў і трохі больш прыкметную партыю халадзільнікаў плюс, натуральна, усё тое ж шкло цягнікі павезлі ў ФРГ. Французаў цікавілі толькі халадзільнікі, торф і костка трубчастая. Працягваць пералічваць прадметы нашага экспарту другой паловы васьмідзесятых? Напэўна, няма сэнсу. Зусім ясна: гандлюем пераважна тым, над чым творчая інжынерная думка доўга не білася. Прыемнае выключэнне тут — беларускія халадзільнікі. Праўда, прадаём мы іх па той цане, па якой ва ўласных магазінах купляем пару відэакасет. І то — калі пашэнціць.

— А гэта ўвогуле як, выгадна? — спытаўся аўтар ва ўпаўнаважанага Міністэрства знешнеэканамічных сувязей СССР пры Савуміне БССР Васіля Кузьміча Максімава.

— Увогуле выгадна...— адказаў ён.— Мы на со доларай можам купіць там вырабы, за якія савецкі спажывец з радасцю аддасць сотні і сотні рублёў.

Гэта праўда. Нас даўно прывучылі, скарыўшыся, набываць такія нізкаякасныя і жудасна дарагія адзежу і абутак, што любы замежны тавар шырокага спажывання, «іхні некідыя» уяўляецца нам вяршыняю майстэрства мадэльераў, ткачоў, краўцоў, шаўцоў. А за гэта — ніякіх грошай не шкада. Да таго ж, цэны і на ўласныя «тавары для народа» ў апошнія гады «всё выше, и выше, и выше...».

Вось апошняя зводка Дзяржкамстата СССР пра сярэднія рознічныя цэны на асобныя тавары. З яе можна даведацца, напрыклад, што ў 1980 годзе жаночае зімовае паліто (акруглена, у сярэднім) каштавала 181 рубель, а ў 1988 годзе — 285 рублёў. Курткі з сінтэтычнай тканіны для дзяцей у год Маскоўскай алімпіяды прадаваліся па 22 рублі, летась — ужо па 37. А «таварны голад» усё роўна абвастрыўся... Зрэшты, навошта доўга гаварыць пра тое, што і так кожнаму зразумела і вядома. Тут больш карысна спытацца ў Васіля Кузьміча Максімава:

— Можа, трэба папраўіць становішча з дапамогаю заходніх валютных рынкаў, пазыковых сродкаў? Возьмем крэдыты, забяспечым передавой тэхналогіяй машынабудаванне, закупім усё тое, чаго цяпер няма на нашых прылаўках. Перадыхнём, узбадзёрымся і закасаўшы рукавы прымемся падымаць нашу эканоміку. Га?

— Не атрымаецца. Праўда, такія думкі, падобныя прапановы, трэба сказаць, выклікаюць цяпер у эканамічных «кулуарах» гарачыя спрэчкі. Але пры ўважлівым разглядзе ідэя выклікаць паток долараў у краіну рубля бачыцца як неразумная. Бо чаго нам не хапае, каб самім выпускаць усё неабходнае? Сыравіны? Ёсць — і любая. Заводаў няма, фабрык? Велізарны народнагаспадарчы комплекс! Проста вялікі шэраг галін вытворчасці адстае ў тэхнічных адносінах ад сусветнага ўзроўню. А адстае, між іншым, яшчэ і таму, што імпарт машын і абсталявання на «няўлічаныя» грошы ў сямідзесятых зусім не вывеў заводы і фабрыкі на бліскучыя тэхналагічныя вяршыні. Наадварот, гэта прывяло да пэўнага замарожвання якасці асобнай тэхнікі, інжынернай думкі. Цяпер неабходны прарыў, і ў авангардзе павінна ісці не праца да знямогі, не доларавы крэдыт, а пошук вучоных, творчасць спецыялістаў, разумны рынак, прадпрымальнасць.

З упаўнаважаным Міністэрства знешнеэканамічных сувязей СССР В. К. Максімавым аўтар згодны цалкам. Згадаем: суседзі-палякі пераўзбройвалі прамысловасць менавіта за кошт буйных заходніх крэдытаў. Пакуль заводы былі пабудаваны і абсталяваны, прадукцыя іх стала неканкурэнтаздольная. Цяпер польскія спецыялісты прызнаюць, што ПНР не хапае сродкаў, каб аплачваць працэнты па знешніх пазыках...

Быццам бы і зразумела: без сучасных кулібіных, паповых, паўзуновых, мендзялеевых, каралёвых жыць усё ж такі можна, але ганарыцца — няма чым. Не ў нас лепшыя сродкі сувязі, радыётэхніка, транспарт... Тую ж «мармурку» («варенку») прыдумалі там, дзе калісь захапляліся расійскай выдумкаю. Матрунак жа, між іншым, дагэтуль ахвотна купляюць... Ну, не крыўдна? Зрэшты, а на каго крыўдаваць?

Адыдзем ад гэтага рытарычнага пытання. Гады паўсну грамадскае думкі былі часам акселерацыі талентаў. А час — гэта людзі. Мы. Ці нашы бацькі. Вось так вось...

Цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, недзе ў суседзяў грае магнітафон. Тэкст неблагі: «Сегодняшний день — не вчерашний день, на мягких подушках не въедешь в вечность». Ужо чатыры гады гаворым, спяваем, выступаем. І што цікава: за агульным гвалтам сапраўды «глушацца» вельмі важныя словы, нават каментатары неяк не звярнулі асаблівае ўвагі, напрыклад, на наступны прагноз М. С. Гарбачова, абнародаваны ім пры сустрэчы з моладдзю Масквы і Падмаскоўя:

— Без новых тэхналогій аднымі новымі метадамі гаспадарніцтва не вырашыць усіх праблем. Так, у першыя гады мы атрымаем эфект на аснове перабудовы эканамічных адносін і ў прамысловасці, і ў аграрным



сектары, і ў сферы гандлю. Але, каб выйсці на вышэйшую прадукцыйнасць працы, нам патрэбна сур'ёзнае прасоўванне ў сферы навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Упэўнены, што, ідучы такім шляхам, мы справімся з пастаўленымі задачамі, хоць гэта і нялёгка. Застойныя гады пакінулі нашаму грамадству багата негатыўнай спадчыны. Сярод іх і ўраўнілаўка, і ўтрыманства, сацыяльная апатыя — усё гэта трэба перааолець, і гэта ўжо адбываецца на аснове працэсаў, якія мы разгарнулі ў краіне.

Атрымліваецца, адны толькі новыя метады гаспадарання — не панацэя ад усіх хваравітых праблем. Але якраз перабудова ў вытворчасці, ва ўсім грамадстве, у яго ўсведамленні паступова здымае тармазы з машыны навукова-тэхнічнага прагрэсу. Кожнага дня газеты прыносяць паведамленні: недзе з'явіліся сумесныя прадпрыемствы, і заходнія рабочыя жэняцца з беларускімі, рускімі дзяўчатамі, недзе калгас са стратнага стаў перадавым, зусім побач «рэптам» навучыліся рабіць рэчы, што сталі аздабляць вітрыны заморскіх гандлёвых цэнтраў...

Але па-ранейшаму на заводах і фабрыках маладыя спецыялісты чуюць:

— А, студэнт... Забудзь, чаму цябе вучылі. Тут — жыццё.

Жыццё, якое прывяло да «фабрычна-заводскай дзедаўшчыны», да стварэння індустрыі «новых вырабаў па цане ўжываных».

Тут варта, напэўна, прывесці хоць бы 2—3 з тых многіх дзесяткаў маналогаў аб крызісе інжынернага прэстыжу, якія аўтар пачуў за апошні час. Напрыклад, вось што (сярод іншага) непакоіла члена ЦК КПБ, слесара-зборшчыка Мінскага ВА па выпуску працяжных і адразных станкоў імя С. М. Кірава Уладзіміра Пятровіча Палячонка напярэдадні яго нагага нядаўняга зацвярджэння ў склад камісіі ЦК КПБ па пытаннях арганізацыйна-партыйнай і кадравай работы:

— Шмат разоў я быў у камандзіроўках за мяжою. Амаль усю Еўропу аб'ездзіў: устанаўліваў нашы станкі. Зусім не ўсюды іх хваляць за якасць, а вось цаною пакупнікі вельмі нават задаволеныя: танна! Думаю, даўно пара нам навучыцца рабіць менш, але лепш. Замест 5 станкоў — няхай 2, але больш надзейных, сучасных, а значыцца, і больш дарагіх і больш прадукцыйных, больш даўгавечных і менш матэрыялаёмістых. І гэтая задача не столькі для рабочых-рацыяналізатараў, колькі, вядома, для распрацоўшчыкаў, канструктараў. А яны сёння, напэўна, не часта ўскрыкваюць: «Эўрыка!»...

Трохі з іншага боку запрасіў мяне паглядзець на праблему «інжынер — вытворчасць — грамадства» намеснік галоўнага арбітра Дзяржарбітражу Мінскай вобласці Рыгор Рыгоравіч Марноўскі:

— Вельмі часта канфлікты, спрэчкі паміж працоўнымі калектывамі ўзнікаюць менавіта з-за інжынерных недапрацовак, чыйгосьці кіраўніцкага галавацяпства. Адны толькі «няўвязкі» ДАСТаў ці нізкая якасць тэхнікі пазбаўляюць нас з вамі магчымасці бачыць у магазінах больш хімічных тавараў...

А вось такімі ўспамінамі падзяліўся са мною член партыі з 1919 года мінчанін Аляксей Яфімавіч Лабачоў:

— Што азначала для мяне напярэдадні рэвалюцыі, потым у дваццатыя гады слова «інжынер»? Гэта — ведаў я — спецыяліст з надзвычай шырокімі ведамі, майстар з майстроў. Недарэмна ж вельмі скупы гаспадар плаціў рабочаму 300 рублёў у год, а інжынеру — 15 тысяч. На інжынераў мы глядзелі так, як сёння на касманаўтаў... Мы зрабілі вялікую памылку, паступова зусім абясцэніўшы становішча тэхнічнай інтэлігенцыі.

У нас (на шчасце ці на жаль) усё адбываецца неяк запознена. «Сексуальная рэвалюцыя», праблема «лішніх», мода на «рок», прызнанне ўласных сацыяльных «язваў»... І аднаго, можа, самага важнага, дагэтуль няма: няма асэнсавання неабходнасці напоўніцу заахвочваць работу творчае думкі. Можна, вядома, называць дзівакамі і кпіць з беднасці знаёмага з ліку тэхнічнай інтэлігенцыі. Але трэба разумець: чым горш жывецца яму, тым горш — усім.

Вазьміце сённяшнія газеты. Я ўпэўнены: будуць публікацыі пра тое, як недзе павярнуліся тварам да звалкі і запускаюць «у справу» ржавыя электраматоры, як па 16 гадзін у дзень працуе (дружная і шчаслівая) сям'я на падрадзе, як рэзка ўзрасла колькасць людзей, што жадаюць працаваць хоць да сёмага поту, але толькі б нешта з гэтага мець... Не хачу тут спрачацца (а жадаючыя ўступіць у спрэчку абавязкова знойдуцца) аб магчымасці пабудовы эканамічнага шчасця на ўжо выпрабаваным «Дашь!». Вядома, праца ёсць праца. Не забава, не гульня. Але яна можа быць рознай... Колькі чалавек з рыдлёўкамі і за колькі дзён выкапаюць катлаван, які за адну гадзіну пакіне пасля сябе экскаватар. Зрэшты, любы з нас падобных «калючых» пытанняў гатовы «нанізаць» дзесяткі.

Словам, сёння хапае заклікаў «аддаць усе сілы», але хто сцвярджае, што колькасць спаленай мышачнай энергіі прама прапарцыянальная канчатковаму выніку? Ніхто.

Аўтар размаўляў з эканамістамі, партыйнымі і камсамольскімі работнікамі, дырэктарамі вытворчасцяў, тэхнолагамі, людзьмі, якія займаюцца статыстыкай, «праблемамі перабудовы», кааператарамі і арандатарамі — усе прыходзілі да адная высновы: аднача́сна з падняццем прэстыжу працы рук трэба падымаць прэстыж працы думкі. А гэта ну ніяк не атрымліваецца. І ўжо шумяць дыскусіі: хто і чаму зайздросціць грошам «самых прадпрымальных»? Вядома, прычыны для зайздрасці ёсць. У выпускніка універсітэта аклад 140, у выпускніка сярэдняй школы, які стаў, напрыклад, гаспадаром уласнай саматужніцкай «фірмы» «Мантана» — у тры разы больш кожны месяц толькі «на ашчадную кніжку» выходзіць. Гэта дрэнна? Добра, калі за працу, і калі не зважаць на ўкрадзеную «лэйбу». Дрэнна, што і сёння малады спецыяліст — як «малады» ў арміі. Чакай, маўляў, сваёй чаргі да «кармушкі», тады і асобаю станеш.

Хто ж прыйдзе на нашую вытворчасць і палепшыць усё — ад упакоўкі вадкіх і цвёрдых прадуктаў да адзежы, абутку, мэблі, аўтамабіляў?.. Кааператары? Вось перада мною апошняя «Коммерческая хроника» даведачна - інфармацыйнай службы «Факт». Там прама гаворыцца, што апошнім часам значнае перавышэнне попыту над прапановаю кааператараў мела месца ў сферы такіх паслуг: рамонт абутку, адзежы, халадзільнікаў, зашкленне лоджый, выраб фортак. І яшчэ паведамляецца, што дынаміка попыту на кааператыўныя побытовыя паслугі, абслугоўванне ЭВМ, аўтасервіс, рамонт кватэр, кравецкія работы, выраб мэблі, афармленне інтэр'ера, выраб абутку і будоўля гаражоў ідуць са знакам «мінус»...

Падобна, між іншым, яшчэ нядаўна цяжка было чакаць...

Не, не выпадкова якасць кааператыўных паслуг ацэньваюць цяпер вышэй (у параўнанні з дзяржаўнай) толькі 44 % мужчын і 20% жанчын, а такім самым яго лічаць 9% мужчын і 17% жанчын. Вясёлая статыстыка? Разам з тым стабільна расце колькасць выпускнікоў ВНУ, якія жадаюць на тых ці іншых умовах працаваць у кааператывах. У «Коммерческой хронике» (а яна, дарэчы, друкуецца на ратапрынце ў друкарні пры НДІ працы ў выглядзе тонкай брашуры і каштуе роўна 5 рублёў) публікуюцца здымкі «спецыялістаў, зарэгістраваных у камп'ютэрным блоку». Інакш кажучы, спісы людзей, што прапануюць свае паслугі. Што за людзі? Што за паслугі?

Кравецтва, вязанне, мадэліраванне адзежы, выраб капелюшоў і біжутэрыі, работы з футрам гатовыя ўзяць на сябе геафізік, фотажурналіст, тэхнолаг, выкладчык, інжынер-механік... Будаўніцтвам рады займацца інжынер-будаўнік, кухар трэцяга разраду, інжынер, электрамеханік... Транспартныя паслугі хочуць рабіць інжынер-механік, майстар з вышэйшай адукацыяй, інжынер... Рамонт бытавой тэхнікі рады зрабіць інжынер-механік, радыёінжынер, кінамеханік, радыётэхнік... Эканамічныя кансультацыі даюць бухгалтары, эканамісты, юрысты, выкладчыкі... Скрозь інжынеры бяруць на сябе адказнасць кансультаваць па арганізацыі вытворчасці... Так і карціць крыкнуць:

— Што ж вы на працы ў сябе маўчыце? Спіце, сіл набіраецеся?

Ды што толку так крычаць? Разумеем жа...

Не, хлопцы і дзяўчаты, што раздумваюць «делать жизнь с кого»! Неабавязкова «делать ее с Дзержинского». Але толькі не трэба апатычна і хмурна «плявáць» на свае захапленні хіміяй і фізікай, мадэліраваннем і, вядома, танцамі... Несумленныя мяснікі, далакопы, бармены яшчэ нейкі час будуць жыць і багата, і ўпэўнена. Але не іх час наперадзе. Усе «традыцыйныя» меркантыльныя ўмяшанні ў мару і выбар школьніка цяпер яшчэ, на жаль, мажлівыя. Толькі трэба разумець: і наш свет з галавы становіцца на ногі. Асмелюся зрабіць свой прагноз: будучыня — за вамі, хто марыць і думае, хто можа стаць стваральнікам эканамічнага цуду нашай краіны. А ён ужо мажлівы. Ён, спадзяёмся, блізкі. І ён узнагароджвае кожнага па здольнасцях і працы ягоных.

# ЗА ШЫРМАЮ ПАРАДНАГА ЛОЗУНГА

**Наш карэспандэнт Леанід ЕКЕЛЬ гутарыць са старшынёю праўлення Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна Уладзімірам ЛІПСКІМ.**



— Доўгія гады ў нашую свядомасць уштампоўвалася: «Усё лепшае — дзецям». Лозунг і сапраўды святы. Так, у нас шмат недахопаў: і таго няма, і пятага, і дзесятага не стае, але гэта датычыць дарослых. А дзеці — адзіны прывілеяваны клас. Тут у нас — поўны парадак. Як нідзе ў свеце... Звыкла мільгалі на экранах, вокладках часопісаў і газетных палосах шчаслівыя дзіцячыя твары. І подпісы пад імі: «За нашае шчаслівае маленства дзякуй, родная краіна». А заараднымі кадрамі надзейна былі прыхаваны цяжкая праца юных баваўнаводаў, жабрацтва і высокая смяротнасць, казарменныя дзетдомаўскія парадкі. Тое, што магло быць толькі **ў іх,** існавала аднак **у нас** пад дымавой заслонаю ледзь не ваеннае сакрэтнасці. Здаралася, якія-небудзь непрывабныя факты траплялі ў друк. Іх адразу ж называлі «нетыповымі», сцвярджалі, што яны «маюць месца толькі ў асобных выпадках».

Каму ж патрэбны быў гэты падман? Ці, можа, такім чынам закалыхвалі нашае сумленне, спрабавалі зняць раздражненне ад неўладкаванасці і дыскамфорту, ад дрэнных тавараў і бясконцых чэргаў? Навошта, маўляў, марна нервавацца: усё лепшае ў нас — дзецям. Ваша думка, Уладзімір Сцяпанавіч, аб усім гэтым?

— Пра фальш многіх лозунгаў застою, што кумачовымі павязкамі засланялі нашы вочы ад праўды, сказана шмат. І пра цынізм у дзяржаўным маштабе таксама казалася не раз. Ды хіба ад таго лягчэй? Хіба горкая ісціна, што дзеці нашы карысталіся і працягваюць карыстацца аб'едкамі з грамадскага стала, стане менш горкай? Я маю на ўвазе не толькі дзіцячыя дамы, дамы малютак. З нашымі сацыяльнымі бедамі дзіця сутыкаецца ледзь з'явіўшыся на свет. Цяперашнія радзільныя дамы — сапраўды Галгофа для жанчыны. І хто ведае, можа, тыя ўніжэнні, якія адчувае яна тут, пакідаюць у яе псіхіцы след глыбейшы, чым непазбежныя пакуты пры родах. Ці ж не таму так шмат маладых жанчын, якія не жадаюць мець другое дзіця?..

Дзіцячыя паліклінікі, бальніцы, санаторыі — гэта праблемы, якія не перастаюць напамінаць пра сябе немым крыкам, пераходзяць з аднае пяцігодкі ў другую. Шмат разоў сутыкаючыся з імі, чалавек міжволі пытаецца ў сябе: «А можа, усё гэта не па сілах дзяржаве? Ці, прынамсі, праблемы гэтыя не галоўныя?» Так ці інакш, відавочна адно: без удзелу і дапамогі ўсяго грамадства дзяржаве тут не абысціся...

— Уладзімір Сцяпанавіч, у нашай гутарцы пакуль пераважаюць эмоцыі. А тут, як нідзе, бадай, маюць значэнне лічбы, факты.

— Ну што ж, пяройдзем да лічбаў. Маё параўнанне радзільных дамоў з Галгофаю, сімвалам пакут, невыпадковае. Толькі летась у нас у рэспубліцы пры родах памерла з розных прычын 1 255 дзяцей. 593 дзіцяці памерлі на першым месяцы іх жыцця. А да аднаго года — 2 160 дзяцей. На кожную тысячу ад года да 15 гадоў у рэспубліцы памірае 10 дзяцей. Якія прычыны смерці? На першым месцы — анкалогія. Затым — няшчасныя выпадкі, траўмы. Нарэшце, інфекцыі, захворванні крыві. І пры такой вось сітуацыі ў рэспубліцы няма ніводнай дзіцячай анкалагічнай бальніцы. Хворыя, перад многімі з якіх медыцына бяссільная, знаходзяцца ў адных палатах з іншымі дзецьмі. Яны паволі чэзнуць на іхніх вачах. Хіба гэта не жудасна?..

На дыспансерным уліку ў рэспубліцы — 382 910 дзяцей. А дзіцячых санаторыяў усяго толькі 20. Прычым яны ў такім стане... Далёка па прыклад хадзіць не прыйдзецца. Дзіцячы санаторый «Астрашыцкі гарадок» знаходзіцца за 14 км ад сталіцы. Што называецца, на вачах у высокага кіраўніцтва. Давайце паслухаем невясёлы расказ галоўнага ўрача санаторыя Станіслава Францавіча Рымашэўскага: «Будавалі санаторый без праекта. Будаўнікі — навучэнцы ПТВ. Пра якасць і тэмпы працы гаварыць не прыходзіцца. Пакуль выведуць будынак пад дах, сцены патрабуюць капітальнага рамонту. Дробны рамонт, вядома, робяць дактары, сёстры...

За сорак гадоў існавання санаторыя ў яго ных сценах не раз успыхвалі пажары. Агонь знішчыў ізалятар, кабінет лячэбнай фізкультуры, дэзінфекцыйную камеру, памяшканне бухгалтэрыі, архіў. Згарэла лазня. Дзеці вымушаны мыцца ў пральні. Гарачай вады не хапае: кожнаму дастаецца ўсяго толькі па два тазікі. Дзяржпажарнагляд загадаў знесці будынак з пячным абсталяваннем, і цяпер мы не маем школы. Катлы для абагравання — малой магутнасці. Узімку тэмпература 13—16 градусаў вышэй нуля. Дзеці вымушаны спаць у спартыўных касцюмах, кофтах, шкарпэтках... А гэта ж не проста дзеці, а з пачачнай паталогіяй. І такіх дзяцей у рэспубліцы на ўліку — 15 244. Кожны чацвёрты з іх — з цяжкімі формамі захворвання. 800 дзецям медыкі бяссільныя дапамагчы...

Па 15 і больш камісій прыязджаюць да нас кожны год. Ходзяць чыноўнікі, глядзяць, занатоўваюць нешта ў блакнотах, спачуваюць, нават абураюцца. Але ўся іхняя дзейнасць на гэтым і канчаецца. А мы як былі каля разбітага карыта, так з гэтым і засталіся. Прыязджалі да нас і высокапастаўленыя функцыянеры, якія цынічна заяўлялі, што такое прыгожае месца грэх аддаваць дзецям. Яго трэба было б выдзеліць для Дома творчасці пісьменнікаў, мастакоў...

Ёсць дакументацыя на новы санаторый, аднак Міністэрства аховы здароўя не можа знайсці падрадчыка. Галоўмінскбуд, які даў раней згоду, цяпер адмахваецца ад нас любымі сіламі. Нічога абсалютна не далі мае захады ў Саўмін і Вярхоўны Савет рэспублікі. Непрабівальная сцяна абыякавасці...»

І такое становішча — на жаль! — зусім не выключэнне. Апошнім часам, праўда, дзецям перадалі некаторыя лячэбныя аб'екты, якімі дагэтуль карысталіся зазвычай наменклатурныя работнікі, іхнія жонкі і дзеці. Але ж гэта — кропля ў моры. Гэта ж крошкі з вялікага стала, пра якія я ўжо казаў...

Да вышэй сказанага дадам такія вось лічбы: у нашай рэспубліцы 18 дзіцячых дамоў, 13 дамоў малютак і 20 школ-інтэрнатаў для дзяцей-сірот і тых, хто застаўся без бацькоўскай апекі. У іхніх сценах жыве звыш 7 000 дзяцей. Вось што павінна стаць важнейшым аб'ектам перабудовы. Гэта ж змена нашага грамадства. А гледзячы на тое, што яны пазбаўлены самага элементарнага, без чаго не можа быць ні нармальнага дзяцінства, ні юнацтва, міжволі пытаешся: «А якім жа будзе тады гэтае грамадства?» Я пра тое, што, калі сёння менавіта тут не будзе здзейснена перабудова, потым яна ўжо не спатрэбіцца...

— Бадай, толькі чалавек, у якога скамянела душа, амярцвелі ўсе пачуцці, апрача біялагічных позываў, няздольны гэта зразумець. Але каб змены адбываліся істотныя і сёння, а не ў неакрэсленай будучыні, патрэбны велізарныя сродкі. Дзяржаўная датацыя ўсіх праблем не вырашыць...

— Менавіта ў гэтых мэтах і створаны Савецкі дзіцячы фонд імя У. І. Леніна ў Маскве і ягоныя філіялы ў рэспубліках. За год работы на наш рахунак паступіла 2 мільёны 137 тысяч 558 рублёў... Узносы робяцца выключна добраахвотна. Гэта справа сумлення. Пералічваюць грошы і арганізацыі, і прыватныя асобы. Белсаўпроф, напрыклад, пералічыў 100 000 рублёў, Мінгандаль — 50 000. Пісьменнік Эдуард Скобелеў, атрымаўшы ганарар за чарговую кнігу, перавёў на наш рахунак 2 325 рублёў. 655 рублёў пералічылі мінскія школьнікі са СШ № 15. Але справа, вядома, не ў суме. Няхай гэта будзе 5, 10 рублёў — не ў гэтым сутнасць. Нашмат важней — рух душы, спачуванне, шчырае імкненне не застацца ўбаку ад народнае справы...

Як і куды расходуем мы сродкі? Ну, па-першае, 40 працэнтаў пералічваем ва Усесаюзны фонд. Хачу агаварыцца адразу: гэтыя грошы вяртаюцца да нас у іхнім, так сказаць, матэрыялізаваным выглядзе. Больш за 10 аўтобусаў з надпісам «Советский детский фонд» атрымалі нашы дзіцячыя дамы на працягу года. Значная сума пераведзена намі на разбуйненне груп у дамах малютак. Каму з юных мам не знаёмыя звыклыя цяжкасці і нагрузкі, што ўзнікаюць у доме са з'яўленнем дзіцяці! А ўявіце, што такіх малютак — 20 на адны рукі. Пералічаныя намі сродкі далі магчымасць павялічыць штаты ў дамах малюткі. Цяпер ужо на кожную нянечку прыходзіцца па 10 дзяцей.

Сайгадарава Марына Ахматаўна з Жодзіна і яе дачка ўзялі на выхаванне 9 дзяцей. Гэта адзіны пакуль у рэспубліцы выпадак прысваення статуса «Сямейны дзіцячы дом». Дык вось, для гэтай сям'і куплены тэлевізар, швейная машынка. Грашовую дапамогу і розныя рэчы атрымалі многія шматдзетныя сем'і. А іх у нас не так і мала. Многія жывуць па-жабрацку. Як у галодныя гады, чорны хлеб дзеляць па пайках... Мясцовыя ж улады зазвычай вялікай увагі на іх не звяртаюць... У іх на ўсе выпадкі прыхаваны інструкцыі. Абсурдныя па сваёй сутнасці, гэтыя інструкцыі маюць ледзь не сілу закона. Нядаўна ў Фрунзенскім раёне горада Мінска мы абследавалі шматдзетныя сем'і. У сям'і Давыдзенкаў — сем дзяцей і двое дарослых. Жывуць у чатырох невялікіх пакойчыках. У чаргу на пашырэнне іх не ставяць. Прычына? Лішак плошчы ў... 0,24 м.

Ніводны рубель нашага фонду не пайшоў і не пойдзе на мэты, не звязаныя з патрэбамі дзяцей. Пра гэта, дарэчы, у Маскве было заяўлена на ўвесь свет. І тое, што прамільгнула ў друку пра нібыта дадзеную намі згоду фінансаваць конкурс прыгажосці — усяго толькі чуткі і домыслы.

— Наколькі я ведаю, Уладзімір Сцяпанавіч, задачы Дзіцячага фонду гэтым не абмяжоўваюцца. Хочаш не хочаш, а прыходзіцца брацца за рашэнне праблем, падобных каменю на дарозе: усе яго бачаць, усім ён замінае, але ні ў кога не ўзнікае жадання спіхнуць яго ў калявіну...

— Так, гэта сапраўды так. Вось зірніце на гэтыя фатаграфіі... (Глядзець на іх не скалануўшыся немагчыма: неверагодна вялікая галава на маленечкім целе, вар'яцкія ўсмешкі-грымасы, зморшчаны твар ці то дзіцяці, ці то стогадовага старога, правал замест носа, вуснаў...) Жудасна... А як бацькам? Як людзям, што наглядаюць за гэтымі няшчаснымі істотамі ў інтэрнатах? Вядома, прасцей простага ўсю віну зваліць на бацькоў-п'яніц. Маўляў, не было б п'яніц, і дзеці нараджаліся б нармальныя. А як быць з тымі бацькамі, якія і ў рот спіртнога не бяруць, аднак у сям'і — трагедыя? А хто дасць гарантыю, што чарнобыльская бяда не закране тых, каго яшчэ няма на свеце? Якое ж тут выйсце? І ці ёсць яно ўвогуле? На Захадзе, напрыклад, даўно ўжо робяць цяжарным раннюю дыягностыку. І калі ўстаноўлена, што дзіця будзе ідыётам, то які сэнс раджаць яго? У нас жа ўсё робіцца, як і тысячу гадоў назад, усляпую: што атрымаецца, тое і будзе...

Мы збіраемся звярнуцца да кіраўнікоў вытворчых аб'яднанняў, якія маюць валюту, дапамагчы з закупкаю абсталявання для радзільных дамоў. Гэта задача ўсіх задач... Ёсць і другая надзённая праблема: неверагоднае невуцтва маладых людзей, якія ўступаюць у сямейнае жыццё, іх фізічнае здароўе, часта — абсалютная несумяшчальнасць. Гэта ж — па-за ўвагаю і загсаў, і будучых маладажонаў. Да чаго прыводзяць гэтыя памылкі, якіх можна было б пазбегнуць у самым пачатку, мы бачым: высокі працэнт разводаў, непаўнацэнныя дзеці. Тут аднымі добрымі заклікамі справе не дапаможаш. Неабходна прынцыпова змяніць цяперашні закон аб шлюбе. Каб уступіць у шлюб, трэба ўзаконіць прад'яўленне кожным медыцынскага заключэння, абавязковы спецкурс у кансультацыйных групах. Вось тады ісціна «Здаровая сям'я — здаровыя дзеці» набудзе канкрэтны змест.

Мы лічым сваім абавязкам змагацца за правы дзяцей і ў шырокім сэнсе, і ў кожным канкрэтным выпадку. У Мінску на вуліцы Солтыса загінуў другакласнік. Ідучы са школы, праваліўся ў катлаван, запоўнены вадою, і захлынуўся. Трагедыя здарылася па віне будаўнікоў, якія пакінулі катлаван без агароджы. За гэтае жудаснае парушэнне правіл па тэхніцы бяспекі майстар і прараб БУ № 2 Мінскага ўпраўлення дарожна-мантажнага будаўніцтва і добраўпарадкавання атрымалі толькі вымовы. Мы звярнуліся да пракурора рэспублікі з просьбаю ўзбудзіць супраць майстра і прараба крымінальную справу...

І ў заканчэнне нашае гутаркі, Уладзімір Сцяпанавіч, з якімі словамі вы хацелі б звярнуцца да маладых людзей, якія прынялі рашэнне будаваць сям'ю, або да тых, хто заклаў у яе падмурак першыя камяні?

— Я толькі яшчэ раз паўтару мудрыя словы Макаранкі: «Разарвіцеся на часткі, але будзьце шчаслівыя. Толькі шчаслівы чалавек можа выхаваць шчаслівую асобу».



Сяргей ДУБАВЕЦ

# СЫМБОЛЬ і КАМПАНІЯ

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ



Пастараюся быць суб'ектыўным. Бо сапраўды дэмакратычны журналіст, на маю думку,— той, які па кроплі выціскае з сябе трацейскага суддзю. Вось. Такім чынам...

Герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг — гэта старыя нацыянальныя сымбалі Беларусі. Пра іх цяпер шмат гавораць і пішуць у газетах.

Адныя пішуць, што герб і сцяг паходзяць са спракаветных часоў; што яны сталі сымбалямі магдэбургскае вольнасці нашых гарадоў; што пад імі беларусы ў 1410 годзе (Грунвальдская бітва) разбілі нямецкіх агрэсараў і выдалі Статут нашай старажытнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — адну з першых канстытуцый у Еўропе; што з імі ішлі ў бой паўстанцы Касцюшкі і Каліноўскага; што пад імі ў міжваенны перыяд (1920—1939) заходнія беларусы адваёўвалі свае правы ў польскіх паноў; што іх апелі ў сваіх творах Багдановіч, Жылка, Караткевіч ды шмат іншых паэтаў...

**У крыві краіны нашай боль,**
**Прыходзіць час смяротных сноў,**
**І нашай волі карабель**
**Няскораны ідзе на дно...**

Другія кажуць, што пад час апошняе вайны «Пагоню» і бела-чырвона-белы сцяг выкарыстоўвалі паслугачы акупантаў.

Хто мае рацыю? Напэўна, каб быць суб'ектыўным, мне трэба прызнаць праўду за кім-небудзь адным. Але ў названым выпадку рацыю маюць і першыя, і другія. Быў Грунвальд, быў Статут, былі касінеры, заходнія беларусы і былі калабаранты. Гістарычныя факты першых і другіх не супярэчаць адны адным. Але высновы першыя і другія робяць цалкам процілеглыя.

Першыя кажуць, што сымбалі трэба адрадзіць і ганарыцца імі.

Другія пішуць, што на іх трэба хутчэй забыцца альбо саромецца іх.

Хто мае рацыю? Цяпер, я думаю,— і не першыя, і не другія. Бо сымбалі — умоўныя знакі, гукі, колеры — тут ні пры чым. Яны не забіваюць і не катуюць невінаватых, яны не праганяюць з Радзімы ворагаў і не папаўляюць нацыянальнага скарбу. Яны наогул ніколі нічога не робяць.

Можна і трэба ганарыцца перамогамі на Грунвальдскім полі і аўтарамі Статута (пра якіх якраз мала хто ведае), а не сымбалямі. Можна і трэба саромецца тых, хто разам з акупантамі забіваў невінаватых людзей, а не сымбаляў. Нельга ненавідзець ці абагаўляць умоўныя знакі. Гэта — абсурд. Асабліва калі знакі — дзяржаўныя (пра тое, што такое **дзяржава**, успамінай хутчэй словы Маркса й Леніна). Бо ў кожным дзяржаўным сымбалі можна ўбачыць і дабро, і зло, і гонар, і ганьбу, праз якія кожная нацыя ідзе сваім шляхам з мінуўшчыны ў будучыню. І няма ў свеце знакаў, якія б адназначна сымбалізавалі толькі дабро ці толькі зло, толькі гонар ці толькі ганьбу, толькі жыццё ці толькі смерць.

Крыж — сымболь веры, міласэрнасці і — сымболь смерці. Свастыка — сымболь фашызму і — старажытны знак сонца ў славянаў, індыйцаў і балтаў. Чырвоная зорка — сымболь сацыялізму і... Уяві сабе, што адчувалі тыя дзеці, якія падглядалі ў шчыліну курапацкага плота — што там адбываецца. Людзей у цывільным расстрэльвалі людзі ў вайсковым... І зразумела, з якімі сымбалямі на форме...

З чырвоным сцягам хадзілі па Італіі першыя фашысты, пад ім чыніліся зверствы сталінскае пары... З гэтым сымболем забівалі і забіваюць людзей «Чырвоныя брыгады» ў розных краінах... Дык што, вінаваты чырвоны сцяг?

Як гэта ні дзіўна, пытанне стаіць пра адказнасць за злачынствы. Адныя кажуць, што адказныя людзі. Другія кажуць, што — умоўныя знакі.

Аўтар сучаснага герба БССР мастак Волкаў у часе вайны апынуўся пад акупацыяй і ўдзельнічаў у ладжаных гітлераўцамі мастацкіх выставах. Магчыма, ён быў апалітычны чалавек? Але ён нікога не забіў, не катаваў, не абразіў і не пакінуў без хлеба. І таму я не маю ніякага права асуджаць яго і тым больш ягоны герб. Наша дзяржава, дарэчы, таксама не асудзіла Волкава...

Саюз беларускае моладзі (СБМ) — той, які насіў пад акупацыяй «Пагоню» і бела-чырвона-белы сцяг,— друкаваў на сваіх брашурах сымболь «боя і рэза» — серп і молат. Адна з дывізій СС называлася «Беларусь». Калабаранты гаварылі па-беларуску, спявалі народныя песні і пісалі паводле правапісу камуніста Тарашкевіча. Яны выпраствалі правую руку і замест «Хайль Гітлер!» крычалі «Жыве Беларусь!» У гэты самы час у лесе партызаны спявалі такую песню:

**На прускага ката!**
**За вёску і хату! —**
**Кліч помсты народнай заве.**
**Ідуць у атаку**
**Лясныя салдаты,**
**Грукочуць гранаты,**
**Крычаць аўтаматы:**
**Жыве Беларусь! Жыве!**

(глядзі зборнік «Песні барацьбы». Мн., 1985. С. 74).

Кожны думаў пра сваю Беларусь. Але Беларусь — адна. Яе імя, мову, герб і сцяг, яе зямлю не раз залівалі крывёю невінаватых і прышлыя і свае злачынцы. Але ні імя, ні мова, ні герб і сцяг, ні зямля не могуць несці адказнасці за чорныя справы здраднікаў, калабарантаў, сексотаў і катаў НКУС. Адваротнае могуць сцвярджаць толькі самі гэтыя здраднікі, калабаранты, сексоты і каты НКУС, многія з якіх яшчэ жывуць. Толькі ім можа быць выгадна, каб вайна па-ранейшаму заставалася бяздоннай чорнай ямай невядомасці, у якую можна надзейна схаваць уласныя злачынствы.

Ужо вядома, што пры Сталіне загінулі сотні тысяч «ворагаў народа». Але куды спісаны лік гэтых ахвяраў? Ці не ў тую ваенную яміну невядомасці? Гэтаксама, як дагэтуль на акупацыю спісвалі сотні разбураных бюракратыяй помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, яе архітэктурных шэдэўраў. Пра гэта стала вядома зусім нядаўна (глядзі часопіс «Нёман», № 2 за 1989 год).

Вось якія справы хаваюцца за шумнай кампаніяй супраць старажытных сымбаляў Беларусі. Ці не кампанія гэта супраць гістарычнай памяці і самое праўды?..

Але вярнуся да ўмоўных знакаў.

Дзяржаўны сымболь, па-мойму, павінен адпавядаць тром патрабаванням. Ён павінен быць адметны сярод іншых, эстэтычна густоўны і традыцыйны. Герб БССР і сцяг БССР паводле гэтых патрабаванняў прайграюць старажытным сымбалям. Яны не гістарычныя, сцяг цяжка назваць гарманічным, а герб цяжка адрозніць у шэрагу іншых «тыпавых» савецкіх гербаў. У свеце нас, беларусаў, па іх, а ў нейкай ступені і дзякуючы ім,— не ведаюць. Дый мы самі не надта гуртуемся пад імі. Я так думаю.

Зрэшты, і гэта ўсё — аргументацыя прыватнага характару. Суб'ектыўна мне больш падабаюцца старыя герб і сцяг, вось і ўсё. Калі ж глядзець на справы шырока і, так бы мовіць, дэмакратычна, дык: калі чалавеку лепш жывецца і працуецца пад старымі сымбалямі — і дзякуй богу! Пад новымі — на здароўе! Бо важныя ўсё ж не ўмоўныя знакі, а — чалавек. Нездарма ж цяпер загаварылі пра прыярытэт агульначалавечых нормаў над класавымі.

У таталітарнай дзяржаве — там сапраўды — чалавек на заднім плане, а сымболь набывае яшчэ адну — ідэалагічную — характарыстыку. Ён ператвараецца ў куміра, фетышызуецца, робіцца адзнакай прававернасці. І ўжо забойства і абраза чалавека — не такое вялікае злачынства, як любая крытыка сымболя ці прапанова адмовіцца ад яго.

А цяпер — чаму «Пагоню» і бела-чырвона-белы сцяг успомнілі менавіта сёння?

Па-першае, адбываецца разбурэнне сістэмы павальнае уніфікацыі. Першымі ад «стандартных» сымбаляў адмовіліся эстонцы, літоўцы і латышы.

Па-другое, расце нацыянальная свядомасць людзей. А ў часе нацыянальнага адраджэння альбо небяспекі для існавання нацыі нацыянальны сымболь робіцца знакам нацыянальнае кансалідацыі. Успомні Багдановіча:

**Толькі ў сэрцы трывожным пачую**
**За краіну радзімую жах,**
**Успомню Вострую браму святую**
**І ваякаў на грозных канях...**

**(«Пагоня»).**

Па-трэцяе, рэакцыя на нацыянальнае адраджэнне шукае сабе аргументаў. Гэтак было заўсёды. З'явіліся першыя беларускія легальныя газеты «Наша Доля» і «Наша Ніва» — зашумела асінае гняздо чарнасоценцаў. Пачаўся працэс нацыянальнага адраджэння ў БССР (1922—1929) — зноў загулі газетныя галасы супраць. Сённяшняе нацыянальнае адраджэнне, паводле філосафа Ул. Конана,— пятае. У адраджэння ўжо ёсць набыткі. Праўда, сёння ўжо не станеш адкрыта сцвярджаць, што беларуская мова — «наречие», што беларускай гісторыі не было да 1917 года і што тут ніколі не было культуры, а толькі лапці ды непралазная цемра пад каўтуном. І вось — вакольным шляхам — пачынаецца кампанія «кампраметацыі» старых герба і сцяга.

Але ж голае адмаўленне чаго б там ні было, як мне здаецца,— зусім непрадуктыўны шлях. А процістаўляць старажытным сымбалям няма чаго. У гэтым сэнсе праграма адраджэння мовы, гісторыі, культуры, нацыянальнай свядомасці, якая пазначана старажытнымі сымбалямі,— стваральная, пазітыўная, сцвярджальная. І таму перавага на яе баку.



Я не думаю, што цяпер гэтым сымбалям варта пакланяцца, як і любым іншым, падаць перад імі ніцма, абклейваць усе вуглы, хоць і дапускаю, што на пачатку так яно і будзе. Але далейшая дэмакратызацыя грамадства і актывізацыя нацыянальнае свядомасці беларусаў усё паставяць на свае месцы.

**Анатоль МЯСНІКОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

# ПРАЎДА АБ КУРАПАТАХ: ЯКОЙ ЯНА БУДЗЕ?

Курапаты... У наш штодзённы ўжытак гэтае слова віхурай увարвалася роўна год назад. Практычна ніхто, нават з карэнных мінчукоў, не ведаў назвы ўрочышча на ўскрайку беларускай сталіцы. Траплялiся там зрэдку грыбы, аматары адпачынку на ўлонні прыроды, нягледзячы на забарону, палілі іншы раз невялікія вогнішчы. І раптам...

Экскаватаршчык Мікалай Таран рыхтаваў для газапровада звычайную траншэю. Капануў колькі разоў, і пасыпаліся з каўша чалавечыя чарапы... На месца былі выкліканы міліцыя і судова-медыцынская экспертыза.

А менш як праз месяц — у маі 1988-га мінскія школьнікі ў лясным масіве паміж кальцавой дарогаю сталіцы і шашой Баравая — Заслаўе праводзілі сваю традыцыйную «Зарніцу». Рыхтуючы акопы, наткнуліся на чалавечыя косці і яны. Былі выяўлены астанкі 36 чалавек. У чарапах бачыліся, кажучы юрыдычнай моваю, уваходныя адтуліны ад агнястрэльнай зброі. Сумненняў быць не магло: тут мелі месца масавыя забойствы людзей.

Пасля таго як газета «Літаратура і мастацтва» змясціла на сваіх старонках артыкул супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці», у якім выказвалася перакананне, што ў гэтым лясным масіве пахаваны ахвяры рэпрэсій 1937—1941 гадоў, пракурор Беларусі Георгій Сцяпанавіч Тарнаўскі 14 чэрвеня 1988 года ўзбудзіў крымінальную справу. Справу, расследаванне якой і выявіла першы жудасны факт у даваенная гісторыі беларускага народа. Першы, але далёка не апошні...

Калі першы намеснік пракурора БССР Уладзімір Кандратавіч Кандрацьеў прадставіў мяне начальніку следчай часткі Пракуратуры Валерыю Васільевічу Собалеву, выявілася, што рабіць гэтага і не трэба: з ім



мы знаёмыя... дваццаць гадоў. Калісьці вучыліся на паралельных курсах (праўда, розных факультэтаў) Белдзяржуніверсітэта, жылі ў адным інтэрнаце. Гэтую абставіну, прынамсі, прыводжу для таго, каб засведчыць: Валерый Васільевіч шмат паспрыяў мне потым пры рабоце з дакументамі, сустрэчах са следчымі, якія вялі расследаванне, сведкамі курапацкай трагедыі.



А факты, што выяўляліся крок за крокам, былі страшэнныя, доказы — бясспрэчныя.

Па-першае, пры дасканалым абследаванні ляснога масіву Курапаты было ўстаноўлена, што на плошчы каля 30 гектараў знаходзяцца 510 мяркуемых пахаванняў людзей. Памер іх: 2—2,5 на 4—5 метраў.

Па-другое, пасля правядзення эксгумацыі шасці пахаванняў, выявіліся астанкі не менш чым 356 чалавек.

Трэцяе. Знойдзеныя гільзы і кулі з'яўляюцца часткамі патронаў да рэвальвера «наган» і пісталета «ТТ». Гэтыя гільзы і кулі выраблены ў СССР у 1928—1939 гадах.

Чацвёртае. Зыходзячы з таго, што ў сярэднім у кожнай з эксгумаваных магіл знойдзены касцявыя астанкі, якія належаць 50—60 чалавекам, можна зрабіць вывад аб пахаванні ў Курапатах не менш як 30 тысяч грамадзян.

І пятае. Як засведчылі сведкі (55 чалавек), расстрэлы пачаліся ў 1937 годзе і працягваліся да лета 1941-га...

Я бачыў вынікі эксгумацыі магіл, судова-медыцынскіх і балістычных экспертыз. Чарапы і іншыя касцявыя астанкі, спарахнелыя абутак і адзенне, манеты вартасцю ад 2 да 50 капеек, сплюшчаныя кулі... Калі я знаёміўся з імі, мяне апаноўвалі нясцерпны боль і смутак. Ці даведаемся мы калі-небудзь, чые гэта косці? Ці даведаемся, як, і галоўнае, за што пакутавалі тут людзі?

Эксперты-крыміналісты досыць хутка разабраліся з абуткам і многімі прадметамі, знойдзенымі ў пахаваннях. 45 адзінак ботаў, галёшаў выраблены ў СССР — на маскоўскай фабрыцы «Чырвоны волат» і ленінградскай «Чырвоны трохкутнік». Ёсць абутак і самаробны: з аўтамабільных пакрышак. Манеты датаваныя 1925—1936 гадамі.

Грабеньчык Валерый Собалеў паказваў з асаблівым хваляваннем. Надпіс на ім — на польскай мове — не паведамляў, а крычаў немым голасам: «Цяжкія хвіліны знявoленага. Думка пра вас даводзіць мяне да адчаю. Мінск. 25.04.1940 г.» А на другім баку грабеньчыка — дадатак: «26.04. Расплакаўся — цяжкі дзень».

Пісаў мужчына (гэта несумненна), даведзены да адчаю. Мабыць, у тую апошнюю хвіліну, калі даведаўся ўжо аб прысудзе — перад самым выхадам да ўскрайку выкапанай у маладым ляску магілы... Не даведаемся мы ўжо, якое было ў яго прозвішча — гэта, на жаль, бясспрэчна. А вось чаму надпіс зроблены па-польску — павінны і абавязаны ў далейшым устанавіць.





Чытаў, а пасля і слухаў паказанні і ўспаміны многіх з 55 сведак, і, здавалася, кроў у любы момант гатова была застыць.

Да вайны яны жылі ў прыгарадных вёсках: Дроздава, Забалацце, Зялёны Луг, Малінаўка, Цна... Яны — гэта Е. Багайчук, В. Бароўская, М. Лантасава, Е. Мацкевіч, В. Камароўская, М. Пацяршук, В. Ермаловіч, В. Прыгодская, Н. Хоміч, Д. Тоўсцік, В. Шаханава, М. Карповіч, О. Чарвінская, Н. Няхайчык, І. Алехна, С. Хмельнікава... Вось іх паказанні, дадзеныя пад усведамленнем адказнасці перад законам.

В. Бароўская: «Адносна падзей, якія адбываліся ў гэтым лесе, магу сказаць наступнае. З боку лесу былі чуваць крыкі, стогны. Крычалі: «За што нас?» А таксама былі чуваць стрэлы. Спачатку стралялі ўдзень і ўначы. Усё гэта адбывалася ў 1937—1938 гадах і потым працягвалася да самай вайны. Пазней гэта адбывалася звычайна праз дзень-два. Чуліся і жаночыя галасы».

Расказала Вольга Цімафееўна і пра такі выпадак. Аднаго разу пайшлі яны па ягады. Пралезлі ў нару пад высокім плотам і пачалі збіраць. Было каля чатырох гадзін дня, калі пачулі гул машын. Расчынілася непадалёк брама, у яе ўехала «эмка». А за ёю — тры «чорныя вораны». Дзяўчынка шмыганула пад густую елачку. Кузавы грузавікоў былі забітыя кратамі. З легкавушкі выйшлі мужчыны, адзетыя ў цывільныя касцюмы шэрага колеру, без галаўных убораў. Адзін падышоў, адчыніў будку і пачаў выводзіць людзей са звязанымі рукамі. Іх пачалі расстрэльваць. Людзі крычалі: «Божухна, а за што нас, скажыце!»

Н. Няхайчык: «Мы з хлопцамі пасля прыезду лічылі стрэлы. Іх было 30—40, іншы раз семдзесят. Звычайна прыязджалі па дзве-тры машыны, здаралася, што і па шэсцьсем».

І. Алехна: «Пра тое, што ў лесе расстрэльвалі людзей, я даведаўся ад Бацяна Рыгора Іванавіча. Ён жыў у вёсцы Цна і працаваў у НКУС. Аднойчы Бацян, падвыпіўшы, расказаў, што сам удзельнічаў у расстрэлах. За балбатлівасць яго пазней і выгналі з НКУС».

Следчыя органы ўстанавілі: адзін з курапацкіх катаў Р. Бацян памёр неўзабаве пасля вайны.

У справе аб Курапатах ёсць і іншыя паказанні. Вось вытрымка з допыту былога супрацоўніка НКУС К. Кулінковіча, які на працягу года працаваў у органах оперупаўнаважаным: «...25 чэрвеня 1941 г. наша арганізацыя эвакуіравалася ў Магілёў. Аднак назаўтра мяне ў саставе опергрупы накіравалі ў Мінск для знішчэння архіваў райкомаў, гаркома партыі і НКУС. Да нашага прыбыцця ў Мінск гэтыя архівы былі ўжо знішчаны ў час бамбардзіровак і пажараў. Усё, што засталося, мы знішчылі і затым вярнуліся ў Магілёў».

І ўсё ж следства натрапіла на сляды. Былы супрацоўнік МДБ БССР, які ў пяцідзесятыя гады меў доступ да архіўных крымінальных спраў НКУС, засведчыў, што спраў было шмат. Усе справы «гатаваліся» паводле ўзору: спачатку абвінавачаны не прызнаваў сябе вінаватым, потым «пацвярджаў», што ён агент замежнай разведкі, а ў канцы старонкі адзнака «ВМП» (вышэйшая мера пакарання)... І побач — «заключэнне»: «Прысуд прыведзены ў выкананне ў Мінску».

Вось такая методыка, тэхналогія, сістэма — называйце гэта як хочаце...

Пасля маёй публікацыі ў «Звяздзе» ў нумары за 30 верасня мінулага года мне пазваніў мінчанін Генадзь Васільевіч Аксенчык. Маўляў, чаму вы пішаце, што складана ўстанавіць землеўладальнікаў вакол Курапат? У Дзяржторффондзе пры Дзяржплане БССР ёсць такія даныя. Я, працягваў мой незнаёмы субяседнік, звярнуў, у прыватнасці, увагу: да вайны ў раёне Курапат былі саўгас «Бальшавік» і калгас «Адраджэнне»...

Вось такія гістарычныя паралелі-супярэчнасці: зноў жа трагічныя і жудасныя. У «Бальшавіку» знішчалі адданых прыхільнікаў камуністаў, а ў «Адраджэнні» верылі ў «светлую будучыню» пад рэха стрэлаў з «ТТ» і наганаў.

Першыя вынікі работы ўрадавай камісіі, вядома, адказалі на многія пытанні. Апублікаваныя ў студзені 1989-га, яны сталі першай праўдаю аб трагічных падзеях у Курапатах. Хаця, паўтаруся, шмат яшчэ і нявысветленага, няяснага...

Таму і прынялі рашэнне прадоўжыць работу па пошуку архіўных дакументаў і матэрыялаў, следак з мэтаю ўстанаўлення асоб расстраляных, канкрэтных матываў пакарання смерцю асоб, якія праводзілі расстрэлы.

Я чытаю і перачытваю паведамленне камісіі, створанай распараджэннем Савета Міністраў БССР амаль год назад, і задумваюся... А ці атрымалі належную рэакцыю і дзейнасць самой камісіі, і вынікі праведзенага расследавання? Толькі адзін раз выступіла «Звязда», тройчы — газета «Літаратура і мастацтва». Былі яшчэ дзве перадачы па Беларускім тэлебачанні. І ўсё? Так, на жаль, усё. «Прамаўчалі», акрамя афіцыйнага паведамлення, «Советская Белоруссия» і «Сельская газета». Практычна адмаўчаліся і маладзёжныя газеты. Упушчэнне, і вялікае.

Затое колькі было спроб выкарыстаць мінуўшчыну ў Курапатах у іншых мэтах... Але гэта тэма для асобнай размовы.

Ва ўрадавай камісіі працавалі і працуюць цяпер знаёмыя кожнаму беларусу людзі. Народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Быкаў, народны мастак СССР Міхась Савіцкі, Герой Савецкага Саюза Марыя Осіпава, Герой Сацыялістычнай Працы Дзмітрый Чарвякоў, член-карэспандэнт Акадэміі



навук БССР Віктар Семянкоў, рабочая вытворчага аб'яднання «Інтэграл», намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Тамара Бязручка, старшыня праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры пісьменнік Іван Чыгрынаў, прадстаўнікі ўлады, адміністрацыйных органаў... Хіба не цікава было б грамадскасці пачуць іхнія думкі і меркаванні! Але... Адзін Васіль Уладзіміравіч Быкаў дзяліўся з народам сваімі ўражаннямі. Прозвішчы іншых членаў камісіі сталі нам вядомыя з інфармацыі аб выніках яе работы...

Камісія працягвае работу. Дзе яна працуе, у якія дні збіраецца — сказаць ніхто не бярэцца. Так, гэта грамадскі орган. Але ж сёння гэткія фарміраванні павінны дзейнічаць адкрыта, рашуча і смела. Бо не тое што з кожным годам, а нават з кожным днём усё менш і менш становіцца сведак тых страшэнных расправаў, дый непасрэдныя віноўнікі зашываюцца ўсё глыбей і глыбей. Тут асабліва патрэбныя публічнасць, зварот да народа, сумесная работа з ім.

Галоўныя выканаўцы волі «правадыра народаў» у нашай рэспубліцы самі сталі ахвярамі сталінізму. У лістападзе 1937-га, студзені і лютым 1939-га асуджаны да пакарання смерцю былыя наркомы НКУС БССР Г. Малчанаў, А. Наседкін і Б. Берман: у кастрычніку 1955-га скончыў жыццё самагубствам Л. Цанава — найбольш адыёзны з крывавых катаў беларускага народа. Але былі ж яшчэ многія іх намеснікі, памочнікі і проста паплечнікі, якія і сёння яшчэ ходзяць па зямлі, ядуць наш хлеб. Не, барані божа, я не заклікаю да звядзення з імі рахункаў... А вось атрымаць ад іх сапраўдныя звесткі трэба было б.

Час лічыць і пасляваенныя ахвяры сталінізму ў нашай рэспубліцы. А іх было нямала. Тут, прынамсі, і сведак больш.

Аб рэпрэсіях 1937—1941 і першых пасляваенных гадоў гавораць і пішуць сёння шмат. Наш святы абавязак — працягваць гэтую справу.

У сэрца кожнага няўмольна стукаецца Памяць.



# ЗНОЎ НА ЗАДВОРКАХ?

**Роздум дырэктара Мінскага ПТВ-71 машынабудавання Анатоля РУКШЫ аб праблемах падрыхтоўкі сучаснага рабочага**

—Недарма кажуць: новае — гэта добра забытае старое. Прынамсі, тое, што цяпер у сістэме ПТВ спрабуюць выдаць за перабудову, ужо было ў гісторыі прафтэхадукацыі. І, дарэчы, гэта не лепшая, а хутчэй найганебнейшая яе старонка. Як вядома, у трыццатыя гады навучальныя ўстановы, якія рыхтавалі кадры рабочага класа, былі перададзены прадпрыемствам. Гэты эксперымент закончыўся сумна: адбыўся поўны развал прафтэхшколы, літаральна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі ўзнік найвастрэйшы дэфіцыт кваліфікаваных рабочых. А было ж гэта напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны... Каб выйсці з крытычнага становішча, урад прымае рашэнне стварыць адзіную дзяржаўную сістэму працоўных рэзерваў, камплектуючы вучылішчы па мабілізацыі.

Маючы гэты горкі вопыт, ці трэба было сённяшнім эксперыментатарам паўтараць даўнюю памылку — перадаць прафтэхвучылішчы міністэрствам і ведамствам! І наўрад ці трэба было гадаць, што з гэтага атрымаецца: у задачы няма невядомага. Расцяганне прывяло да таго, што вучылішчы былі ператвораны ў іх дапаможныя цэхі. А з саміх навучэнцаў зрабілі аўральныя каманды. Ні пра якое выхаванне сучаснага рабочага тут, вядома, не можа быць і гаворкі. Любое прадпрыемства ва ўмовах гасразліку зацікаўлена ў адным: у найхутчэйшым атрыманні прыбытку. Калі мы, скажам, мантажніцу радыёапаратуры рыхтуем, маўляў, год, дык на прадпрыемстве — усяго два месяцы. Выхаванне асобы, духоўнасць і падобныя матэрыі работнікам вытворчасці — пусты гук. Тут у ходзе іншыя каштоўнасці — рэнтабельнасць, даход, уласная валюта... А сапраўдная валюта — гэта нашы пэтэвэшнікі. Заўтра яны вызначаць твар рабочага класа, дый уся эканоміка цалкам не можа існаваць без іх. Дык чаму ж аддаць перавагу: хуткаснай выпечцы жывых прыдаткаў да станкоў і абсталявання ці падрыхтоўцы высокакваліфікаваных і адукаваных рабочых! Вядома, апошняму. Дарэчы, праблема гэтая пераважна сацыяльна-маральная, а не гаспадарчая: гаворка ж ідзе пра развіццё стваральнае сілы грамадства. І калі ў гэтае сілы абы-якія веды, абмежаваны кругагляд, прытупленыя пачуцці гаспадара і грамадзянскае адказнасці, дык якое ж тады будзе гэтае стварэнне! Такія, з дазволу сказаць, кадры найсучаснейшымі станкамі будуць маніпуліраваць як кувалдаю...

У нас нярэдка пытаюцца, ці стала нам лягчэй жыць пасля ліквідацыі Камітэта дзяржпрафадукацыі. Пэўна можна сказаць адно: кончыўся паток правяраючых. У гэтым плане і праўда лягчэй. А ва ўсім астатнім — значна цяжэй. У прафтэхшколы заўсёды было багата болевых кропак. Але калі раней праблемы хоць з цяжкасцю, але ўсё-такі рашаліся, то цяпер мы апынуліся ў глухім тупіку. Нікому няма справы да нашых трывог і болю. Раённы аддзел народнай асветы пры ўсім яго жаданні (у ягонай асобе мы маем цяпер свайго гаспадара) дапамагчы нам не можа. У яго галава кругам ідзе ад уласных праблем, а тут мы яму навязаны. Са сваёй спецыфікай, з ужо сфармаваным аблічам і стылем работы. Так, любая ломка — працэс пакутлівы. Але ломкі розныя бываюць. Адна справа — адмовіцца ад старога дзеля прагрэсіўнага, прадыктаванага часам і жыццём, апрабаванага на вопыце, зусім іншая — зрабіць гэта, каб трапіць у тупік, дзе ўсе ад цябе адмахваюцца. Відавочна, што па-старому жыць і працаваць немагчыма. Што ж, у такім разе, дае нам новая сістэма! Яна пазбавіла нас таго нямногага, што мы атрымлівалі ад прадпрыемстваў, нічога не прапанаваўшы ўзамен...

А між тым прэстыж ПТВ, нягледзячы на мноства ярлыкоў, ад якіх нам яшчэ доўга не пазбавіцца, няхай і марудна, але расце. Чаму! Па-першае, таму, што безнадзейны троечнік, на якога ў школе махнулі рукою, у нас адчувае сябе чалавекам. Уся наша педагагічная сістэма (а ў нас у вучылішчы выдатны педкалектыў) накіравана на тое, каб гэты няшчасны троечнік, зацюканы ў школе дый у сям'і, адчуў сябе асобаю. Каб ён паверыў ва ўласныя сілы і не адносіў сябе да людзей другога ці трэцяга сорту. Мы пераконваем яго ў адваротным: у цябе ёсць крылы для палёту. Што ж гэта за жыццё, калі чалавек, яшчэ не займеўшы крылаў, страчвае іх безнадзейна... Па-другое, аб'яднанне прафесійнай і агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі дае маладому чалавеку, які ступіў на самастойную дарогу, бясспрэчную перавагу. Прафесія, якую ён атрымае ў ПТВ, дазволіць яму цвёрда ўстаць на ногі, забяспечыць надзейны заробак, дапаможа ў арміі.

Якою ж бачыцца мне перабудова ў сістэме прафесійнай школы! Перш за ўсё, яна павінна карэнным чынам змяніць сітуацыю ў нашай матэрыяльнай базе — бо, па сутнасці, гэта і наш твар, і наш прэстыж. Дык вось, замест дапатопнага абсталявання ў нас павінны быць самыя сучасныя станкі і прыборы. Прычым мяняць іх трэба на некалькі гадоў раней, чым на самых прагрэсіўных вытворчасцях і прадпрыемствах. Неабходна ўзаконіць нашы адносіны з работнікамі вытворчасці, якія ва ўмовах гасразліку ўскладніліся да немагчымасці. Нарэшце, разуменне і гатоўнасць таго ж гарана пайсці насустрач нашым просьбам і прапановам. Возьмем, напрыклад, нашае вучылішча. Вучэбны корпус — старэнькі, занядбаны будыначак, дзе, ведама ж, мы задыхаемся. Побач з намі — школа рабочай моладзі. Прасторны, паўпусты будынак (ніжні паверх дырэкцыя здае ў арэнду) знаходзіцца літаральна за некалькі дзесяткаў метраў ад нашых майстэрняў. Перакінь ад іх да школы крыты пераход — і вось, калі ласка, адзіны комплекс, пра які так шмат гаворыцца, але які далёка не часта прыходзіцца бачыць у жыцці. Здавалася б, чаго прасцей: перайсці з будынка ў будынак... Урэшце, мы гатовыя ўзяць на сябе і школу рабочай моладзі, ды не ўсё так проста — высокія ведамасныя бар'еры... Чуюцца галасы, што, маўляў, прафтэхшкола ніяк не ўпісваецца ў канцэпцыю бесперапыннай адукацыі. Выходзіць, нам зноў адведзена месца на задворках! Кім адведзена! І ў імя чаго!



НЕЧАКАНЫ РАКУРС

Максім КЛІМКОВІЧ

# ДЗЯЎЧЫНКА, ВЫКЛЮЧЫ ТЭЛЕВІЗАР!!!

## НАТАТКІ ПРА ДЗІЦЯЧЫ УРБАНІСТЫЧНЫ ФАЛЬКЛОР

—Хто такі смелы чалавек? — Гэта той, хто нічога не баіцца.

— Той, хто нічога не баіцца,— звычайны дурань.

— А смелы чалавек?

— Ён баіцца, але ж удае, што яму не страшна.

Хто ж з нас не лічыць сябе смелым чалавекам, прынамсі, у кампаніі, а не сам-насам апоўначы на могілках? Кажаце, а нашто туды хадзіць? Я разумею, не цягне а такой гадзіне швэндацца паміж крыжоў і помнікаў, адразу нейкае глупства ў галаву лезці пачынае пра фосфарныя слупы, пра летаргічны сон, ну а матэрыялістам пра рабаўнікоў магіл і капліц. Куды ўтульней ляжаць на канапе і глядзець тэлевізар. Ці заўсёды было так бяспечна? Позні вечар, вы адны ў кватэры, канапа, тэлевізар... Сама ўтульнасць. Вам не расказвалі ў дзяцінстве гісторыю пра Чорнага чалавека? Калі не або вы проста забыліся, то я нагадаю. Там таксама пустая кватэра, канапа і тэлевізар, толькі ўтульнасці — ні на шэлег.

### ГІСТОРЫЯ ПРА ЧОРНАГА ЧАЛАВЕКА

**Адну дзяўчынку тата і мама пакінулі дома. Паклалі спаць, а самі пайшлі ў госці на ўсю ноч. Дзяўчынцы яны сказалі: «Ты ж глядзі, не ўключай тэлевізар». А яна не паслухалася і ўключыла. А дыктарка з тэлевізар ёй і кажа: «Дзяўчынка, дзяўчынка, выключы тэлевізар, бо Чорны чалавек набліжаецца да твайго горада». Дзяўчынка не паслухалася. Тады дыктарка ёй зноў кажа: «Дзяўчынка, дзяўчынка, выключы тэлевізар, бо Чорны чалавек ужо ідзе па праспекце». А дзяўчынка не паслухалася. (Кожны раз голас дыктаркі гучыць усё больш жахліва.) Тады дыктарка ёй і кажа: «Дзяўчынка, дзяўчынка, выключы тэлевізар, бо Чорны чалавек ужо ідзе па тваёй вуліцы». А дзяўчынка не паслухалася і не выключыла. Дыктарка тады зноў: «Дзяўчынка, дзяўчынка, выключы тэлевізар, бо Чорны чалавек ужо зайшоў на твой двор!» А дзяўчынка не выключыла. Вось дыктарка ёй і кажа: «Дзяўчынка, дзяўчынка, хутчэй выключай тэлевізар, бо Чорны чалавек ужо ўздымаецца сходамі твайго пад'езда!» І тут дзяўчынка пачула жахлівыя туп! туп!! туп!!! Яна ўжо хацела выключыць тэлевізар, але так спужалася, што не змагла паварушыцца, бо туп! туп!! туп!!! набліжалася. Тут дыктарка апошні раз сказала дзяўчынцы: «Дзяўчынка, дзяўчынка, чаму ты не выключыла тэлевізар! Чорны чалавек ужо ўзяўся за ручку дзвярэй тваёй кватэры».**

**Тут дзверы адчыніліся, і ў кватэру зайшоў Чорны чалавек...**

Далей канцоўкі былі розныя:

— Чорны чалавек душыў дзяўчынку.

— Забіраў яе з сабой у тэлевізар, дзе іх раніцой бачылі бацькі дзяўчынкі.

— Мама з татам знаходзілі дзяўчынку мёртвай.

— Чорны чалавек заходзіў, казаў, што дзецям самім нельга ўключаць тэлевізар, выключаў яго, клаў дзяўчынку спаць і прасіў перадаць маме з татам, каб тыя не пакідалі болей яе адну. Раніцай дзяўчынка расказвала ўсё бацькам, і яны з таго часу не хадзілі па начах у госці.

Вось якія жахі ў дзяцінстве тояцца ў амаль ідэальным па ўтульнасці, з цяперашняга пункту гледжання, інтэр'еры: пустая кватэра, канапа, тэлевізар. Хаця не, для ўтульнасці не хапае на сцяне карціны. Не хапае? Дык павесім. А калі павесім, то прыгадаем яшчэ адну страшную гісторыю пра Чорную руку.

### ГІСТОРЫЯ ПРА ЧОРНУЮ РУКУ

**Вісеў на сцяне партрэт, а па начах ён адчыняўся, як дзверы на завесах,— рып, рып. За ім быў ход. Адтуль апоўначы выпаўзала Чорная рука і забірала людзей. Покуль спахопяцца, запаляць святло, а Чорная рука ўжо схаваецца і партрэт за сабой зачыніць, як бы нічога і ніколі. Так доўжылася да таго часу, пакуль у кватэры не застаўся адзін маленькі хлопчык. Ён вырашыў не спаць, а схавацца пад ложак і сачыць. Апоўначы адчыніўся партрэт і вылезла Чорная рука, яна адчыняла шафы, абмацвала ложкі, але хлопчыка так і не знайшла і пад раніцу зноў схавалася. Калі сталася светла, хлопчык выбег на вуліцу і сустрэў добрага дзядзьку.**

**Добры дзядзька зайшоў у кватэру, адчыніў партрэт, вызваліў усіх палонных, а саму Чорную руку скруціў, як шланг, звязаў і завёз у турму. Ход у сцяне, вядома, заклалі цэглай.**

Вось якія гісторыі расказвалі мы адзін аднаму ў дзяцінстве і расказвалі не дзе давядзецца, а стваралі адпаведны антураж. Расказваюць іх і сучасныя дзеці, трохі ў іншых рэдакцыях, але ў тым самым антуражы. Сюжэты разнастайныя: тут і Белая прасціна, што лётае над горадам, (вядома, па начах, а дзе-колвечы знойдзе адчыненае акно — залятае ў пакой і душыць дзяцей), і труна на колах, і баба, што прадае піражкі з чалавечым мясам (яна заманьвае людзей да сябе ў кватэру, прапануе пакупацца ў ванне, ванна перакульваецца, а пад ёй мясарэзка), а піражкі смачныя, і маці-вампір, што смокча кроў са сваёй дачкі, і чырвоны шкілет у бальніцы (вядома, у дзіцячым аддзяленні) забірае кроў у хворых дзяцей — шкілет намаляваны на халаце, а займаецца гэтым банда ўрачоў (кожная шклянка крыві каштуе адну шакаладку і 10 рублёў). Ды ці мала яшчэ чаго не прыдумаюць дзеці. Выбар сюжэтаў большы, чым у судовых хроніках сённяшніх газет.

Давайце разбяромся, адкуль і нашто такая разнастайнасць.

Страшныя гісторыі, і, на маю думку, расказваюць, каб не баяцца падобнага ў будучым. Гэта як вакцынацыя: перанясеш хваробу ў лёгкай форме, не захварэеш па-сапраўднаму. Значыцца, гісторыі прыдумваюць пра тое, што пужае і што незразумела. І калі сюжэты пра мерцвякоў, вар'ятаў, свіней-людажэрцаў, закінутыя могілкі, касцёлы і замкі не тое каб блізкія і нам, дарослым, то ва ўсякім разе зразумелыя. Добра прыгадайце і ўспомніце, што ў стасоўнай сітуацыі (на начоўцы ў лесе або проста на позняй вандроўцы) хто-ніхто ды раскажа што-небудзь падобнае, ад чаго дрыжыкі па скуры пабягуць. Затое нікому з дарослых не прыйдзе ў галаву разводзіць містыку пра тэлевізар, шафу або партрэт, а тым больш пра бабку, што гандлюе піражкамі з чалавечым мясам. А ў дзяцей гэта ўлюбёныя сюжэты страшных апавяданняў. І мне здаецца, вось чаму. Дзе вам можа быць страшна, нават калі вы смелы чалавек і знешне нічым гэтага не выяўляеце?

У лесе? Па-за сцежкамі, пратаптанымі людзьмі? Так. Чаму? А таму. Лес зроблены не намі і не дзеля нас. У яго сваё жыццё, свая функцыя, свой маштаб. Дрэвы не рупяцца, каб нам было вольна праходзіць. Успомніце «воўчы гушчар» — пралезці можна толькі на карачках, вышэй шчыльна сплятаюцца галіны. На карачках вы свой у лесе. Але чалавек — вы толькі, калі стаіце на нагах. Лес разлічаны на гульню ў хованкі: хаваюцца ўсе — і ахвяры, і драпежнікі, таму там і такая нервовая атмасфера. Можна, вядома, павесіць гамак, раскласці вогнішча. Але ж гэта ўжо будзе парушэннем сістэмы лесу. Амаль што кватэра, толькі без сцен. Ідэальнае выйсце — паставіць намёт, вось там усё зроблена па вашых памерах, там спакойна нават ноччу за, хай сабе, і амаль ілюзорнай сцяною.

У закінутым замку? Ну, тут, здаецца, баяцца няма чаго, бо рабілася ж для чалавека, хай той чалавек і называўся князем. Усё адно страшна. Хаця б адна вышыня столі і тая ціснe. Але ж гэта трэба нарадзіцца князем, каб свята верыць, што столь над табой павінна быць на парадак вышэй, чым над усімі людзьмі. Бо ты, калі захочаш, то і да неба рукой дацягнешся. Толькі і ў таго ж князя ў спальным пакоі над ложкам заўсёды вісеў балдахін на нармальнай, суадноснай з яго ростам вышыні, бо калі распранаешся і кладзешся спаць, то ўжо няма перад кім удаваць, нібыта ты ростам з добрае дрэва. А што такое балдахін — ды той жа намёт у лесе, каб не было страшна.

А могілкі? Вось тут мяне і лавіце. Самае страшнае месца, безліч гісторый і дзеці і дарослыя расказваюць, а там жа ўсё зроблена суадносна чалавеку, згодна ягоным памерам і зазвычай без гігантаманіі, уласцівай замкам. Не сыходзіцца з папярэднім? Чаму? Сыходзіцца. Правільна, могілкі зроблены для людзей, але ж для староніх, не для нас. Вядома, могілкі робяцца для каго заўгодна, толькі не для нас саміх. Вось чаму нам там страшна. Баімся застацца ў месцы, не прызначаным для нас. Таму і пазбягаем туды хадзіць.

Здаецца, высветлілі, чаму і дзе бывае страшна. Страшна нам у месцах, якія функцыянальна не прызначаны для нас. Сюды ўваходзяць і лес, і закінуты замак, касцёл, могілкі, проста разбураны дом, нават цэх завода з гіганцкім абсталяваннем (калі мы, вядома, там не працуем), кар'ер... Затое ў кватэрах (нават у чужых) мы пачуваемся бяспечна, бо ўсё там зроблена па нашых памерах, да ўсяго зручна дабірацца — варта працягнуць руку. Функцыя кватэры — задавальняць нашы жаданні, яна як форма, злепленая з нас саміх, прыгадайце ручкі дзвярэй, нажоў, нажніц. Лязо нажа можа выклікаць страх, функцыянальная ручка — ніколі. Бо гэта як частка нас саміх.

А як жа дзеці? Спытаеце вы. Што страшнага можа быць для іх у тэлевізары, у шафе, у халадзільніку, гэтыя ж рэчы зроблены для людзей па іх вобразе і падабенстве? Вы спыталі? То я адкажу.

Для дзяцей усе нашыя рэчы, мэбля, кватэра нефункцыянальныя. Уявіце, што вы самі сталі ў два разы меншыя ростам. Вось тут большасць рэчаў страціць для вас функцыю. Дзвярныя ручкі прышрубаваны над галавой, за сталом немагчыма сядзець, каб ускараскацца на крэсла, патрэбна падрыхтоўка альпініста, з паліцы нічога без драбіны не зняць. І колькі вам ні кажы потым, што ўсё гэта карысныя зручныя рэчы, вы не паверыце. Мо і пагодзіцеся, каб адчапіліся, але пачувацца сярод іх будзеце, як у лесе. А мы ж нават у дзіцячым пакоі (калі мець такі нам дазваляе жылплошча) ручку ў дзвярах прышрубоўваем на зручнай для нас, дарослых, вышыні, значыцца, вышэй галавы дзіцёнка. Вось таму дзеці і любяць будаваць розныя хаткі, домікі з крэслаў і посцілак у нашых кватэрах. Бо там яны пачуваюцца бяспечна. Крэсла завялікае, каб на ім сядзець? Нічога, стане сцяной хаткі. Стол завялікі, каб за ім маляваць? Залезем пад яго і будзем уяўляць, што гэта столь.

А калі ўжо дзеці збудавалі хатку згодна сваім памерам (не будзем забываць пра намёт для нас саміх у лесе), то залазяць у яе, гасяць святло ў пакоі і пачынаюць расказваць страшныя гісторыі. Напрыклад, пра тэлевізар. Бо колькі мы ім казалі дагэтуль: «Не ўключай — заб'е токам!» А што такое ток для дзіцёнка? — містыка. І вось ужо ён пасля метамарфозы шпацыруе па нашых вуліцах і дварах у выглядзе Чорнага чалавека. А дыктарка папярэджвае: «Дзяўчынка, дзяўчынка, выключы тэлевізар!»

А партрэты на сценах, якія сочаць вачыма за людзьмі? А гукі за сценамі? Колькі ні кажы, што гэта проста мастак намаляваў і што суседзі за сцяной сварацца. А для дзіцяці (якое ўсур'ёз пытаецца, ці можна на метро да мора даехаць) з ягонымі прасторава-часавымі ўяўленнямі не так усё і проста. Вось адчыняюцца партрэты, як дзверы, а з іх вылазяць Чорныя рукі, што днём стукаліся з-за сцяны. Бо за сцяной не суседская кватэра і нават не вуліца, а цэлы свет са сваімі фантастычнымі насельнікамі.

Піражкі з чалавечым мясам? А чым яшчэ растлумачыць, што маці не дазваляе іх купляць, а калі і купіць, то адразу ўсё начынне выкідае ў сметніцу.

Пра ўрачоў-крывасмокаў і тлумачыць не варта. Бо яны, акрамя як шпіляць балючыя ўколы і ціснуць кроў з пальца (а тую кроў праз шкляную трубачку, што ў роце трымаюць, смокчуць), нічога для дзяцей і не робяць.

А пра бацькоў, што ў вены іголкі запускаюць ды яшчэ па начах, перакінуўшыся жабоцькай, п'юць кроў, расказваюць таму, што, калі хто і б'е дзяцей (для саміх дзяцей, вядома, без дай прычыны), то гэта бацькі, калі хто і забараняе рабіць, што прыемна,— то гэта зноў бацькі. Да таго ж мы з вамі і ёсць тыя пачвары, што пачуваюцца між агромністых, непатрэбных рэчаў як у сябе дома, а сапраўдныя, утульныя хаткі з крэслаў і посцілак адно і ведаюць што бурыць.





«Чакуляка». Мал. У. АДАМЧЫКА

Вось амаль і ўсё, што я меўся расказаць пра страшныя гісторыі, якія мы ўсе расказвалі ў дзяцінстве. А ці толькі расказвалі? Ці не расказваем іх і цяпер, адно з той розніцай, што дзіцячыя не бяром усур'ёз, стаўшы дарослымі. А ў цяперашнія гісторыі — чуткі — верым. Хто не чуў пра маньякаў-забойцаў, пра тое, як жонка забіла мужа, парэзала на кавалкі і ў чамаданах павезла за горад? Ды ці мала розных гісторый у горадзе расказваюць? І кожная з іх мае пад сабой нейкую рэальную аснову, звязаную з сюжэтам не больш, чым электрычны ток з Чорным чалавекам.

Але ж я не маленькая дзяўчынка і таму спакойна ўключаю тэлевізар, застаўшыся сам-насам увечары. А там у тэлевізары сівая бабуля расказвае: «І вось, дзетачкі мае, у тыя гады ездзіў па горадзе ноччу «чорны воран». Удзень не ездзіў, не. І знікалі тады людзі; куды прыязджаў «чорны воран», там і знікалі, і ніхто не ведаў, куды. Часам так баішся, што за табой прыедзе, вось усю ноч і не спіш».

А я, як заклён, паўтараю: «Дзяўчынка, дзяўчынка, выключы тэлевізар! Калі ты адна і зняцку яго ўключыла, то ноч спаць не будзеш».

Не ведаю, выключыла дзяўчынка тэлевізар ці не, але ведаю дакладна, хутка з'явіцца ў дзіцячым фальклоры новы персанаж — «чорны воран», а можа, гэта і «труна на колах» з майго дзяцінства? Функцыя ж у іх адна — хапаць людзей начамі: спачатку бабу, потым маці, потым сястрычку, а ў рэшце рэшт і галоўнага героя, маленькага хлопчыка, і хаваць іх да часу, покуль добрыя людзі не прыйдуць і ўсіх не выслабаняць, а «труну на колах» не патрушчаць ботамі.

Выключаю тэлевізар у рэшце рэшт і я. І тут толькі канчаткова ўсведамляю сабе сэнс дзіцячага праклёну з маіх часоў: «Каб твае дзеці тэлевізара баяліся!»

А мы смелыя людзі, не баімся, уключаем. А мы ж тыя дзеці, толькі падраслі, гэта пра нас, каб мы баяліся, а мы не баімся. Бо мы расказвалі і такія страшныя гісторыі.

**У чорным, чорным лесе, на беразе чорнага, чорнага возера, на чорнай, чорнай траве, пад чорным, чорным небам сядзяць два чорныя, чорныя чалавекі. І адзін чорны, чорны чалавек пытаецца ў другога чорнага, чорнага чалавека: «І нашто мы столькі гумы спалілі!»**

Аляксандр КІШЧАНКА

# АБАПІРАЮЧЫСЯ НА МЕСЯЦ

Шчаслівы той мастак, якому прамень асвяціў пэндзаль. Але да таго пэндзаль прабег па плоце, зіхацеў на поўсці ў сабакі, пагуляў з расою на траве, пракрычаў на грэбені ў пеўня і толькі потым асвяціў пэндзаль.

Творца павінен абапірацца на любоў, толькі на яе. Але каханая толькі пачатак, любоў шырэйшая — маці, дзіця. Гэта поклічы Сусвету. У гармоніі любові чалавецтва знаходзіць сілу духа і ўпэўненасць у сваёй рацыі.

Той, хто ідзе супраць плыні назад, не пакіне на лязе часу нават зарубкі.

Гармонія пануе і на зямлі:
Травы мае, травы,
Чараўніцы начныя,
Колькі разоў лячылі вы раны мае...



Аляксандр КІШЧАНКА. «Нараджэнне касманаўта Пятра».



Аляксандр КІШЧАНКА. «Зоя».



Аляксандр КІШЧАНКА. «Наташа».

Покліч мора вечны.

Не выпадкова дэльфіны — касманаўты мораў — заўсёды цягнуцца да людзей, а людзі да іх.

Гэтае вечнае імкненне — сутнасць быцця.

Мы — ткачы, мы тчом дываны часу.

Музыка — гэта покліч вечнасці. Багі пакінулі на зямлі Бетховена, Моцарта, Мусаргскага, Пушкіна, Рублёва, Лермантава, каб мы раўняліся на іх.

Гэта зоркі першае велічыні, яны гармонія вечнасці.

Абапіраючыся на месяц, трымаючыся за сонца, я часта бачу блакітную нашую зямлю. Кветкі планеты мяне пакараюць сваёй прыгажосцю, але букет ніколі не будзе поўны, калі там не будзе кветкі маёй Радзімы.

Калі мы наведалі храм мінуўшчыны і пабудавалі храм будучыні — мы вечныя ў гармоніі Сусвету.

Творца павінен пісаць час, зачэрпваючы пэндзлем блакіт нябёсаў і пылок кветак, гледзячы ў вочы азёр.

Працягваючы руку з мінуўшчыны ў будучыню, я пасылаю боль свайго сэрца, каб у тваім сэрцы мой боль адгукнуўся.



# Віктар ШНІП

* * *

Я сяджу ля кастра і гляджу
праз агонь на дарогу,
Па дарозе ідзе мой стамлёны
зажураны цень
І адчайна кляне ўсё на свеце,
ды толькі — не бога,
Ён у бога не верыць,
а верыць ва ўдачлівы дзень.
Ён пайшоў ад мяне —
захацелася прывіднай волі,
Пра якую ён чуў ад варожых
і злых галасоў.
Напалохаў сабою
ён жнеяк дзябёлых у полі,
Але й сам ледзь уцёк
ад раўнівых п'яных мужыкоў.
Ён заходзіў, як злодзей
спалоханы, у магазіны,
Дзе хапае ўсяго,
ды купіць жа нічога няма.
Як на дзіва заморскае,
доўга глядзеў на вітрыны,
Дзе век рыба людзям свой язык
выстаўляе сама.
І зімой начаваць ён прасіўся
ў пустыя гатэлі,
Не пускалі яго, бо прыехаў жа —
не з-за мяжы.
Прастытуткі яму прапаноўвалі
ветла пасцелі,
І праз міг праганялі яго
з-за наіўнай душы.
Нейкі час ён пажыў
у рабочым старым інтэрнаце,
Дзе выгоды усе —
на зарослым і брудным двары.
Як ён плакаў па роднай
забытай і чысценькай хаце,
Як смяяліся злосна з яго
абібокі-сябры!
І, не з'еўшы яшчэ
нат паўпуда найпершага солі,
Як паранены звер
ён адчайна і люта зароў:
«Забярыце ў мяне гэту волю,
І аддайце мяне, як сабаку,
ў палон ланцугоў!»
Каб яго шкадаваць не знайшлося
нікога дурнога,
Нат дажджамі пагнаў ад сябе
ціхі восеньскі дзень.
Я сяджу ля кастра і гляджу
праз агонь на дарогу,
Блудным сынам ідзе
мой стамлёны, зажураны цень.

## ДАЛАКОП

Адрокся ад мовы, адрокся ад маці,
Адрокся ад жонкі і кучы дзятвы,
І кажа: «Нічога яшчэ я не страціў,
Галоўнае сёння — здаровы, жывы».

На могілках зранку магілы капае,
Па блату выгодную справу знайшоў.
Заўсёды ёсць выпіць — людзей тут хапае,
Якія ідуць назаўсёды Дамоў.

І што яму горад, і што яму гора,
Ён сам тут і грэшны, і сам тут святы.
Ён быў не патрэбны нікому — учора,
А сёння ўжо з ім ты не будзеш на «ты».

Ён майстра найрэдкі, ён ведае справу,
Не суньце траячку — не грошы трояк.
Заплаціш — і яму ён зробіць на славу,
Што ад захаплення заплача мярцвяк.

Заплаціш — і ён не спытае нічога
І стане адразу надзейным слугой.
Заплаціш — і ён закапае любога,
Заплаціш — і горад засыпле зямлёй...

Сядзіць ён на свежай магіле, як воран,
Паўнютка ў кішэні і пуста ў душы.
І што яму шчасце, і што яму гора,
І што яму зоркі, штандары, крыжы...

## ЗА НЯБАЧНАЙ СЦЯНОЙ

Гаворыць, што там нецікава і брудна
І ведзьма там плача над ступай старой.
Дакладна ж — нічога не бачна, не чутна,
Што робіцца там за нябачнай сцяной.

Сцяну збудавалі нядобрыя людзі,
Сцяну збудавалі між добрых людзей.
І толькі як злосці на свеце не будзе,
Тады і сцяна паміж нас прападзе.

— Не будзе такога! — гаворыць суседка.
— Я веру — так будзе! — вяшчуе паэт.
Паэту за гэта кідаюцца кветкі,
І гоніць суседку дадому сусед.

Дакладна ж — нічога не бачна, не чутна,
Што робіцца там за нябачнай сцяной.
Гавораць, што там нецікава і брудна
І ведзьма там плача над ступай старой.

## БАЛАДА ПРА СЛЯПОГА, ЯКІ ЎСЁ БАЧЫЎ

Хадзіў па горадзе Сляпы.
Куды ішоў — ён добра ведаў.
Што не патрэбна — ён забыў,
Хваліў расстраляных паэтаў.

І кожны дзень адно крычаў:
— Вы ўсе не бачыце нічога!
І шэпат чуў: «Ты б замаўчаў
І пільнаваўся б лепш дарогі».

Царкву бульдозер руйнаваў.
Быў лозунг: «Збавімся старога!»
Сляпы хадзіў і ўсё крычаў:
— Вы ўсе не бачыце нічога!

Прастыў
і ў ноч памёр Сляпы.
Яго суседзі пахавалі...
На рэштках збуранай царквы
Шкляны будынак збудавалі.



Лявон Вашко скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі карэліцкай раённай газеты. У вольны час піша апавяданні. Ягоныя сябры кажуць, што творы ў Лявона цікавыя, арыгінальныя. Адзін з гэтых твораў яны прынеслі ў рэдакцыю «Крыніцы»... Гэта дэбют маладога празаіка ў рэспубліканскім друку.

Лявон ВАШКО

# КЫЗЮЧКА

АПАВЯДАННЕ



Рэцыдывіст Арцём Сцяпанавіч Шчукін меў трагічны і недарэчны лёс. Зрэшты, самому на сябе крыўдаваць не след: стварыў нейкую таямніцу, схаваўся ўвесь у ёй ды існаваў разам з ёю ў думках і пачуццях. Жыццё і смерць гэтага каржакаватага чалавека — то не інакш, як жыццё і смерць закаханай кызючкі.

У гарадку ён з'явіўся ў канцы пяцідзесятых гадоў. Прыехаў здалёк пасля заканчэння нейкай тэхнічнай ВНУ і рабіў інжынерам на мясцовым заводзе. Быў спартоўцам і часта абараняў гонар свайго горада на розных спаборніцтвах. Дужа ўпадабаў стральбу з дробнакалібернага пісталета. Добра валодаў і баявой зброяй. Яшчэ калі быў студэнтам, дык набыў праз аднаго свайго знаёмага два рэўнаганы і некалькі соцень патронаў. Зрэдку хлопец даставаў са сховы зброю і прамаваў да лесу, хаваўся як далей у гушчары ды цаляў па шышках ці па пнях. Жыццё ў гэтыя хвіліны здавалася крохкім, бы шкло, і сумным. Галаву поўнілі развагі пра ўласнае існаванне і існаванне іншых кызючак. Кызючка — гэтаму дзіўнаму слову ён надаваў асаблівы сэнс. Гэтак хлопец ахрысціў людзей. Паводле ягоных меркаванняў, назва адпавядала свайму прызначэнню: чалавек — гучыць занадта аптымістычна, кызючка — штосьці хвіліннае, аморфнае, трохі недаразвітае, асабліва ў параўнанні з такой наладжанай на доўгую работу штукай, як рэўнаган. «Сумесь рацыі і глупства — то будзе кызючка,— наведвалі яго такія думкі.— Дакладней,— развіваў ён сваю выснову,— барацьба паміж рацыяй і глупствам. Менавіта таму кызючкі нярэдка робяць тое, супраць чаго яны ў іншых абставінах гатовыя паўстаць. Рэўнаган — вось лагічны доказ, вось самы трывалы аргумент у спрэчцы, вось твор дзейнасці кызючак. Рэўнаган — гэта толькі рацыя. І болей нічога».

З цягам часу погляды на жыццё не пераманіліся. Наадварот, Шчукін упэўніўся ў тым, што не памыляўся. Ён хадзіў па брудных вулках гарадка і пазіраў на стомленыя і абыякавыя твары кызючак. Дзесьці далёка, у іншым свеце, было, напэўна, утульна і весела, кызючкі там працавалі і радаваліся гэтаму; там, відаць, кахалі шчыра і назаўсёды, там смерць кызючкі была найвялікшым горам. У гарадку было ўсё інакш. Жыхароў аб'ядноўвала ў адзін агромністы атрад не радасць у рабоце, а мэта — сённяшняя зрабіць болей, чым учора. І да смерці тут ставіліся даволі памяркоўна: нават галашэнні на хаўтурах гучалі завучана і звыкла. Хлопцу такія справы дужа не падабаліся, ён шукаў сабе каханне да скону. Яму вельмі хацелася пакахаць каго-кольвек, каб усё было шчыра.

Аднойчы ён пазнаёміўся з Зоськай, светлавалосай палячкаю, якая працавала ў школе піянерважатаю. Зоська была пекнай дзяўчынаю. Яна завяла раман з маладым, але сямейным матэматыкам. Яна паважала яго за розум, пачуццё гумару і за тое, што той надта ж любіў пашкеліць з дырэктара школкі. Яна пакахала, а дырэктар, даведаўшыся пра амуры, што дужа далёка зайшлі, правёў сур'ёзную індывідуальную гутарку з матэматыкам. Пасля гэтага матэматык справакаваў сварку з Зоськай з-за нейкай драбязы, напісаў заяву на звальненне і пайшоў сабе ў іншую школку ў гарадку.

Шчукін сёе-тое ведаў з розных плётак пра Зосьчын раман, і яму было шкада дзяўчыну. Колькі месяцаў ён гуляў з ёю па вечарах, распавядаў розныя смешныя гісторыі. Вяртаючыся пасля пагулянак дахаты, хлопец адчуваў на душы радасць і палёгку, нібыта некалькі гадзін таму раптоўна пазбавіўся ад невылечнай і нудлівай хваробы, якая дагэтуль не давала спакою. Ногі неслі яго барзджэй, перад вачыма ўзнікала абліччa дзяўчыны. Губы выцягваліся ў трубачку і ціхенька прамаўлялі: «Каханая! Незабыўная!» Яму вельмі хацелася зрабіць ёй прапанову, але з-за сарамлівасці гэты намер адкладаўся з дня на дзень. Ён палохаўся, што Зоська адмовіцца ад прапановы. І калі ўрэшце рашыўся, дык яго дужа здзівіла, што тая згадзілася адразу, без доўгіх размоў.

Пабраўшыся, яны пайшлі жыць да старой Люцыны, Зосьчынай маці, якая мела на ўскрайку гарадка палову хаты. Два невялікія пакойчыкі з невысокімі дзвярыма яна пакінула сабе пасля смерці свайго мужа, які хварэў на сухоты, доўга мучыўся і памёр, калі Зоська была зусім малая. Два пакоі купілі Станішэўскія — маладыя муж і жонка,— якія перагарадзілі жытло тонкай авіяцыйнай фанераю. Удзень яны хадзілі, ледзь чутна размаўлялі. А потым, як надыходзіла ноч, надта ж голасна храплі. Калі Шчукін прыйшоў жыць да цешчы, яму вельмі не спадабалася гэтае храпаценне за перагародкаю. Яшчэ не спадабалася на новым месцы тое, што цешча сачыла за кожным крокам. Заўсёды аглядалася з-пад ілба падазронымі вачыма ды маўчала. Уначы яму аніяк не адагнаць было дакучлівую думку: пакі яны з Зоськай абдымаюцца, старая вылупіла шпіёнскае вока і пазірае на іх праз замочную шчыліну. Хацелася схаваць уласнае цела і цела жонкі пад коўдрай, стаіцца і сцішана ляжаць да раніцы.

Па вечарах ён любіў выходзіць на падворак. Было ціха, і ніхто не замінаў разважаць пра кызючак і каханне. Кызючка шчаслівая ў тым разе, калі верыць іншай кызючцы. Каханне нараджае гэтую веру. А мо наадварот, вера нараджае каханне? Ён нашэптваў словы: «Каханне, кызючка, незабыўная...» Шчасце агортвала ягоную душу: калісьці ён марыў пра жанчыну, якую можна пакахаць і якой можна верыць, а зараз гэтая мара спраўдзілася.

Аднаго вечара, пасля чарговага шпацыру па падворку, Шчукін з'явіўся ў хаце з меланхалічным тварам. Зоська дзесьці затрымлівалася. Люцына пачала ўшчуваць яго. Яна ўтаропілася сваімі цяжкімі нерухомымі вачыма ў зяця і мовіла:

— Алі ты ганурча! Няўжо ты нічога не бачыш? У цябе пад носам жонка ў гулі ходзіць, а ты, бы шчанюк невідушчы: пакі пысай не тыцнеш — не разгледзіш.

Шчукін увесь збялеў.

— З кім яна цягаецца? — ціха запытаўся ён.

Але старая маўчала. Яна болей не хацела гаварыць пра гэта.

Шчукін зазлаваў. Ён узяў Люцыну за каўнер, трасянуў некалькі разоў і зноў напаўголаса прамовіў:

— Адказвай, курва старая, з кім яна цягаецца?

— Запытайся ў сваёй жонкі. Яна лепей ведае.

Шчукін плюнуў на падлогу і адпіхнуў ад сябе Люцыну. «Выгадавала курву,— падумаў ён,— а мяне чамусьці ганіць». У грудзях зрабілася цяжка, і ён выйшаў на двор. Восеньскае паветра павеяла на твар мокрым зобкім ветрыкам. У прыцемках чуўся брэх сабак і шоргат дажджу аб пажоўклую лістоту дрэў. Шчукін пакінуў падворак і спакваля пакрочыў па вуліцы ўздоўж невысокіх платоў і маленькіх драўляных хацін. На душы было няўтульна і бязрадасна. Гэтаксама няўтульна і бязрадасна зрабілася птушкам, дрэвам і бадзяжным сабакам з надыходам сцюдзёнага сутоння. Мінаючы лужыны, Шчукін ішоў абы-куды, нетаропка і паважна. То было шэсце кызючкі, якая раптам спасцігла нечаканую ісціну: прыгожая жанчына, што створана для аднаго,— не створана для кахання. Магчыма, зрабіўшы такую выснову, Шчукін узняўся на больш вышэйшую прыступку свайго духоўнага развіцця, але ў свеце нічога не змянілася ад гэткіх думак: па-ранейшаму падала з неба драбніца і паўгалодныя навязаныя сабакі заходзіліся на кызючак ад злосці.

Далёка наперадзе, у святле ліхтара, з'явіліся дзве постаці, якія рухаліся насустрач. Шчукін крыху счакаў. Калі яны наблізіліся, дык пазнаў Зоську і матэматыка. Матэматык распавядаў нейкую гісторыю, паклаўшы левую руку на Зосьчын тылочак, а правай у захапленні ад уласных слоў махаў з боку ў бок. Яны крочылі і нікога не заўважалі.

— Гэй, ты, Ігрэк хрэнаў, пачакайтка хваліну! — крыкнуў Шчукін.

Матэматык павярнуўся. Бачна было, што ён спалохаўся.



— З кім маю гонар?

— Зараз я табе пакажу гонар, шкет ты марнаваны! — сказаў Шчукін, узяў матэматыка загрудкі, прыткнуў яго да плота, і наваколле напоўнілася адчайным енкам:

— По какому праву?..

Гукі атрымаліся дрыготкія і ненатуральныя. Такімі гукамі крычаць не «По какому праву?..», а «Людцы, ратуйце! Забіваюць!». Але хутка на вулцы сцішэла: Шчукін надаваў матэматыку пад дых, і той, крэкнуўшы колькі разоў, сеў на кукішкі ды пачаў глыбока дыхаць.

Увечары, пасля доўгіх ваганняў, Шчукін прыняў адно рашэнне. Душу яго агарнуў спакой. Нават жончыны словы не ўсхвалявалі, калі тая адарвала ад падушкі заплаканы твар і прамовіла:

— Ён збіраецца кінуць сваю жонку, і мы хочам пабрацца.

Шчукін прамармытаў нешта сабе пад нос. Яго болей не кранали жончыны словы, яе слёзы, не хвалявала назаўжды страчанае каханне, а можа, не каханне, а толькі давер да каханай,— ён быў абыякавы да самога сябе. У душы ніякіх згрызот, аніякіх самакапанняў і самазаспакаенняў. Пустка. Чорнае бяздонне. То надышоў час нуды. Ён не шукаў з яе выйсця, а проста лёг сабе ціхенька ля Зоські і ўпершыню ў жыцці ні пра што не думаў.

— Ты дарэмна гэтак зрабіла. Трэба было прызнацца раней,— ціха прагучалі сярод ночы ягоныя словы.— Гэта горш за ўсё, калі цябе падманваюць. Лепей усё адразу ведаць. Тады справы ўладкаваць лягчэй. Ведаеш што? Запрасі гэтага матэматыка да нас. Разам пасядзім. Усё абмяркуем. Запросіш?

Зоська, плачучы, мовіла:

— Добра, калі ты так хочаш, я скажу, ён прыйдзе.

Наступнага дня пасля работы Шчукін скіраваў да сховы з рэўнаганамі, дастаў аднаго бульдога і пайшоў дахаты. Ён дужа хваляваўся, ажно рукі трэсліся. «Усё праз маю нерашучасць,— думалася па дарозе.— Усё праз тое, што я слабая і нерашучая кызючка. У такія адказныя моманты нельга хвалявацца. Я ж не хваляваўся, калі прымаў рашэнне. Значыць, нельга і зараз». У галаве ўзнікалі розныя высновы, якія нарадзіліся яшчэ ў студэнцкія гады, потым неяк забыліся, і вось зараз зноўку вярэдзяць душу: кызючка, якая бянтэжыцца ад усялякіх дробязяў, няшмат чаго дасягне ў жыцці, супярэчлівасць кызючак у тым, што яны з'яўляюцца супрацьлегласцю сутнасці рэўнагана і адначасна імкнуцца да падабенства з гэтай даведзенай да ладу рэччу. Рэўнаган — дзіця кызючкі, і для клапатлівага бацькі існаванне гэткага маленькага чорненькага сыночка — не толькі працяг уласных ідэй і памкненняў, паўтарэнне, але і надзея, што хлопчык пераўзыдзе некаторыя татавы здольнасці... З такімі думкамі Шчукін увайшоў у хату і ўбачыў матэматыка, які ў касцюме, пры гальштуку сядзеў ля кухоннага стала і сарамліва пазіраў з-пад брыва. Шчукін стрэліў трапна, матэматык нахіліўся на бок ды паваліўся ніцма. Зоська збялела, схапілася рукамі за галаву. Ёй чамусьці падумалася, што наступны стрэл будзе па ёй. Аднак рэўнаган бразнуўся аб падлогу. Яна ўбачыла, як муж выйшаў з хаты на двор. Яна падбегла да дзвярэй і зірнула ў спіну Шчукіна, які паволі кудысьці ішоў.

Ён сам не ведаў, куды крочыць. Ішоў, пакуль не напаткаў участковага Байду. Вось тады і звярнуўся да яго са словамі:

— Таварыш Байда, я забіў кызючку. Арыштуйце мяне.

Прамовіўшы гэта, ён адчуў, як на душы зрабілася адзінока.

Але Байда не адразу зразумеў, пра што гаворка.

— Ты што, напіўся? Якую яшчэ кызючку? — запытаўся ўчастковы.

Толькі твар Шчукіна не быў п'яны. Твар быў шэры, з растуленым ротам, з вачыма баязліўца, якога толькі што моцна напалохалі. З хлюпаценнем у носе, з цяжкім подыхам.

Ён прамовіў:

— Матэматыка. Я забіў матэматыка. Арыштуйце мяне хутчэй...

— Толькі не трэба хвалявацца,— сказаў Байда.— Хадзем разам са мною. Там разбяромся.

«Чаму кызючкі не могуць зразумець адзін аднаго? — задаваў сабе пытанне Шчукін, ідучы побач з Байдаю ў аддзяленне міліцыі.— Магчыма, таму, што мы баязліва азіраемся па баках, калі трэба павесці шчырую размову з кім-небудзь. У кожнага з нас свае сакрэты. Кожны раіцца сам з сабою. Але самае страшнае, што людзі забыліся на тое, каб давяраць свайму сумоўніку, гаварыць, што думаеш. Раптам штосьці не тое скажаш? Штосьці зрабілася ў кызючак, яны страцілі давер адно да аднаго».

Пра гэта ён часта думаў у турме. Зоська не наведвала яго і не пісала лістоў. З гадамі твар жонкі пачаў забывацца, адно засталіся ў памяці тыя пачуцці, якія некалі хвалявалі душу, ды тыя думкі, што надыходзілі ў былыя часы. Кызючка, якая не забылася на сваё каханне, якая памятае, пра што думала і марыла ў маладосці,— не апошняя істота. Так ён разважаў. Але часта менавіта з гэтае прычыны яму рабілася балюча: ніхто не даведаецца пра ягонае нешчаслівае каханне, пра сутнасць кызючкі і рэўнагана, сутнасць, якую даводзілася так цяжка спасцігаць,— вось у чым трагедыя і недарэчнасць пражытага.

Аднога разу пасля турмы ён завітаў да Зоські. Шчукін адчыніў дзверы з вуліцы ў невялікі калідор. Яна сустрэла былога мужа пустым, бляклым ад часу позіркам вачэй. Яны выпраменьвалі вакуум. Кожнае вока, здавалася, глядзела само па сабе, асобна. Рукі ў яе былі закарэлыя ад бруду і пасечаныя глыбокімі разорамі. Старая сукенка даўно не мылася і ў некаторых месцах запэцкалася аб штосьці тлустае. «Няўжо гэтую старую кызючку я некалі кахаў за пякноту?» — падумалася яму.

— Я заўсёды помніў пра цябе,— нягучна сказаў ён.— Я думаў пра тое, што дужа шмат нядобрага нарабіў табе, і тады здавалася: вось атрымаю волю, дык прыйду да цябе і на каленях буду каяцца. А зараз я не адчуваю сябе вінаватым. Памойму, я ўсё слушна рабіў і, значыць, слушна жыў.

Ён прайшоўся па хаце. У ёй мала што змянілася ад мінулага. Старая мэбля, пах нафталіну каля шафы, падраныя палавікі — усё было з таго іншага, незабыўнага часу маладосці.

— Заставайся з намі. Куды табе ісці? — сказала Зоська.

Старая Люцына, якая сядзела на канапе каля шафы, захітала галавою, пазіраючы на Шчукіна няўцямнымі вачыма. Яна даўно ўжо страціла розум ад старасці і заглядалася наўкол па-свойму, на свой капыл тлумачыла жыццё, што прайшло без сэнсу, а значыць, без радасці, перайначвала паняцці, якія спакон вякоў лічыліся непахіснымі, перайначвала нават словы, яна то задзірала спадніцу, агаляючы свае сінія крывыя ногі, то пачынала вярзці брыдоты, то рабіла купку на падлозе, а было, што проста сядзела гадзінамі і гучна гаварыла на дзіўнай мове, якую, акрамя самой старой, ніхто і не ведаў.

Спачатку Шчукіну было брыдка глядзець на Люцыну, але потым ён прызвычаіўся і ахвоча забаўляў старую рознымі аповядамі ды ўспамінамі пра жыццё ў няволі. Люцына ўпадабала нечаканага госця адразу. Магчыма, за тое, што ён парушыў адзіноту, у якой жылі яна і дачка. Старая прыходзіла да ягонага ложка кожнай раніцы, сядзела побач і маўчала. Шчукін прачынаўся позна і, убачыўшы ля сябе Люцыну, усміхаўся ды распавядаў што-небудзь. Яна слухала ўважліва, і яму колькі разоў карцела загаварыць паводле сутнасці кызючак і паводле кахання. Толькі ён разумеў: пранікнёны позірк старой, яе маўклівая згода з кожным словам — гэта не жаданне спасцігнуць чужыя пачуцці і высновы, а проста праява хваробы.

Па начах яму часта не спалася ад прыступаў болю ў левай руцэ. Прыступы пачаліся яшчэ ў турме. Тады вылез з-пад скуры каля локця невялікі гуз. Цяпер гэты гуз разрастаўся хутка і балюча. Медыкі зрабіць нічога не здолелі: палячылі тыдні тры ды выпісалі са шпіталя. Рука зусім апухла і не гнулася. Калі было не стрываць ад болю — здаралася гэта звычайна ўначы,— ён пачынаў стагнаць. Да яго прыходзіла Зоська. Яна абдымала ягоную шыю і асцярожна клалася побач.

— Пастарайся заснуць,— казала яна.— Калі спіш, дык не так балюча.

Зоська чамусьці не выйшла замуж пасля таго, як пасадзілі ў турму Шчукіна. З цягам часу, калі пастарэла, яна кінула думаць пра матэматыка і былога мужа, яе менш за ўсё хваляваў заўтрашні дзень, бо вырашыла для сябе пэўна: ужо нічога не зменіцца. Толькі зрэдку яна злавала невядома на каго за тое, што засталася пад старасць адна, без дзяцей. Нярэдка думкі пра адзіноту палохалі. І таму, што ніякія спадзяванні на будучыню не наведвалі, ёй рабілася шкада сябе.

Зоська і Шчукін мала размаўлялі пра былое сямейнае жыццё. Яму хацелася распавесці пра сваё каханне, пра думкі паводле кызючак і рэўнагана. «Тады яна зразумее мяне,— думаў ён.—Зразумее, што я лепшы, не такі, як думаюць людзі. Зразумее галоўнае: у мяне ёсць свая Ідэя, свая мадэль існавання. Я ніколі не называў гэтай мадэлі іншым, а наадварот, трымаў думкі пры сабе. Няхай так сталася, што са сваіх высноў і пачуццяў я зрабіў таямніцу. Але ж гэта з-за недаверу кызючак, з-за таго, што нават ад самых родных, самых дарагіх кызючак мы хоць штонебудзь ды стараемся ўтаіць». Ён падумаў, што трэба абавязкова распавесці пра сябе Зосьцы. Яна павінна зразумець яго, а значыць, прабачыць забойства. Калі хоць адна кызючка на гэтым свеце зразумела цябе і прабачыла — гэта ўжо шмат.

Толькі Зоська, неяк аглядаючы Шчукінаву руку, уздыхнула і мовіла:

— Расперла табе руку, бы ў слана зрабілася.— Яна крыху памаўчала, а потым дадала: — Гэта, пэўна, за тое, што ты замардаваў матэматыка.

Яна нічога не забыла і не хацела прабачаць. «Яна ніколі не зразумее мяне,— падумаў ён.— Гэта, відаць, такая ў яе помста». Ён скіраваў у бар і прасядзеў там да вечара, п'ючы гарэлку і піва, думаючы пра кызючак, рэўнаган... Калі звечарэла, ён пайшоў да сховы і дастаў апошнюю сваю зброю. Ужо позна было, як завітаў дахаты і, не скідаючы пантофляў, паваліўся на канапу. Трымаючы ў здаровай руцэ рэўнаган, пачаў цікаваць за мухамі, што сядалі на фанерную перагародку, за якой жылі Станішэўскія. Кулі, было, клаліся трапна, і некалькі жамерын загінула. Аднак большасць стрэлаў гучала без сэнсу, бо рука ў Шчукіна дрыжэла, а вока было п'янае, і кулі дзіравілі тонкую фанеру і не забівалі мух, проста ляцелі ў бок Станішэўскіх. Тыя не адразу скемілі, у чым справа, а пасля здагадаліся. Станішэўшчыха схавалася за канапаю, а Станішэўскі — за мяккім крэслам. Потым Станішэўскі дапетрыў, што трэба звярнуцца ў міліцыю, і папоўз праз пакой да тэлефона. Але лепш бы ён ляжаў: яго параніла ў калена. Станішэўскі завойкаў, закруціўся, але да тэлефона ўсё-ткі дапоўз.

Міліцыянты прыехалі хутка. Яны акружылі хату, і ўчастковы Байда, узняўшы правую руку з пісталетам Макарава, памалу наблізіўся да акна.

— Гэй, Шчукін! — крыкнуў ён.— То міліцыя. Выкідвай сваю зброю, здавайся. Мы цябе акружылі!

Надвор'е было ціхае, восеньскае, і словы ўчастковага далёка разнесліся. А потым пачуўся яшчэ адзін гук, металічны: у адчыненую фортку вылецеў рэўнаган і ўпаў на цэментаваную дарожку. Адразу пасля гэтага ў хату ўскочылі два сяржанты: адзін з іх даў Шчукіну пад дых, а другі надзеў бранзалеты. Зашпільваючы на хаду кабуру, увайшоў Байда. Ён пільна паўзіраўся ў папрабіваную перагародку, потым звярнуўся да Шчукіна.:

— Але ты й дурны!.. Ну, няхай першы раз з-за бабы, а зараз чаго?

— Не ведаю, грамадзянін Байда,— адказаў Шчукін.— Не ведаю. Вінаваты я чамусьці.

Яго павялі. Калі выходзілі з хаты, дык ён убачыў Зоську, якая стаяла ў калідоры і зглядалася на канвой і арыштанта. Праз тыдзень яго не стала. Пухліна на руцэ разраслася так, што скура пачала лопаць і з ранаў шкамутамі павылазіла мяса. Два разы выклікалі лекара, які рабіў наркатычныя ўколы, а за некалькі хвілін да смерці прыступы скончыліся. Шчукін згадаў Зосьчыны вочы, калі тая пазірала, як сяржанты выводзілі яго з хаты. То быў позірк кызючкі, якая зразумела, што асуджана на адзіноту да канца сваіх дзён. Асуджана на пустое, патрэбнае толькі ёй — а мо й не патрэбнае — жыццё.



РОК-АРХІЎ

Усевалад **КРАМУШЧАНКА**

# ДЖЫМІ ХЕНДРЫКС



На жаль, імя гэтага рок-музыканта згадвалася ў нашай прэсе толькі тады, калі было трэба паказаць усю «жорсткую» сутнасць заходняга шоу-бізнесу, празмерны занятак якім у лепшым выпадку заводзіць у тупік, у горшым — пагражае смерцю. І вось якраз адным з такіх сумных прыкладаў у даўжэзным спісе «ахвяр» служыць імя амерыканскага гітарыста Джымі Хендрыкса, які памёр, прыняўшы звышдозу наркотыкаў. На гэтым любая інфармацыя пра музыканта перапынялася. Дый ці варта было ўвогуле пісаць пра нейкага там рокера?

Але без Хендрыкса, гэтаксама ж, як і без «Бітлз» ці «Ролінг Стоўнз», немагчымая гісторыя сучаснай музыкі. Гэты юнак з негрыцянскага гета, які прабіў дарогу ў свет сваім незвычайным талентам, з'явіўся на небасхіле музычнага Алімпа бліскучым зіхоткім метэор... і раптоўна згас. Пра яго будуць пісаць: «Чорны Элвіс», «Стваральнік касмічнай музыкі»...

Нарадзіўся Джоні Алэн Хендрыкс 27 лістапада 1942 года ў Вашынгтоне. Калі хлопчыку было чатыры гады, яго вырашылі хрысціць. А паколькі пры абрадзе трэба даваць дзіцяці новае імя, то бацька да першапачатковага дадаў яшчэ і Джэймс Маршал. Атрымалася: Джоні Алэн Джэймс Маршал Хендрыкс. Маці Джоні — па паходжанні індыянка — памерла, калі яму было дзесяць гадоў. Увогуле, у сям'і ў Хендрыксаў музыкай ніхто асабіста не займаўся. Дый сам Джоні хацеў спачатку стаць мастаком. З гэтай мэтаю ў 1954 годзе, нават не закончыўшы сярэдняй школы, ён перазджае на заходняе ўзбярэжжа, у Берклі. Спыніўшыся ў радні, бярэ некалькі ўрокаў малявання ў свайго дзядзькі. Але ці то выкладчык быў благі, ці то ў Джоні няважна атрымлівалася, ды жывапіс ён неўзабаве кінуў.

Чаму ж усё-такі лёс уручыў у рукі юнага Хендрыкса гітару, а не пяро з пэндзлем, напрыклад? Справа ў тым, што да васемнаццаці гадоў Джоні пражыў у негрыцянскіх кварталах, дзе пастаянна, дзе б ён ні быў, у царкве ці на танцах, гучала нацыянальная музыка — блюз. А штуршком да занятак музыкай стала выканальніцкае майстэрства амерыканскага блюзавага гітарыста Бі Бі Кінга, пласцінку якога падарыў Джоні нехта з сяброў.

На пачатку 1963 года фартуна быццам бы ўсміхнулася юнаку: у сваю групу акампаніятараў яго бярэ папулярны выканаўца рок-н-ролаў Літл Рычард. Але, нягледзячы на высокі заробак і самыя цёплыя адносіны да «маленькага» Рычарда, у пошуках сваёй музыкі Хендрыкс выходзіць з вядомага гурта і далучаецца да квартэта «Джо Ды энд зэ Старлайнтэрз». Даючы тры гады канцэрты, раз'язджае з імі па ўсёй Амерыцы. Кантактуючы з музыкантамі, ён удасканальвае тэхніку ігры. І неўзабаве пра маладога гітарыста сталі гаварыць усё часцей і гучней. На сумесныя выступленні яго ўжо запрашаюць знакамітасці: Саламон Барк, Уілсан Пікет, Хэнк Бэлард. І нават Бі Бі Кінг крамзануў Джоні маленькі лісток. Але запрашэнні прыходзілі асабіста да Хендрыкса, і гэта выклікала празмерную зайздрасць у астатніх удзельнікаў ягонага калектыву. І праз нейкі час ён вымушаны пайсці з групы.

У 1966 годзе ў «Нью-Йорк клаб», дзе выступалі ўсе музыканты-пачаткоўцы, у тым ліку і «Джымі Джэймс энд зэ Блю Флэмз», сяброўка аднаго са «стоўнзаў», Лінда Кейт, пазнаёміла Джымі з Чэйс Чандлерам — басістам групы «Энімалз». Чандлер ужо багата чуў пра адметны талент маладога блюзмена, але заўважыў, што акампаніятары граюць відавочна слабей за свайго лідэра. І прапанаваў Хендрыксу паехаць з ім у Лондан, паабяцаўшы пазнаёміць яго з «хлопцам, які ведае толк у гэтай справе». Чарговы пераезд мала вабіў Джымі, але ўсё-такі аўтарытэт аднаго з «Энімалз» пераважыў.

Па прафесіі Майкл Джэфрыс быў менеджэр, і толк у сваёй справе, і праўда, ведаў. З процьмы лонданскіх музыкантаў ён выбраў менавіта тое, што трэба: былы студэнт Каралеўскай акадэміі мастацтваў, а цяпер бас-гітарыст Ноэл Рэдзінг (экс-«Лэвін Кінг») і барабаншчык Мітч Мітчэл, які граў раней у Джорджы Фэйма. І абодва яны, гэтаксама ж, як і Джымі, абагаўлялі блюз. Такім чынам легендарны «Джымі Хендрыкс Іксліерыенс» быў укамплектаваны.

Але, як гэта ні дзіўна, іх першае сумеснае выступленне адбылося не ў Англіі. 18 кастрычніка, на 33-ці дзень пасля выезду са ЗША, Хендрыкс са сваёй групаю дэбютаваў у парыжскай «Алімпіі».

Вядома, з'яўленне на эстрадзе новага імені не магло застацца незаўважаным. Бо і раней пагалоска пра «чорнага караля гітары», выклікаючы пэўную цікавасць, аддаленым рэхам даходзіла да туманнага Альбіёна. І калі Джымі вярнуўся з Францыі, дык адразу ж атрымаў запрашэнне ад Эрыка Клэптана, які прапанаваў яму «ўступіць у двубой» з ягонай новай групаю «Крым». Тут варта адзначыць, што перавага ў дадзеным выпадку была відавочна не ў «Іксліерыенс». Бо Клэптан да таго часу паспеў ужо досыць «памазоліць» вочы лонданскай публіцы і карыстаўся, трэба сказаць, літаральна ўсенароднай любоўю. Але, нягледзячы ні на што, Хендрыкс згадзіўся.

Калі «Вяршкі» сыгралі апошні акорд свайго выступлення, у зале пачалося нешта неверагоднае: шаноўныя «лэдзі і джэнтльмены» паўскоквалі са сваіх месцаў, затупалі нагамі, закрычалі, патрабуючы, каб Эрык выканаў яшчэ што-небудзь. І вось, у самы разгар захаплення пачутым, на сцэне з'явіўся не дужа вытанчана адзеты малады негр з гітараю ў руках. Ні на кога не звяртаючы ўвагі, уключыўшы гітары да ўзмацняльнікаў, яны пачалі граць. Такой музыкі Лондан яшчэ не чуў...

Вельмі хутка Джымі перазнаёміўся з усёй музычнай элітаю горада. З аднаго боку, гэта, вядома, было нядрэнна, але вось з другога... З'явілася маса зайздроснікаў, якія карысталіся любым выпадкам, каб «ахаяць» Хендрыкса: «Хто, Джымі граць умее? Ха, ды ён — «шыла»! Бі Бі Кінга ды Джы Джы Кэйла здымае «адзін к аднаму»!» Але ўсё-такі большасць адчувала да маладога гітарыста шчырыя пачуцці. Ягонымі лепшымі сябрамі сталі Джон Ленан, Браян Джонс, Піт Таўзэнд...

Пасля выступлення на міжнародным поп-фестывалі ў Мантэрэй Джымі Хендрыкс робіцца сапраўднай легендаю. А ўсё пачалося з канцэртнай праграмы Энгельберта Хампэрдзінка, якую зала сустрэла вельмі холадна. Калі Хампэрдзінк закончыў, запала злавеснае маўчанне. А толькі з'явіўся вядучы — усё роўна як на пляцоўку прарвала — стадыён раз'юшана засвістаў, заўлюлюкаў. І артысты проста баяліся выходзіць на сцэну. Тады Хендрыкс, узяўшы наперавес, нібыта аўтамат, гітару, узбег на падмосткі. Пад акампанемент Рэдзінга і Мітчэла, ён спачатку метадычна разламаў аб узмацняльнікі і калонкі свой «Стратакастэр», а затым, сабраўшы ўсе абломкі ў адну груду, падпаліў.

Назаўтра, як заўжды ўсё перакруціўшы, няўдзячная прэса толькі і пісала аб «правале фестывалю» (іншыя ж выступаць пасля пагрому не змаглі), пра «мільённыя страты і неацэнную маральную шкоду», пра «расперазаны эратызм і танную папулярнасць Джымі Хендрыкса». І, вядома, усё гэта не магло не адбіцца на далейшым лёсе групы. Напрыклад, калі «Іксліерыенс» гастралявалі ў Швецыі, усе гатэлі адмовіліся даць музыкантам прытулак. А менеджэр групы «Манкіз», «каб пазбегнуць хуліганскіх эксцэсаў», адмовіўся ад іхняга сумеснага турнэ. Вось і здзяйсняй пасля гэтага подзвігі...

У чэрвені 1968 года групу чакалі амерыканскія гастролі. Але сам Хендрыкс паехаў у Нью-Йорк трохі раней. Яму трэба было вырашыць некаторыя пытанні, звязаныя са стварэннем уласнай студыі гуказапісу. Нарэшце з'явілася рэальная магчымасць набыць такую жаданую самастойнасць і граць сваю музыку без усялякай аглядкі на розныя мастацкія саветы, менеджэраў і прадзюсераў. І пасля турнэ, пры ўдзеле Стыва Уінгвуда, Майка Фінігана, Эліса Купера і Бадзі Байлза, запісалі першы «незалежны» двайны альбом «Электрык лэдзі Лэнд». Увогуле варта адзначыць, што запрошаныя былі людзі невыпадковыя, не збоку. На рынку збыту поп- і рок-прадукцыі кожны з іх паспеў ужо зарэкамендаваць сябе вельмі станоўча. А ў сумеснай працы з Хендрыксам, відомым сваёй «крутой» ігрою, дык і зусім стараліся «пераплюнуць» адзін аднаго. Але і Джымі быў хлопец нялросты: у сваіх «запілах» ён даходзіў ажно да істэрык. Нягоршы быў і Эліс: як след працаваў з гукам. У выніку «двайнік» атрымаўся ў выглядзе адзінага маналіту, выкладзенага каляровай мазаікаю кантрастных музычных стылістык. «Электрык лэдзі Лэнд» быў цёпла сустрэты слухачамі і музычнай крытыкай, і «чорнаму каралю» нічога больш не заставалася, як ціха спачываць на лаўрах, купацца ў бездані ўсеагульнага абагаўлення.

На пачатку 1969 года, адшукаўшы па аб'яве ў газеце новых музыкантаў (Лары Лі, Джума Султан, Джэры Валец), і ўжо як «Джымі Хендрыкс энд Бэнд оф Джыпсіз», «эксіксліерыенсаўцы» прыязджаюць на штогодні Вудстоцкі фестываль. Сваё выступленне Хендрыкс пачынае з імправізаванага выканання гімна Злучаных Штатаў Амерыкі, у версіі, якая тады была своеасаблівым пратэстам супраць агрэсіі ў В'етнаме. Здавалася, што ягоная гітара ў гэты час выváргае агонь, а гукі разлятаюцца тысячамі распаленых асколкаў. Так, здавалася, выбухнула бомба! Стадыён бушаваў. І раптам, ужо недзе пад канец выступлення, Джымі адчуў надзвычайную слабасць і, каб не страціць свядомасці на сцэне, быў вымушаны пакінуць яе. Такога з ім яшчэ ніколі не было. Таварышы ў жудасным хваляванні даігрывалі канцэрт самі.

Стан Хендрыкса пагоршыўся. Усе разумелі, што з ім робіцца нешта дрэннае. Было вырашана перапыніць пакуль што выступленні і не запісвацца. Цяпер, у інтэрв'ю, якія ён стаў даваць вельмі рэдка, Джымі ўвесь час паўтараў, што адчувае сябе дарэшты спустошаным. Адзінае, што яму хацелася б, дык гэта куды-небудзь знікнуць і ад усяго на свеце ўцячы.

14 верасня 1970 года Джымі, усё роўна як і не было нічога, паўстаў перад журналістамі і аб'явіў, што збіраецца разам са Стывам Уінгвудам сабраць новы пастаянны склад, а 16-га запрашае ўсіх жадаючых у «Клуб імя Роні Скота», дзе пакуль што будзе граць з групаю Эрыка Бардана.

Пасля канцэрта разам з Джорджам Харысанам, Эрыкам Клэптанам, Мікам Джагерам і іншымі музыкантамі паехалі ў гатэль «Самарканд». Трохі выпілі, паігралі. Леглі позна, пад раніцу. Хендрыкс зачыніўся ў асобным нумары і прасіў яго не турбаваць: ён вельмі стаміўся і хоча адаспацца. Назаўтра, усхваляваныя цішынёю, усё ж вырашылі пастукацца ў дзверы. Ніхто не адчыняў. Тады дзверы ўзламалі. Джымі ляжаў на ложку, на пакрывале. Ён страціў свядомасць, цяжка дыхаў. Тэрмінова выклікалі доктара, але было ўжо надта позна. 18 верасня 1970 года, у 11 гадзін 45 хвілін, Джоні Алэн Джэймс Маршал Хендрыкс, так і не прыйшоўшы ў сябе, памёр. На стале сіратліва ляжаў невялічкі аркуш паперы з незакончаным тэкстам, ці... Зрэшты, мяркуйце самі, напісана было так: «...не паспеў міргнуць, а жыццё прайшло».

Прычыны смерці Хендрыкса застаюцца загадкай дагэтуль. Ясна толькі адно: наркаманам ён ніколі не быў. Калі пачыналіся зрывы, прымаў заспакаяльныя, прапісаныя яму дактарам. Так што, дазіроўку ведаў добра. Аднак ускрыцце паказала, што смерць Джымі настала менавіта ад таго, што ён літаральна «аб'еўся» снатворным. Самазабойства ў росквіце гадоў і славы?

Кансерватыўная прэса паспяшалася растлумачыць ягоную смерць тымі ж матывамі, што і смерць Джэніс Джоплін і Браяна Джонса. Гэта, маўляў, рок-музыка ва ўсім вінаватая — яна, праклятая, даводзіць людзей да поўнага ўнутранага спусташэння, да віна, наркотыкаў і смерці.

Ну, а мне асабіста ўцісквась манеру ігры Джымі Хендрыкса ў нейкія стылёвыя рамкі цяжка дый, напэўна, не трэба. Мы ж не спрабуем рабіць гэта, скажам, з музыкай «Лэд Зэпэлін». Мы проста слухаем яе і атрымліваем асалоду. Хоць, безумоўна, урадлівай глебаю, на якой расло «дрэва генія» паважаных мэтраў, быў блюз. Далей кожны пайшоў сваёй дарогаю.

**Анатоль КАЗЛОВІЧ,**
**уласны карэспандэнт «Литературной газеты»,**
**спецыяльна для «Крыніцы»**

# ПРЫВАДНЫЯ РАМЯНІ?

## ПАЛЕМІКА

Цікавае відовішча можна было назіраць у Мінску на выязным пасяджэнні савета па нарысе і публіцыстыцы СП СССР: амаль усе ўдзельнікі з'явіліся ў залу з часопісам «Политический собеседник» пад пахаю. У дзень адкрыцця пасяджэння выйшаў ягоны першы сёлетні нумар. Чым жа ён прыцягнуў да сябе такую ўвагу?

Мясцовая журналістыка Т. Бумажкова выступіла ў «Политическом собеседнике» з велізарным артыкулам пад характэрнай для рэспубліканскай прэсы апошняга часу назваю — «Бар'ер палітычнай слепаты» (трохі раней ва ўсіх газетах быў апублікаваны матэрыял «Эвалюцыя палітычнага невуцтва»).

Каго надзяляе рэспубліканскі друк такімі характарыстыкамі? Пісьменнікаў Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, старшыню антысталінісцкага камітэта «Мартыралог Беларусі» Зянона Пазняка, маладых нефармалаў з аб'яднанняў «Талака», «Тутэйшыя». Памянёная журналістка пераканаўная, што ніякі народны фронт у падтрымку перабудовы ў рэспубліцы не патрэбен, а калі Быкаў хоча яго стварыць, дык няхай не каламуціць ваду, а так і называе: «Быкаўскі фронт».

Артыкул у «Политсобеседнике» можна лічыць вяршынным дасягненнем «стабільных» сіл рэспублікі. Гэты артыкул канчаткова даў адказ на пытанне: чаму савет па нарысе выехаў менавіта на Беларусь? Тэма выязнога пасяджэння была абазначана так: «Публіцыстыка ў складаны час перабудовы». Як жыць і ствараць публіцыстыку ў экстрэмальных умовах, праводзіць у жыццё прынцып плюралізму, калі прэса манапалізавана? Як заставацца сумленным? Дзе друкавацца? Як практычна дапамагчы беларускім публіцыстам несці людзям праўду часу? Вось шэраг пытанняў, на якія ўдзельнікі размовы шукалі разам адказы...

Раптам у зале (Мінскі Дом літаратара) пачулася:

— Прашу слова для даведкі!

Да мікрафона таропка падышоў малады чалавек. Было відаць: хваляваўся ён моцна. Гучней, чым папярэднія аратары, выдыхнуў з сябе:

— Я — радавы член Сюза журналістаў, карэспандэнт газеты «Вячэрні Мінск» Алесь Нікалайчанка. У мяне пытанні да сакратара гаркома. Калі нарэшце мы ў сваёй газеце будзем друкаваць розныя погляды, а не толькі тыя, што даём? Да якой пары матэрыялы перад публікацыяй будуць чытацца ў гаркоме? Да якой пары гарком партыі не будзе лічыцца з думкаю журналістаў, якія выраслі на быкаўскіх творах, ведаюць, якія нягоды перанёс чалавек у шасцідзесятыя гады, калі мы былі студэнтамі журфака,— да якой пары гэтае імя будзе бэсціцца на старонках нашай газеты, як і імя Адамовіча? Чаму мы, журналісты, такія зацісնутыя? Чаму не змаглі надрукаваць тыя гнеўныя лісты, якія пасля падзей 30 кастрычніка пайшлі ў газету? Я больш не магу маўчаць! Я, як журналіст, рашуча адмяжоўваюся ад таго, што друкуецца ў нашай газеце. І заяўляю свой пратэст!

На дзелавых нарадах зазвычай не пляскаюць у ладкі, а тут зала патанула ў апладысментах.

Апладзіраваў калегу і я, але мне было сумна. Перабудова прынесла ў слова публіцыста трагічныя ноткі: не магу маўчаць, але і гаварыць не магу, бо не дазваляюць. А слова публіцыста — гэта ягонае жыццё.

Але ж газеты выходзяць! І гучыць слова: журналісты яго нараджаюць, лінатыпісты адліваюць у метал, друкавальныя машыны тыражуюць, колы вязуць людзям, а людзі чытаюць.

Архіважнае пытанне: як цяпер нараджаецца нашае слова? З чаго ўзнікае?

Ёсць д у м к а, што Мінскі завод халадзільнікаў два апошнія гады працаваў ва ўмовах гаспадарчага разліку і самафінансавання. У гаркоме партыі мне паведамілі: гасразлік даў заводу шмат! Раз так, журналіст кінуўся на завод выконваць рэдакцыйнае заданне пад кодавай назваю «Крупінкі вопыту».

— Якія сацыяльныя выгады атрымаў калектыў ад гасразліку? — спытаўся я ў аднаго з заводскіх кіраўнікоў.

— Пабудавалі комплекс інтэрнатаў,— адказаў ён.— У нас шмат моладзі, інтэрнаты змякчаюць жыллёвую праблему.

— Гэта — на праспекце Пушкіна? Вышынныя будынкі? — удакладніў я.

— Але.

— Дык яны ж стаяць там гадоў пятнаццаць!

Няёмкая паўза.

— Займелі свой прафілакторый,— сказаў, сумеўшыся, кіраўнік.— У лесе. Поўны набор медыцынскага абсталявання. Рабочых возім туды аўтобусамі. І працуюць, і папраўляюць здароўе. Вось што дае гасразлік!

— А як называецца прафілакторый?

— «Зялёны бор».

— Дык яму ж гадоў дзесяць, калі не больш! — не ўтрымаўся я ад бестактоўнага ўдакладнення.

І нам абодвум стала вельмі няёмка...

Калегі, так мы самі і народзім міфы, калі не будзем сумленныя і прынцыповыя. Мне пашэнціла выпадкова. Я жыву непадалёк ад вышынных інтэрнатаў завода, а побач з прафілакторыем лецішча майго знаёмага, я бываў у яго ў гасцях. Воляю выпадку не нахлусіў пра гасразлік, які «шмат даў». А мог жа растыражаваць выдумку, пусціць у свет ману.

Архіважнае пытанне: ці свядома запускаў «качку» заводскі начальнік, звязваючы інтэрнаты і прафілакторый з гасразлікам? Бо толькі што ён шчыра казаў мне: «Не для друку», «Гасразлік — не песня, якую завучылі і атрымаеш вынік», «Гасразлік ідзе не па маслу, а са скрыгатам». Ён нават аднекваўся ад гутаркі, матывуючы сваё нежаданне тым, што гаварыць пакуль няма пра што, а прэса замучыла: давай вынік! Ён, разумны, сумленны чалавек, сам усведамляў небяспеку міфа, перасцерагаў мяне. І сам жа падмануў?

Ён падпарадкаваўся стойкаму стэрэатыпу, выпрацаванаму грамадскай свядомасцю за доўгія-доўгія гады. Давай неадкладны вынік, ажно камунізм — патрабуем мы адно ад аднаго, распачынаючы ўсялякія эксперыменты і пачынанні. І выдумваем яго, вынік, забягаючы наперад, выдаючы пажаданае за сапраўднае. «Усе нашыя цяжкасці носяць ідэалагічны характар,— сказаў публіцыст Генадзь Лісічкін.— Пакуль не пераможам усе догмы, будуць цяжкасці».

Міфы перабудовы! Не па сабе робіцца, калі бачыш, як хутка яны плодзяцца.

Міф пра «беларускі метад» на чыгунцы. Каляіна пакінута без нагляду, без сучаснага ўзроўню абслугі, у аварыях сплюшчваюцца вагоны, грымяць выбухі, людзі гінуць, а мы — усё апяваем. Калі ж ачнёмся?

Міф пра дзяржпрыёмку. Яшчэ адзін паразіт-кантралёр узлез на шыю рабочаму, ссе, смокча, жлукціць, а мы заклікаем да сумлення таго, хто цягне. Сорамна!

Міф пра сямейны падрад. Сорак апошніх гадоў буракі на Беларусі праполваюць, прарэджваюць, збіраюць уручную, прымусова размеркаваўшы ўчасткі на кожную пячную трубу ў вёсцы, не выпускаючы з поля зроку нават знямоглых бабуль. Сорак гадоў вёска абуралася, а начальства пагульвала, спіхнуўшы з сябе ўвесь клопат за буракі. І вось нарэшце перабудова. Газеты пішуць, што буракі вырошчваюцца на сямейным падрадзе. Усюды! Газеты з захапленнем паведамляюць лічбы ахопу. Прымусовага ахопу, які нічога агульнага не мае з падрадам. Спрытныя хлопцы гэтыя начальнікі, у якіх бяруць інтэрв'ю,— запудрылі мазгі журналістам! Ці журналісты — невідушчыя?

Не магу не сказаць нашае журналісцкае сакраментальнае: калегі, будзьце пільныя, перабудове пагражае міф! Не ўдзельнічайце, калі можаце, у міфатворчасці васьмідзесятых — яна разбуральная. Развенчвайце ўжо створаныя міфы, такія неабходныя бюракратыі ўсіх паверхаў. Вас будуць абвінавачваць у ачарненні — а вы развенчвайце міф. Вам кінуць шаблонны папрок у непатрыятызме, а вы згадайце, што патрыятызм можа быць і апошнім прытулкам нягодніка, і рабіце галоўную справу сучаснай журналістыкі: развенчвайце неаміф.



Звярніце пільную ўвагу на адзін з сучаных міфаў, якому я даў бы назву: «рэгіянальны». Каб не тлумачыць доўга і нудна, прашу згадаць, што пісалася і гаварылася зусім нядаўна з трыбун пра Узбекістан, Казахстан, Малдавію. Ствараўся імідж рэгіёнаў. Велізарныя тэрыторыі ахутваліся шумам захаплення. Міфалогія дарэшты пазбавілася зоркасці публіцыстаў, выцесніла крытыку і самакрытыку. А калі свежы вецер падзьмуў і сарваў покрывы рэгіянальнага міфа — мы жахнуліся ад убачанага...

Але без ружовасці мы ўжо не можам жыць. Арганізм, як кажуць, патрабуе, прывычкі падштурхоўваюць: давай напускай ружовага туману, прыпадымай народ над грэшнай зямлёю, узнось бліжэй да неба, да ідэалу.

Нешта падобнае, бачу, адбываецца на Беларусі апошнія гады. Роднай рэспубліцы таропка ствараецца імідж авангарда перабудовы.

У 1987 годзе Беларусь сабрала рэкордныя ўраджаі зерня і бульбы (дарэчы, яны значна ўпалі летась, у чым, вядома, абвінавацілі прыроду). З гэтай слаўнай нагоды мы ў сябе дома грымнулі ва ўсе, якія маем, літаўры, дый на ўсю краіну патрубілі.

Пытанне: ці маральная песня пра высокі ўраджай, калі тыя, хто спяваюць, ведаюць, што на палях Гомельскай, Магілёўскай, Брэсцкай абласцей яны сабралі і злавесны пасеў Чарнобыля?

Канкрэтнае пытанне, але канкрэтнага адказу няма.

Ладна, канкрэтны факт: у знакамітага Бядулі ў рэкордных ураджаях 1987-га выяўлены рэкордныя працэнты нітратаў у бульбе. У 1988 годзе калгас зноў ліў пад бульбу забароненую аміячную ваду, і з гэтай нагоды група вучоных заявіла ў газеце пратэст. Вучоных, а не журналістаў. Журналісты апявалі ўраджаі.

І нарэшце паведамлю пра ўласнае журналісцкае расследаванне, якое засталося незакончаным. Зімою 1987-88 г. я пачаў складваць выразкі з газет пад рубрыкай «У камітэтах народнага кантролю». Прыпіскі! Вось чаго выяўлена ўдосталь, вось над чым падумаць бы апявальшчыкам. Але тут публікацыі пад ачысціцельнай рубрыкай, прысвечаныя рэкордам 1987 года, умомант перапыніліся. Для расследавання матэрыялаў няма.

Але імідж ужо створаны.

Імідж па-нашаму — гэта браня, гэта недатыкальнасць, гэта капрызнаўладны загад усялякім там журналістам: не смець сумнявацца! У прамовах, якія гучаць з усіх узроўняў кіраўніцкай піраміды, чуецца: крыкуны, вы д э с т а б і л і з у е ц е сітуацыю ў рэспубліцы, вы паклёпнічаеце на партыю і сацыялізм, вы хочаце, каб нашы кадры праследаваліся.

І прысуд — зварот праз газету «Вячэрні Мінск» ад імя народа да творчай інтэлігенцыі: вы пачытваеце кніжачкі і ясце наш хлеб.

Публіцыст з Малдавіі Аляксандр Бродскі пазайздросціў з сарказмам: «У нас у Малдавіі творыцца тое ж самае, што на Беларусі. Але ў вас неяк весялей, ярчэй». А літовец Рымантас Ванагас спытаўся ў калег у лоб: «Няўжо вы, публіцысты, верыце публікацыям у цэнтральнай прэсе пра тое, што робіцца цяпер у Літве? У іх адкрытае нежаданне зразумець нашы праблемы. Хто сапраўды хоча ўбачыць, даведацца, як мы жывём — прыязджайце».

Ідэю развілі іншыя калегі, нарадзіўся нават тэрмін — «міжнацыянальны аўтар». Хто гэта? Якая ў яго місія? Напрыклад, паглядзець, як успрымаецца трагедыя Арала ўсімі народамі, што насяляюць рэгіён. Гэта яшчэ называецца — паглядзець у комплексе. Інтэрнацыянальны погляд патрэбен і на Волгу, на паўночныя рэкі, на Палессе.

Што ж, будзем спадзявацца на міжнацыянальнага аўтара, на яго непрадузятае, незалежнае пяро, якое разбурае міф, імідж, хлусню, стэрэатып.

Але і самі не будзем сядзець склаўшы рукі.

Памятаеце, сярод прапаноў напярэдадні XIX партканферэнцыі было: вызваліць прэсу з-пад засілля бюракратычнага апарату, каб прэса стала сапраўды незалежнаю, плюралістычнаю. Большасць дэлегатаў канферэнцыі сустрэла мудрую прапанову ў штыкі, таму што большасць прадстаўляла інтарэсы апарату.

Цяпер, калегі, задаволены апарат мае на старонках манапалізаванае прэсы добры плён: нашы хлуслівыя словы.

Тон нашых выступленняў супраць бюракратыі пераважна прыніжлівы, а яна ж разумная. Артыкулы М. Шмялёва, В. Сялюніна, А. Нуйкіна, сам бачыў, яна размнажае, зачытвае, ухваляе за навізну і смеласць меркаванняў, за карыснасць перабудове. Ці ж не парадокс — публіцыст яе лупіць, а яна пахвальвае: ах, добра!

Так і павінна быць. Бюракратыя ой як любіць крытыку без адрасоў, без імён. Гэта, маўляў, не пра нас. У сувязі з гэтым літаратурны крытык Сямён Букчын катэгарычны ў прэтэнзіях да нас, публіцыстаў: «Вобраз адміністратыўнай сістэмы вы стварылі. Але гэтая адміністратыўная сістэма дагэтуль не насычана людзьмі, канкрэтнымі фігурамі. Хто робіць сучасную палітыку? Хто прыдумаў неразумны закон? Хто прыняў рашэнне накіраваць на разгон мітынгу 30 кастрычніка буйныя сілы? Мы апяруем у публіцыстыцы агульнымі паняццямі: бюракраты, апаратчыкі... А хто канкрэтна? Шмат абстрактнай, безвыніковай, нікому не патрэбнай крытыкі».

Прэтэнзіі досыць справядлівыя. Недакладны С. Букчын толькі ў адным: абстрактная крытыка вельмі патрэбная бюракратыі. Абстракцыі для яе — уратаванне.




Ці заўважалі вы за сабою наступнае: чым вышэй ляціш над зямлёю — тым прыгажэйшай яна з д а е ц ц а. Хоць вы ведаеце, колькі на ёй мёртвых рэк, занядбаных палёў, запаскуджаных паплавоў, несумленных людзей...

Гаворачы пра сённяшнюю публіцыстыку, Юрый Чарнічэнка ўжыў кідкае параўнанне: яна робіць спадарожнікавы агляд нашага грамадства, нашага свету. Трапнае назіранне!

Кажуць яшчэ, што са спадарожніка з дапамогаю сучаснай оптыкі можна прачытаць загаловак газеты «Праўда». Не спец, не ведаю. Але перакананы, што са спадарожніка ніколі не ўбачыць праўды пра чалавека, ці смяецца ён, ці плача. Са спадарожніка не зразумееш, чаму ў вёсцы Каралішчавічы звыш за дзве пяцігодкі стаіць Дом Безымянны.

Трэба спусціцца на зямлю.

Космас побач з намі, калегі,— свет чалавека. Ён намі пакуль не адкрыты. А там сёння адбываецца нябачнае. Ідзі і глядзі, журналіст, ад цябе залежыць лёс галоснасці.

Ведаеце, у каго можна павучыцца прафесіяналізму? У «Вячэрняга Мінска», дзе «рэптыльная публіцыстыка» (трапны выраз Арцёма Анфінагенава) абавязкова ставіць у цэнтр увагі канкрэтнага чалавека: калі трэба, напрыклад, ашальмаваць лідэраў «Талакі», то збіраецца дасье. Журналісты «вячоркі» выдатна ведаюць пра наймацнейшы ўплыў персаніфікацый на чытацкую свядомасць. Яны могуць ганарыцца дзейнасцю сваіх выступленняў.

Паслухаем публіцыстку Святлану Алексіевіч: «Нядаўна я была ў Любанскім раёне. І што ўбачыла! Парторг вялікай перадавой гаспадаркі кажа мне: «Па вас, хто стварае якісьці там народны фронт, Кольскі паўвостраў плача». Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, маладых нефармалаў ён лічыць падонкамі. Вось што зрабіла з чалавекам наша прэса, наша прапаганда. Гэта жахліва!»

Жах адчуў нядаўна і я, выступаючы як пісьменнік па пуцёўцы бюро прапаганды ў адной навучальнай установе. Я расказваў пра стан прыроды рэспублікі, пра тое, што асабіста бачыў 30 кастрычніка, калі і мне пырснулі ў вочы газам... У зале падняўся мужчына з ордэнскімі планкамі на пінжаку і шахаўцоўскім агнём у вачах: «У газетах пішуць другое. Вы кажаце няпраўду. Вы — правакатар!»

«Рэптыльная публіцыстыка» багата папрацавала, чытачы ёй вераць. Яна мае свае пёры: гэта не адна Т. Бумажкова...

Робіцца страшна, што мы — самае чытаючае грамадства ў свеце. Гэта можа прывесці да таго, што мы станем самым абалваненым грамадствам.

А што рабіць, калегі, калі ад нас залежыць так шмат?

Персаніфікаваць цяперашнюю сітуацыю, інакш кажучы, выводзіць слова на шлях праўды.

Як ні сумна, і «рэптыльная публіцыстыка», і сучасная метадалагічная падобныя — яны маналагічныя. Дакляруюцца ідэі, канцэпцыі, маніфесты, мадэлі, варыянты, пункты. Чытай, маса! Хочаш, размнажай на ратапрынтце, хочаш, наколвай на цвічок!

Але няма масы, аратары. Ёсць людзі з тварамі і пунктамі погляду. І тыя, хто тармозіць, і тыя, хто рвецца наперад,— усе людзі. А людзі, на шчасце, яшчэ не развучыліся гаварыць. Мы, публіцысты, павінны арганізаваць іхнія гутаркі.

Трэба пісаць гісторыю сучаснасці. Не чакаць, пакуль міне час, сатруцца дэталі. Трэба сёння пісаць палітычныя партрэты тых, хто дзейнічае і «за», і «супраць», хто выйшаў на арэну жорсткае палітычнае барацьбы.

Праз дзень пасля мінскага савета нарысістаў патэлефанаваў Алесь Нікалайчанка. Паведаміў, што рэдкалегія газеты збіраецца яго заслухаць у прысутнасці сакратара гаркома П. К. Краўчанкі. Я вырашыў паглядзець, як праходзяць цяпер слуханні свавольнага журналіста, і атрымаў афіцыйнае запрашэнне на пасяджэнне.

Даслоўна, без скажэння перадаю тое, што гаварылі кіраўнікі газеты «Вячэрні Мінск» на пасяджэнні рэдакцыйнай калегіі 12 студзеня 1989 года.

Уладзімір Юльянавіч Паўловіч, загадчык аддзела прамысловасці і транспарту: «Ніхто на нас ніколі не ціснуў з боку гаркома. Мне дзіўна, што некаторыя нашы байцы не выяўляюць інтарэсу да супрацоўніцтва з гаркомам. Як бачу я нашу газету? У нас няма намёку на балота. У нас работа. Выкладвацца! Велізарная адказнасць. Я не крывіў душою, калі на справаздачна-выбарным партсходзе казаў, што перабудова ў нас адбылася да пачатку перабудовы, з прыходам новага кіраўніцтва. Але вось што цікава! Мы правялі выдатную атэстацыю. Пазбавіліся ад баласту. Але да канца гэтай работы не давялі. Боязь кіраўніцтва: а раптам паскардзяцца? Абы ціха. Жыццё з парадоксаў. Людзі, якія ў іншых рэдакцыях былі б звольненыя, тут складаюць апазіцыю. Нібыта яны тут мікранародны фронт. Мне, як сакратару пярвічнай журналісцкай арганізацыі, прапаноўвалі: давайце пратэставаць, мы ж выступаем супраць нефармалаў, маўляў. Я не думаю так. Лічу, што ў рэдакцыі здаровае нармальнае ядро. Здаровая атмасфера. Я аптыміст. Я неверагодна цаню давер да журналістаў. Не цаню дыктат. Нядаўна я перагортваў нашую газету, рыхтуючыся да рэспубліканскага конкурсу, і адчуў гонар за газету».

Юрый Мікалаевіч Лапшын, адказны сакратар: «Кадры — вось галоўнае. Памятаю, і раней крычалі журналісты: заціскаюць! Не даюць працаваць. І цяпер многія так крычаць у нас у рэдакцыі. У нас ёсць група. Да мяне падышоў Нікалайчанка як да парторга. Я, маўляў, хачу выступіць перад калектывам. Значыцца, мы, рэдкалегія, ужо не калектыў? А далей — што? Я — ад Мінска. Я — ад народа».




Аляксандр Пятровіч Грышан, рэдактар: «Тыраж наш расце. Поспехі ёсць. У нас няма варожага стаўлення да творчай інтэлігенцыі. Адкуль гэта з'явілася? Такая непрыязь часткі нашай інтэлігенцыі — н е п е р а д а в о й! — выклікана артыкулам «Эвалюцыя палітычнага невуцтва». І мусоляць, і мусоляць. Крыўдна. Мы — калектыў камуністаў, а нас крыўдзяць. І нават браты па пяру. Н е с а л і д н а! У іх жа няма фактаў. Падзеі 30 кастрычніка. Ну навошта мусоліць? Афіцыйныя асобы выступілі, усё ясна. Не, мусоляць, мусоляць... Але ў нас дзелавая атмасфера, калегіяльнасць, ніякай келейнасці няма. Адносіны з гаркомам у рэдактара партыйныя, прынцыповыя. Дзелавую крытыку я выслухоўваю, несправядлівай даю адпор. Так, асобныя работнікі апарату запрашалі раней з матэрыяламі. Цяпер гэтага няма. Гэта былі няправільныя паводзіны работнікаў апарату».

Прызнаюся, што члены рэдкалегіі ператварылі ў руіны маю прымітыўную журналісцкую канструкцыю. Я выбудоўваў такую логіку падзей: гарком навязвае газеце свае погляды — журналісты вымушаны выконваць. Не так! Мінскі гарком, як аднадушна сцвярджалі члены рэдкалегіі, зусім не ціснe на газету. Журналісцкія кадры дзейнічаюць па ўласнаму перакананню. Таму можна быць упэўненым: «Вячэрні Мінск» у надзейных руках.

Калі цяпер са здзіўленнем, з гневам пытаюцца: а хто вінаваты ў тым, што, змяняючыся, у грамадстве панавалі культы, я для сябе адказваю: вінаваты ўсе мы, хто не знайшоў у сабе мужнасці не апяваць, не пляскаць у ладкі. Хто не змаўчаў. Журналістаў гэта датычыць найбольш. Усеагульную нашую віну змякчае толькі тая акалічнасць, што разумныя чытачы не надта верылі газетнай брахні.

Каб не выглядаць героем, я мушу прызнацца, што ў маёй першай кнізе «Что открывает «колумбик»?» я налічыў каля дзесяці цытат «мудрага», «паважанага». Леанід Ільіч заўсёды казаў надта слушныя словы — я ім верыў...

Чатыры гады перабудовы не вызвалілі, не распрыгонілі, не ачысцілі СЛОВА. Яно — хворае, як і раней. Яно, як хваробатворны мікроб, нясе ў масы эпідэмію застою.

Перабудова патрабавальна пытаецца ў нас: з кім вы, журналісты? І хто вы?

**Кастусь ТАРАСАЎ**

# ЗАЛАТАЯ ГОРКА

## ДЭТЭКТЫЎ



## III. СКАРГА

Скарга кінуў ключы ў кут, выйшаў на вуліцу і накіраваўся ў бок Саборнай плошчы. Як ён і чакаў, два філёры, якія вартавалі каля пад'езда, пацягнуліся за ім. Скарга вырашыў пазбавіцца ад іх у касцёле, скарыстаўшы няхітры, але надзейны прыём. Гэты прыём яны прыдумалі з Антонам. Партыец, за якім віжуюць, мае права разглядаць касцёл як архітэктурнае збудаванне, зручнае для адрыву ад паліцэйскіх агентаў. Такую якасць касцёлу надаюць некалькі дзвярэй: галоўныя, праз якія заходзіш усярэдзіну разам з вернікамі, і дзверы сакрыстыі, з якіх выходзіць да алтара ксёндз. У сакрыстыі ёсць дзверы на вуліцу. І тыя, і другія ў час службы адчыненыя. Вонкавыя дзверы сакрыстыі вядуць у маленькі дворык, а з дворыка можна трапіць на Койданаўскую вуліцу[1]. Падваротня на супрацьлеглым баку дазваляе згубіцца ў хаосе з флігелькаў, павецяў, буданоў і сметнікаў, якія занялі адхон паміж Койданаўскай і Нямігай. Але каля касцёла тоўпіўся народ, а пры вялікім зборы вернікаў рывок цераз алтар можа прывесці да няўдачы. Скарга вырашыў змяніць маршрут. Да таго ж смаленскі жандар ужо зусім мог ачуняць, распарадзіцца праз акно, і тады ціхае філёрскае назіранне змяніцца адкрытай пагоняй. Ён увайшоў у гасцініцу «Еўропа», нырнуў пад лесвіцу, якая закрывала чорны ход, і апынуўся на двары. Хвілін праз пяць тыламі дамініканскага касцёла Скарга выйшаў на Хрышчэнскую і за старадаўняй сядзібай Ваньковічаў звярнуў у Музычны завулак. Тут ішло звычайнае дваровае жыццё: некалькі хлапчукоў дрэсіравалі сабачку, жанчыны ля калонкі мылі бялізну, у агародзіку корпаўся стары. Скарга ўладкаваўся ў альтанцы побач з домам масонаў і запаліў. За драўляным былым асабняком Ваньковічаў стаяў цагляны дом, дзе змяшчалася публічная бібліятэка. Тры месяцы таму ўначы ў падвальным сховішчы бібліятэкі паліцыя арыштавала эсэраў Фаню Гурэвіч і Мішу Левіна. Яны друкавалі на гектографе адозвы. Праца друкарні заўсёды акружана таямніцай. Адрас друкарні ведае вузкае кола надзейных людзей. Тым не менш ноччу на другое мая паліцыя зрабіла налёт. Ён у гэты час быў у турме. Таксама за пракламацыі. За месяц да яго нага арышту паліцыя разграміла друкарню на Пярэспе[2]. Там у сутычцы з філёрамі загінуў Адам. Пагроза здрадніцтва не вісіць толькі над адзіночкай. У шырокай арганізацыі непазбежна з'яўляюцца выпадковыя людзі. Партыйная дысцыпліна злучае свядомых і выпадковых рэвалюцыянераў у адзінае цела. Надзейныя трапляюць у залежнасць ад слабых, неасцярожных, неразумных ці схільных да нягодніцтва ў цяжкую хвіліну. Пэўна, гэта непазбежная загана любой нелегальнай арганізацыі. На Хрыста заўсёды знойдзецца Іуда, а ён уваходзіў у групу з дванаццаці чалавек. Іуда названы — жывы труп сярод людзей. Іуда неназваны, нераскрыты, застаецца сярод верных, пастаўляючы ахвяр для кесаравых крыжоў. Пугачова павязалі ягоныя паплечнікі. Булавіна засеклі сябры па паўстанні. Каліноўскага выдаў мінскі сувязны. Іуда здрадзіў дзеля грошай. Іншыя хацелі, каб улада ім даравала. Магчыма, Іуда сцяміў, што апостальская справа яму не пад сілу, а прызнацца ў гэтым перад Хрыстом і сябрамі не хапала мужнасці. Развал групы шляхам выдачы яе кіраўніка легіянерам Пілата вызваляў яго ад зарокаў і небяспечнага абавязку несці слова настаўніка ў народ. Хрыстос ведаў ад Айца свайго, што будзе здраджаны. Смаленскі жандар, здаецца, таксама папярэджваў яго, што ён, Скарга, быў здраджаны і можа сутыкнуцца з другой здрадай. Але ўспышка шчырасці ў хвіліну страху не высветліла постаць інфарматара. Нешта смалянін утаіў ці мала што ведаў. Яго паведамленне вымушала не верыць сваім. Не верыць Святому, які днём стаяў каля карчмы, а з нагруднай кішэні тырчалі, як газыры, чатыры цыгарэткі — знак, што следам ходзяць чатыры філёры. Не верыць Беламу, Антону, пану Вінцэсю. Кожнага з іх мог трымаць на заметцы ротмістр Жывінскі. Прыйдзеш да Белага, а каля хаты — засада. Як было летась перад дэпо. Філёры таксама намагаюцца давесці начальству, што ў іх пільны зрок і чуйны слых: штомесячнае жалаванне патрабуе штомесячнага ўлову. Ёсць дворнікі, якія дапамагаюць філёрам. Ёсць патрыёты, якім падабаецца безадказнасць вечнага рабства. Ёсць абываталі, адораныя цягай паведамляць прыставу аб падазроных гасцях і занятках суседа. Дастаткова малой неасцярожнасці — і ты пад наглядам. Арышт — справа часу. Фаню Гурэвіч магла выдаць паласа святла ў няшчыльна завешаным акенцы. Спакойна жывуць толькі цярплівыя канфармісты.

Скарга прыгадаў першы мінскі мітынг. Ён ужо вучыўся ва універсітэце і прыехаў у Мінск на тыднёвы водпуск па лісце маці. Быў сакавік дзевяцісотага года. У нядзелю да яго зайшоў гімназічны прыяцель і запрасіў на сходку, дзе будзе выступаць Бабуля. Хто такая Бабуля, Скарга не ведаў. Яны пешшу накіраваліся на Старажоўскія могілкі[3]. За царквой, на падсохлым ужо ўзгорку сышлося тры сотні мінчукоў. Сонца стаяла ў зеніце, неба здавалася ярка-блакітным, мяккі ветрык даносіў ад пякарні пах свежага хлеба. Бабуляй называлі вядомую народаволку Бражкоўскую, якая адбыла дваццацігадовую катаргу ў Сібіры. У яе былі шэрыя прамяністыя вочы, у голасе гучала энергія неўтаймаванай натуры, а словы аб падзенні тыранаў, народаўладдзі і прышлай роўнасці п'янілі натоўп. Чужыя хвілінку назад, людзі радніліся радасцю свабоды. На голых могілкавых клёнах абнаўлялі свае гнездзішчы вароны; іхняе карканне замінала слухаць Бабулю, але чыясьці незвычайная гіпербала — «Яны крычаць нам «ура!» — надала сімвалічны сэнс і свежасці небу, і слабаму сонечнаму цяплу, і мітусні варон, і зямлі, што вызвалілася з-пад снегу. Трыста чалавек таксама пракрычалі «ўра!». Усе твары прасвятліліся пачуццём братняй еднасці. Малады мужчына (Скарга пазнаў аптэкара Гершуні) абвясціў аб стварэнні ў Мінску «Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі». Па шчоках Бабулі пакаціліся шчаслівыя слёзы. Жыццёвая раз'яднанасць людзей забылася, натоўп ператварыўся ў партыйную кагорту, нязведаная небяспека заваражвала таямніцай рэвалюцыйнага ахвяравання, і смяротны час двухгаловага арла стаў немінучым...

Праз некалькі дзён пачаліся арышты. Бабуля з'ехала абуджаць другую правінцыю, Гершуні прыйшлося знікнуць. Пасля няўдачы паўстання, на фоне шыбеніц, магіл, прысыпаных пяском лужын крыві прыйшло асэнсаванне выключнасці кожнага жыцця, што і прывяло да абывацельскага адрачэння. Палова ўдзельнікаў таго першага эсэраўскага мітынгу сядзіць па турмах, але нехта стаў штатным філёрам, нехта — тайным агентам. Скарга вырашыў, што начаваць пойдзе да Старога, і адразу акрэсліўся чын абавязковых вячэрніх спраў. Выканаць іх усе да сустрэчы з Антонам не хапала часу.

Ён выйшаў на Маламанастырскую[4]. Вуліца спускалася да ракі. Там, у мураваных дамах на Набярэжнай[5], ціхі чалавечак з ваяўнічым прозвішчам Бамбардзір трымаў скупачную адзежную крамку. Аднойчы Скарга абараніў старога ад двух бойлаў. Сын Бамбардзіра быў баевіком бундаўцаў, ён лічыў сябе Скаргавым даўжніком. Можна было папрасіць яго аб дапамозе, але абцяжарваць малазнаёмага чалавека рызыкоўнымі даручэннямі Скарга пасаромеўся. Свае справы ён зробіць сам ці разам са сваімі. Разгадаць загадку смерці Валодзі Панкевіча абавязана арганізацыя. Няма большага зла, чым здраднік. У Пана захоўваліся галоўныя дакументы баявой дружыны. Забіць яго мог той, чыя партыйная мянушка пастаўлена пад рашэннямі аб эксах і тэрактах. Такія паперы — неацэнны скарб для паліцыі і заўсёдная пагроза катаржнай турмы для баевіка, нават для таго баевіка, які адрокся ад барацьбы. Калі смаленскі жандар не схлусіў, дык Пан загінуў з-за яго, Скаргавага, нечаканага вяртання ў Мінск. Дзень прыбыцця ведала толькі служба Жывінскага. Тэлеграфныя дэпешы са Смаленска апярэджвалі вецер, мінская паліцыя мела час для падрыхтоўкі. Ротмістр патрабаваў ад свайго агента адрасы кватэр, дзе збеглы будзе шукаць прытулку. Падобна на праўду, думаў Скарга, Валодзю забілі яны, каб стварылася хаатычная сітуацыя. Магчыма, забойства планавалі прыпісаць яму. Калі б ён кінуў так званага Кліма на вакзале і ўвайшоў у хату адзін. Нездарма там цягаўся нейкі шкляр. Засада магла хавацца ў суседнім доме. Адвесці крымінальнае злачынства на лік баевіка — езуіцкі ход ротмістра. Увайшоў — а ўслед паліцыя, панятыя, сведкі, святочны Жывінскі. І — пасля хуткага суда — шыбеніца. Ці расстрэл, што прасцей, бо не патрабуе ката. Або вечная катарга пры ўмове выдачы грошай і шчырага здрадніцтва. Але Валодзеў адрас даў паліцыі добра дасведчаны інфарматар...

З крамкі старога Бамбардзіра Скарга выйшаў у афіцэрскім кіцелі і палявой фуражцы. Фуражка была завялікая, кіцель — цесны. Да непазнавальнасці ён не змяніўся, але філёрскае апазнанне гэты строй мог на пэўны час ускладніць. Пачыналіся прыцемкі. Нетаропкі натоўп легальных землякоў вынес Скаргу на Раманаўскую[6]. Ён убачыў Пішчалаўскі турэмны замак, і пачуццё адзіноты адрэзала яго ад спакойнага свету і мірных людзей. Яны — жылі, ён — ішоў на тэракт. Ён падняўся на пагорак. У двухпавярховым турэмным замку былі адны вароты і адны дзверы ў вартоўню. Праз гэтыя вароты яго і Вольгу даставіла ў турэмны двор паліцэйская карэта. Яны выйшлі, яго пагналі ў катавальню. З'явіліся Новак і Астровіч. Калі Новак сёння дзяжурыць, думаў Скарга, дык пасля вячэры ён здасць камеры і выйдзе на вуліцу з вартоўні. Іншага выхаду з турмы няма. Быў сярод наглядчыкаў яшчэ адзін заўзяты садыст з прозвішчам Будкевіч. У маі яго забілі матросы-дысцыплінарцы. А сёння ён пакарае смерцю Новака. Ці Астровіча. Ці абодвух, калі яму пашанцуе. Шмат эсэраў і беларускіх адраджэнцаў, эсдэкаў і бундаўцаў бядуе зараз за гэтымі варотамі. Заўтра да іх прыйдзе новы наглядчык, яны даведаюцца, што папярэдні пакараны, і, магчыма, гэта падтрымае іх волю. Цяжка палітычнаму трываць пакуты турмы; душа ягоная песціць дзіцячую мару стаць птушкай: не сокалам, не салаўём, не буравеснікам над штармавым морам — простай нязграбнай варонай. Яе вольны палёт назірае з камеры яго зайздрослівае вока, яе хрыплы крык перадае яму паклоны ад родных, у ім чуецца жаль маці і спачуванне сябра, і тужліва робіцца на сэрцы, калі чарада варон пралятае міма турэмных вокнаў у нямым маўчанні.

Прайшло не менш як паўгадзіны, калі, нарэшце, дзверы адчыніліся і гужам пайшлі наглядчыкі. Некаторых Скарга памятаў. Новак выйшаў шостым, развітаўся з калегамі і пакрочыў з пагорка па Серпухаўскай[7]. За пажарнай часцю ё звярнуў на Койданаўскую і тут знік у падваротні трэцяга дома. Скарга пабег. З падваротні адкрыўся яму невялікі дворык і двухпавярховы, на два пад'езды, акуратны цагляны дом. Да яго прымыкаў няважны флігелёк з паўсклепавым уваходам. Дзверы гэтага флігелька Новак адмыкаў ключом. Скарга заспяшаўся і ўвайшоў у жытло наглядчыка адразу ж за ім. Той паспеў толькі зняць фуражку і прайсці ў пакой. «Хто?» — спытаў Новак, чуючы крокі. Пакой быў цёмны, невялікае аконца ледзь асвятляла яго, але наглядчыкаў твар Скарга бачыў ясна. Скарга дастаў пісталет. «Прыгадай лістапад,— сказаў ён.— Прыгадай дзяўчыну. Успомні, што яна крычала? Прыгадай усіх, каго ты таптаў». У вачах Новака Скарга прачытаў, што той успомніў. «Яе імем!» — сказаў Скарга, узняў пісталет і стрэліў Новаку ў сэрца.

На вуліцы ён дастаў гадзіннік, але рукі дрыжэлі, ён не мог адчыніць вечка. Тады ён паглядзеў на сонца, падумаў, што паспее, і хутка пакрочыў у бок Трубнай. На рагу ён доўга і прагна піў з калонкі. Дзесьці недалёка ў палісадніку іграў грамафон. Скарга пазнаў марш «Царыца балю». Гэты марш падабаўся Віці. Яны гулялі ў гарадскім садзе, вайсковы аркестр іграў вальсы, была нядзеля. Гэты дзень, афарбаваны шчасцем, узняўся ў памяці, але сэрца не адгукнулася ні радасцю, ні болем. Воблік Віці патрымаўся перад вачыма нядоўга. Скаргу захапіла канкрэтнасць хвіліны. Ён адзначыў цішыню Турэмнага завулка, пахі дыму і садоў, змытую дажджамі на лапухі пабелку штыкетнікаў, свае цяжкія крокі па сцежцы і мернае гарачае біццё крыві ў скронях, якое адзначала кожнае пражытае імгненне.

Астровіч падбіваў абручы на рассохлай бочцы. Ён стаяў каля высокага ганка спінай да вуліцы. Ад брамкі вяла да дома сцежка, абсаджаная з аднаго боку белымі астрамі. Скарга ішоў па ёй, трымаючы рукі ў кішэні; дзяржальня пісталета халадзіла яму далонь. Наглядчык азірнуўся. Старая кашуля, лапленыя штаны, малаток у руцэ надавалі яму падабенства з майстравым. Магчыма, ён і быў майстравым да службы ў турме. «Вам каго?» — спытаў ён даволі прыветліва. «Цябе! — ціха адказаў Скарга і наблізіўся.— Прыгадай мінулую восень, ноч у турме, дзяўчыну, якую ты гвалціў і біў! — Ён выцягнуў пісталет і трымаў яго ля сцягна.— Прыгадаў?» Наглядчык быў гатовы мярцвяк. Скарга ведаў, што пакарае яго. Ён хацеў сказаць: «Яе імем!», але раптам з-за дома выйшла дзяўчынка гадоў дзесяці, тоненькая, з сумнымі блакітнымі вочкамі, босая. Яна трымала міску агуркоў. Скарга схаваў руку з пісталетам за спіну. Адчуўшы нешта грознае, што сыходзіла ад Скаргі, дзяўчынка спынілася.

— Ідзі, Ядзя, ідзі! — прамармытаў Астровіч.

Дзяўчынка паслухмяна паднялася на ганак, на парозе яшчэ раз азірнулася на бацьку і чужынца — бледная, ціхая, няшчасная, як сірата. Яна з паддобрываннем усміхнулася, і Скарга адчуў, што не здолее спусціць курок. Але пісталет не схаваў.

— Сёння пакаралі Новака,— сказаў Скарга.— Ты таксама асуджаны. Зараз я пашкадаваў тваю дачку. Але калі ты... хоць пальцам...

Астровіч згоднаківаў галавой. Маленькія яго вочкі раздзіраў адчайны жах. Жах свінні, падумаў Скарга. Яго нудзіла ад гідлівасці. Наглядчык быў поўная дрэнь: учора таптаў Скаргу, сёння змог бы, калі загадаць, ударам нажа забіць Жывінскага. Каго хочаш — абы злітасцівіліся. Узгадаўшы жандара, Скарга рэзка спытаў:

— Дзе жыве Жывінскі?

Адказ быў дадзены адразу, Скарга не сумняваўся ў ягонай праўдзівасці.

— У Захар'еўскім завулку[8]. Новы цагляны дом.

— Нумар?

— Не ведаю,— цяжка вымавіў Астровіч, баючыся стрэлу за гэтае няведанне.

— Быў у яго?

— Дровы рэзалі.

— Намалюй,— Скарга паказаў на зямлю.

Астровіч паспешліва схіліўся і трэсачкай пачаў чарціць план. «Вось Захар'еўская,— з дагодлівасцю тлумачыў ён,— вось тут паварочваем, ідзём... першы дом, другі, трэці, а чацвёрты і ёсць новы, з паўкруглымі вокнамі».

— Кватэра?

— На другім паверсе. Справа.

Дзяўчынка зноў выйшла на ганак. Відаць, яна вырашыла не пакідаць бацьку.

— Ідзі,— сказаў Скарга Астровічу.— І не вылазь.

Наглядчык падаўся задам і пачаў падымацца на ганак. Ногі не слухаліся яго, боты чапляліся за прыступкі. Ён яшчэ не верыў у сваё выратаванне. Так, адступаючы задам, ён знік у сянях. Дзяўчынка засталася стаяць на парозе.

— Бывай! — сказаў Скарга.

Ён выйшаў на Трубную і падаўся ў горад. Думкі яго не маглі адарвацца ад ціхай, слабенькай дзяўчынкі, якая нічога не ведае пра бацьку, па законе прыроды лічыць яго самым лепшым чалавекам сярод людзей, любіць яго, верная яму, і ні перад кім на белым свеце невінаватая. Калі б гэтая дзяўчынка з'явілася на хвіліну пазней, на ўвесь век у яе памяць урэзаўся б акрываўлены труп бацькі, сустрэча з яго забойцам, яна крычала б у снах, бачачы твар чалавека, які зрабіў яе сіратой. Скарга казаў сабе, што і Вольга крычала, і яе жыццё растаптанае, і, наогул, ці ёсць такія вагі, на якіх узважваюцца пакуты, ураўноўваюцца злачынствы і адпаведная помста. Мера рэвалюцыйнай справядлівасці вынікае з адвечнага маральнага імператыву: не рабі іншаму таго, чаго не жадаеш сабе. Тэорыя палітычнага забойства справядлівая, думаў Скарга, у партыі няма іншых сродкаў адпору паліцэйскім рэпрэсіям, партыю старанна і бязлітасна знішчаюць. Але канкрэтная практыка тэрору разбурае душу, і шлях баевіка — гэта шлях да трагічнага самазнішчэння. Баявік — аднадзёнка, дынаміт, які, падрываючы апоры рабства, павінен выбухнуць і знікнуць. Твары забітых трымаюцца ў памяці, як у фотаальбоме, памяць пакутуе ад гэткага грузу, душа апальваецца. У светлую будучыню, за якую змагаюцца сацыялісты-рэвалюцыянеры, не можа ўвайсці легіён людзей, што свядома выконвалі функцыю замагільнай сілы. Грамадства будзе павінна назваць іх пакутнікамі барацьбы. Калі нас, думаў Скарга, назавуць героямі і дзеці пачнуць слухаць

нашыя ўспаміны аб тэрактах, трагізм вымушанай жорсткасці знікае, яна ператворыцца ў традыцыйную і стане рысай характару. Таму ў час перамогі ўсіх актыўных баевікоў сацыялістычных партый давядзецца сабраць на край яра і сіламі вайсковых кулямётных каманд расстраляць. Але лепш не дажыць да гэтага дня...

Ісці па Захар'еўскай Скарга не асмеліўся і пайшоў задворкамі. Дом, у якім здымаў кватэру Жывінскі, дакладна адпавядаў апісанню наглядчыка. Скаргу не спадабалася, што пад'езд не меў парадных дзвярэй, але з гэтай нязручнасцю трэба было змірыцца. Потым ён абследаваў усе дзіркі ў штыкетніках, пралазы ў павецях, скразныя пад'езды, што выводзілі на Падгорную[9]. Акрэсліўшы маршрут адступлення, ён знайшоў ціхую лаўку і задаволена, салодка запаліў. З лаўкі яму бачылася частка тарцовай сцяны, за якой мелася быць спальня ротмістра, ці кабінет, ці гасцёўня, дзе пад зялёным шоўкавым абажурам вячэрнія госці ротмістра гуляюць у віст або добранадзейна разважаюць пра падзеі знешняй палітыкі. Скарга вырашыў, што прыйдзе да Жывінскага раніцай, гадзін гэтак каля васьмі: у ранішніх званках ніхто не чуе небяспекі. Гадзін каля васьмі ротмістр будзе збірацца на службу. Гэта цяпер ён, хутчэй за ўсё, тырчыць у сваім службовым кабінеце на Пецярбургскай, прымаючы малапрыемныя весткі ад філёраў: «Знік», «Не відаць», «Не з'яўляўся». А раніцай ён абавязкова павінен пагаліцца, наадэкалоніцца, выпіць



кавы. І ніякіх гасцей раніцай не бывае. Гадзін каля васьмі, калі ротмістр возьме ў рукі брытву, ён прыедзе на Падгорную ў пралётцы, заплаціць рамізніку наперад за паўгадзіны стаянкі і накіруецца ў гэты акуратны, з паўкруглымі фрамугамі дом. І будуць адпомшчаны сорак шэсць рабочых, арыштаваных у адну ноч, і Фаня Гурэвіч, і знямелая Вольга, і Валодзя Пан, забіты з нагана, і ў таямнічага даносчыка заўтра завязнуць на языку здрадніцкія паведамленні. Яму ўзгадалася, як Адам, ён, Пан і Святы ноччу экспрапрыіравалі на Серпухаўскай наборную касу і станок. А праз два тыдні паліцыя знайшла друкарню, і Адам, які яе ахоўваў, загінуў у перастрэлцы. Тады яны з'ездзілі ў Ігумен[10] і ў дваранскім клубе ўзялі друкарскую машынку, цяжкую, як станковы кулямёт. А дзевяноста дзве тысячы, якія касір і два ахоўнікі везлі з цягніка ў Дзяржаўны банк, Святы і ён экспрапрыіравалі за хвіліну. Аперацыю распрацаваў Антон. Пан дастаў каляску, ён і Святы стаялі каля жаночай гімназіі. Калі паказалася банкаўская пралётка, Пан загарадзіў вуліцу, яны скочылі з двух бакоў на прыступкі пралёткі, уткнулі наганы ў жываты ахоўнікаў, Святы раззброіў іх, а ён узяў партфель з рук скамянелага касіра... А праз тры дні яго схапілі з адозвамі; на бяду, пры ім быў наган. І Жывінскі, у якога ў пятым годзе спалілі фамільны фальварак, выказаў усю сваю нянавісць да эсэраўскага лозунга «Зямля — сялянам!».

Раптам Скаргу ўкалола боязь, што Астровіч яму нахлусіў ці са страху наблытаў, і Жывінскі жыве не ў гэтым доме, а ў суседнім. Зладжанасць прадуманага дзеяння захісталася, у быццам нядрэнным плане шмат што, ды амаль усё, было ўяўленае і дамысленае. Скарга вырашыў абмеркаваць свой план з Антонам, але першую праверку яму хацелася правесці зараз. У пад'ездзе ён разважыў, што самая надзейная праверка — званок у зазначаную кватэру. Калі наглядчык назваў адрас правільна, дык застанецца ў сіле ранішні варыянт, калі Астровіч зманіў — узнікае новая сітуацыя, прыйдзецца вяртацца ў Турэмны завулак. На левых дзвярах вісела бронзавая шыльдачка з гравіроўкай. Прозвішча жыхара было кароткае, на чатыры ці пяць літар, Скарга не зацікавіўся ім. Правыя дзверы задаволілі яго ананімнасцю. Ён рашуча крутануў ручку званка. Хвіліну кватэра не адгукалася, потым пачуліся крокі, але не мужчынскія, а нейкія старэчыя, з шорганнем. Бразнуў ланцужок, дзверы прыадчыніліся, і ён убачыў пажылую, вельмі мажную кабету ў накрухмаленым каптурчыку, у белым фартуху зверх сіняй сукенкі. «Кухарка»,— падумаў ён і задаў сваё галоўнае пытанне.

— Пан Жывінскі дома? — спытаў ён у гатоўнасці прыняць любы з супрацьлеглых адказаў: «Вы памыліліся кватэрай» ці «Яго няма».

— Абедаюць,— адказала кухарка і ўтаропілася на Скаргу, чакаючы нейкай дзелавой просьбы. Скарга адчуў, як па-здрадніцку ўспацелі рукі. Але зваротнай дарогі ўжо не было. Ён сказаў: —

— Перадайце пану Жывінскаму, што да яго з тэрміновым паведамленнем.

Кухарка павольна зашоргала ў канец калідора і адчыніла зашклёныя дзверы. Скарга пачуў яе голас: «Просяць вас», а знаёмы голас адказаў: «Добра, Вера. Скажы — зараз». Тады Скарга дастаў пісталет, заклаў руку за спіну і ўвайшоў у кватэру. На вешалцы кінуўся ў вочы шынель са срэбнымі пагонамі. У гэтым шынялі ротмістр прыбыў у турму весці допыт. Кароткі ўспамін абудзіў у Скаргу халодную нянавісць, сэрца перастала дрыжэць. Кухарка з пустым супоўнікам прашоргала на кухню. Скарга застаўся ў вітальні адзін. У гасцёўні смяяліся, ён адзначыў два жаночыя галасы. Раптам, як сігнал, пачулася ветліва-фармальнае прабачэнне ротмістра: «Прабачце, панове. Я хутка».

Так, трэба хутка, падумаў Скарга, і калі Жывінскі з'явіўся ў вітальні, моўчкі ўскінуў пісталет і націснуў курок. У гасцёўні істэрычна закрычалі жанчыны. Жывінскі сіліўся нешта спытаць, у пашыраных ягоных вачах застывала здзіўленне. Скарга стрэліў яшчэ раз і кінуўся на лесвіцу.

Праз дзесяць хвілін ён апынуўся каля тэатра, спыніў свабоднага рамізніка і загадаў ехаць на Камароўку. Скарга запаліў. Недзе там пачыналася паліцэйская таўкатня, складаўся пратакол, кухарка апісвала яго знешнасць, доктар разразаў нажом мокрую ад крыві кашулю. Думаць пра гэта не хацелася, літасці да Жывінскага Скарга не адчуваў. Хацелася памыцца, пераапрануцца і пакінуць Мінск. Справы зроблены, усе даўгі ён вярнуў, Віця жыве сваім жыццём, інфарматара раскрыюць і пакараюць без яго.

Прыцемкі згусціліся, але асвятленне яшчэ не запалілі; толькі вокны электрастанцыі[11] цьмянымі прамянямі адціскалі вячэрнюю шэрасць у нізіну перад мостам. Скарга паглядзеў на гадзіннік. Да спаткання з Антонам заставалася сорак хвілін. Ён сказаў возніку звярнуць на Даўгабродскую[12]. На ўзгорачку праглядваліся ў кустах крыжы, помнікі і агароджы Залатагорскіх могілак. Углыбіні над дрэвамі ўзвышаўся цёмным сілуэтам касцёл Святога Роха. За ім, у трэцім радзе магіл, спалі вечным сном Скаргавы дзед і бабка. Над іх супольнай магілай стаяў помнік з шэрага граніту ў выглядзе дрэва са срэзанай вяршалінай і абсечанымі галінамі. Бабуля перажыла мужа на тры гады. У шырокай агароджы яна пакінула сабе месца і любіла пасядзець там на жалезнай лавачцы, размаўляючы ў думках з ценем дзеда. Скарга тады вучыўся ў чацвёртым класе і верыў у сілу малітвы. Ва універсітэце ён іншым разам маліўся, але часцей рэлігійная патрэба драмала. Вера развеялася на вайне, калі ён убачыў тысячы мерцвякоў і калек. У бога, думаў Скарга, вераць дзеці і старыя: дзеці — таму што ўсё вакол іх загадка, старыя — бо разгадка жыцця аказалася нецікавай. Скарга прыгадаў Старога. Пан Вінцэсь лічыў сябе вернікам. Асновы ягонай веры былі простыя. «Магчыма, бога і няма,— казаў ён з вінаватай усмешкай,— але я ў яго веру. Нудна думаць, што людзі, якіх я любіў, бясследна расталі ў цемры. Скажу табе больш: я ведаю, як мы сустрэнемся, як радасна заплачам, пра што будзе наша размова». З кім хацелася пану Вінцэсю сустрэцца на тым свеце, Скарга не ведаў. Стары пра гэта не апавядаў.

Скарга сышоў за Ваеннымі могілкамі. Пралётка развярнулася і пакацілася ў горад. Рэдкія прахожыя ішлі ў царкву. Ніхто не звяртаў на Скаргу ўвагі, ніхто за ім не сачыў. Ён быў свабодны. Для поўнай упэўненасці ён абышоў квартал і звярнуў у Горны завулак. Тут ён увайшоў у чыйсьці двор і папрасіў вады. Яму далі напіцца. За варотамі, у мірнай цішыні, ён пераканана сказаў сабе: «Усё. Знік. Згубіўся для іх».

Рэдкія, слабыя зорачкі пачыналі мігцець у небе. Скаргу хацелася апынуцца за горадам, на зжатым полі, легчы на зямлю, зліцца з ёй і яе вачыма ўбачыць, як зорачкі будуць множыцца, буйнець, выстройвацца ў сузор'і, як адтуль, з недасягальнай вышыні, пральецца празрыстае святло, кранецца зямлі і ператворыцца ў ачышчальную расу. Яму хацелася ачысціцца. Тры месяцы з дня ўцёкаў ён імкнуўся да гэтага вечара і такога пачуцця. Ён рызыкаваў, быў бязлітасны, думаў аб патрэбах ПС-Р і дамогся свайго. Яму пашчасціла, бо ён моцна жадаў волі. Калі ў харкаўскай турме былы сямёнавец Сцепанчук вёў яго ў кабінет доктара, ён верыў, што ўцячэ. Шанцуе таму, хто адважыўся. Сярод арыштантаў доктар атрымаў мянушку «Чарвяк», цалкам трапную. На ім быў светлы гарнітур, з нагруднай кішэні выглядала хустачка, валасы льсніліся ад брыльянціну, чаравікі блішчэлі. Скарга ім пагарджаў. Доктар адзеў халат і сказаў Сцепанчуку вярнуцца праз дзесяць хвілін. Наглядчык выйшаў, яго крокі аддаляліся па гулкім калідоры. Скаргу было загадана легчы на тапчан, задраць кашулю і дыхаць убок. І ў тое імгненне, калі доктар сваёй тонкай рукой націснуў на жывот, Скарга костачкамі пальцаў рэзка ўдарыў яго па кадыку. Доктар задыхнуўся, знясілеў, хутка быў распрануты і звязаны папружкай, а ва ўнутранай кішэні ягонага пінжака знайшоўся нікеляваны бельгійскі пісталет. І не давялося карыстацца пілой ці біць наглядчыка табурэтам. Сцепанчук любіў спраўнасць, на дзесятай хвіліне ён пераступіў парог і аслупянеў. Потым ён паслухмяна павярнуўся да сцяны, і тады Скарга ўдарыў дзяржальняй пісталета ў сярэдзіну фуражкі. Зачыніўшы дзверы на ключ, ён нагрэў на спіртоўцы вады, пагаліўся скальпелем, канфіскаваў у доктара гарнітур, грошы, гадзіннік, дакументы (а ў Сцепанчука — наган), пераапрануўся і прымераў капялюш. Да паўдня заставалася гадзіна. Скарга пагартаў недачытаную доктарам кнігу — гэта быў «Роб Рой»; доктару падабаліся прыгоды. Зараз ён бязгучна плакаў. Сцепанчук змрочна ўтаропіўся ў падлогу, яму балела галава; напэўна, ён праклінаў сябе за даверлівасць; у дадатак, за ўцёкі палітычнага вязня яго чакала пакаранне. Магчыма, ён маліўся, каб Скаргу застрэліў вартавы. Скарга падрыхтаваў дзве марлевыя затычкі і стаў ля акна, якое глядзела на ўнутраны двор. Пуста было на двары, час быццам заснуў, душа знемагла ад чакання. Нарэшце з вартоўні выйшаў салдат са звязкай ключоў. Тады Скарга заткнуў сваім палонным ірты, замкнуў пакой на ключ, выйшаў на двор і мерна закрочыў да ўжо адчыненых варот. Стары тузануў лейцы, фургон крануўся, і, калі конь прыкрыў салдата, Скарга апынуўся на вуліцы. Ён гатовы быў адстрэльвацца, памерці, але ніхто яго не клікаў, не кляцнуў за спінай затвор, а цяжкія акаваныя палавінкі варот зычліва прарыпелі на ржавых завесах...

У той дзень ён уцёк, сёння стаў вольным. Яму дадуць пашпарт, сродкі, ён дабярэцца да Вільні, таварышы пераправяць яго ў Прусію, і ён ад'едзе ў Цюрых альбо ў Парыж. Там вялікая эміграцыя, справа знойдзецца, але раней ён месяц адпачне, будзе без мэты блукаць па вуліцах, цэлыя дні праводзіць у бібліятэцы. Кнігі дапамогуць зламаць зневажальную звычку да цьмянага, канкрэтнага мыслення, якая выпрацавалася ў турме і за месяцы нелегальнага жыцця. Робішся машынай, першабытным чалавекам, калі з дня ў дзень галава занятая клопатамі бягучай хвіліны: дзе паесці, у каго пераначаваць, хто ідзе ззаду, хто насустрач, у якім пад'ездзе знікнуць ад філёра, каго прыйдзецца пакараць. Кожную ноч аднолькавыя сны, кожны дзень адны і тыя ж успаміны, перад вачыма абмежаваны, на два колеры, свет. Жывеш знешнім, думаеш пра знешняе, нават уласнае ўяўленне здавальняецца канкрэтнай мерай...

Скарга дастаў гадзіннік і адшчоўкнуў вечка; ён прыкінуў, што падыдзе да касцёла роўна ў дзевяць, калі не будзе спяшацца. Антон педантычны, як немец: ніколі не прыйдзе раней, ніколі не спозніцца і больш як тры хвіліны на месцы сустрэчы не прастаіць. Такое залатое правіла канспірацыі ён выпрацаваў. Жыццё патрабуе жалезнай дысцыпліны. Расхлябанасць — шлях у турму, што даказаў ягоны арышт каля дэпо.

Скарга выйшаў на Залатагорскую. Драўляная агароджа могілак месцамі была павалена. Вясной у гэтай частцы могілак соладка пахла бэзам. Але букетаў тут не ламалі, лічылася — грэх. Тут былі старыя магілы, за якімі ніхто не глядзеў. Прама ў агароджах раслі ўжо дужыя таполі і клёны, бэз аплятаў крыжы і закрываў помнікі, дажджы і сонца сціралі з камянёў прозвішча, разбураючы чалавечую ілюзію пра вечную памяць.

На могілках[13] быў народ: парачкі хаваліся ў кустах, сям-там Скарга распазнаў адзіночак, у касцёле іграў арган. Галоўная брама Залатой Горкі, пабудаваная ў гатычным стылі, выходзіла на Захар'еўскую. Антон ужо мог падыходзіць да яе ці ўжо стаяў у касцёле, слухаючы вячэрнія разважанні ксяндза. Скарга выйшаў на плітачную сцежку, якая, як межавая палоса, аддзяляла касцёл ад могілак. Паміж сцежкай і касцёльнай сцяной цягнуліся два шэрагі каштоўных помнікаў самых важных парафіян парафіі святога Роха. Ён абышоў касцёл з тылу і павольна пайшоў уздоўж знаёмых помнікаў і крыжоў. Лаўка, якая ўдзень служыла месцам збору прымогілкавых старых, была свабодная. Скарга прысеў. За спінай, у касцёле[14], басілі жаласную малітву трубы аргана. І ціхай хваляй на Скаргу накацілася туга. Ён падумаў, што смуткуе па Віці. Усё тут нагадвала аб ёй. На гэтай лаўцы яны сядзелі, па гэтай сцежцы гулялі, у касцёле ставілі свечкі на шчасце, у зарасніку акацыі ён першы раз Віцю пацалаваў. Быў пачатак лета, трава пахла свежасцю жыцця, серпік месяца весела высвечваў белыя сцены касцёла, крыжы і агароджы здаваліся балетнай дэкарацыяй, адвечнымі былі сузор'і чырванаватых, жоўтых і блакітных зорак, і яны шапталі адно аднаму вечныя словы аб сваім каханні. Было таемства кахання — тужліва з ім расставацца. Чуюцца чыесьці жаночыя крокі — але гэта не Віця. Музыку працінае смутак, і крыжы, гранітныя помнікі, каваныя і драўляныя агароджы абазначаюць скончаны век і абарваную радасць. Можна любіць тое, што сышло, але немагчыма ў яго верыць. Вера — мост у будучыню над вірамі пакут. Ляжыш у камеры харкаўскай турмы, нехта салодка храпе, нехта страшна стогне, а табе раптам прымроіцца начны сілуэт Залатагорскага касцёла, блікі месячнага святла на яго вітражах, ціхі пляск Свіслачы ў лукавіне каля Архірэйскай слабодкі, і вось ты ўжо там, на ганку, і дзверы адчыняюцца, і чуцен выратавальны шэпт: «Уваходзь! Я чакала, чакаю, буду чакаць!» Голас Віці служыў яму суцяшэннем, гэты голас ён уявіў. «Чакаю!» — яна не шаптала. Магчыма, «Чакаю!» шаптала Вольга, калі яе, атручаную, ратавалі ў Траецкім шпіталі, і яна, хістаючыся на павуцінцы, што злучае жыццё і смерць, прыгадвала яго і жадала сустрэчы, хоць бы апошняй. Скарга вырашыў, што наведае Вольгу ў Валожыне. Толькі ён можа стаць яе выратавальнікам, вестуном здзейсненага суда, сябрам і братам, які дасць ёй спакой і верне страчаны голас...



Скарга запаліў і агеньчыкам запалкі пасвяціў на гадзіннік. Антон пазніўся на шэсць хвілін. Гэта Скаргу не спадабалася. «Арыштаваны!» — падумаў ён. Потым падумаў: «Блытае філёраў!» Ён вырашыў чакаць яшчэ пяць хвілін, але пачуццё трывогі яго не пакінула. Ён заставаўся без дапамогі, няхай ненадоўга, на адну ноч, але гэтую ноч трэба было недзе перачакаць, каб раніцай зноў шукаць выхад на сваіх. Але раніцай паліцэйская служба раскіне сетку, і ўсе манеўры па горадзе ў сто разоў ускладняцца. Думка пра гэтыя малапрыемныя турботы вярнула Скаргу дзённую насцярожанасць. Ён агледзеўся. На закругленнях сцежкі, каля ўвахода ў касцёл і апсіды стаялі нейкія мужчыны. Перад ім у магільным зарасніку неяк нядобра, шырокім фронтам, шамацелі нябачныя людзі. Усё гэта магло быць збегам выпадковасцей, аднак цалкам было падобна на акружэнне. Скарга загасіў цыгарэтку, перакінуў цераз лаўку ногі і рыўком схаваўся за гранітным каменем. Напружаны, падрыхтаваны да новага рыўка, ён чакаў хоць нейкага знаку небяспекі, якую адчуваў вакол сябе, ці яўнага доказу спакою і міру.

У касцёле замоўк арган. Потым на галоўнай сцежцы прагучалі крокі невялікай купкі вернікаў. Потым пагасла святло ў спічастых вокнах. І калі яно згасла, Скарга пачуў гучную, рашучую каманду: «Булевіч! Кідай зброю! Выходзь!» Ён лёг на зямлю і перапоўз да суседняга помніка. Камандны голас абвясціў для засады: «Браць жыўцом! Страляць па нагах!» Нехта, прыгінаючыся, пабег па сцежцы. Скарга стрэліў, чалавек кінуўся ў кусты. Прама насупраць яго злавесна зашамацела трава, ён націснуў на курок, нехта закрычаў ад нясцерпнага болю. Філёры, не жадаючы рызыкаваць, адкрылі страляніну ў адказ. Ён прапоўз яшчэ метры два і апынуўся за чыгунным высокім помнікам. Ён з дзяцінства ведаў гэты помнік, зроблены ў выглядзе каплічкі, дзе матка боская смуткавала перад крыжам. Тут ён падняўся, прырос да чыгунных плітаў і стаў чакаць свайго выратавальнага моманту. Таго шчаслівага імгнення, калі ён кінецца ў хаос камянёў, крыжоў, агароджаў, і ўдача дапаможа яму, як дапамагла ў турме, і ён прарвецца, згубіцца ў зарасніку бэзу і ўцячэ дварамі залатагорскай слабады. Ноч і ногі выратуюць яго. І кулі, якіх баяцца філёры.



«Скарга! Ты акружаны! Здавайся!» — крычаў яму ўсё той самы камандны голас. Жандар, здалося Скаргу, хаваўся за гранітным помнікам і для каманд прыўставаў. Скарга быццам убачыў, як ён трымаецца рукамі за чорны граніт і як асцярожна высоўваецца над каменем ягоная галава. «Здавайся!» — зноў крыкнулі яму, і тады Скарга прыцэльна, нібы ў мішэнь, даслаў у кропку, адкуль зыходзіў голас, дзве кулі, адну за другой. І зразумеў, адчуў, што трапіў, камандаваць няма каму, жандарскі чын апаўзае па магільным камені.

Яму адказалі залпам, кулі з храбусценнем вышчарбілі касцёльную сцяну. Скарга вырашыў — час. Ён дастаў з-за паса наган, выкінуў ужо бескарысны, з апусцелай абоймай пісталет і падрыхтаваўся да кідка.

Ён ведаў, што праб'ецца. Гэта было абавязковай умовай выратавання таварышаў, неабходнасцю для справядлівай рэвалюцыйнай помсты. Калі ён не прарвецца, ніхто не будзе ведаць, не адважыцца палічыць, не здагадаецца, што яго здрадзіў Антон. Бо толькі Антон ведаў час і месца сустрэчы. Ён сам яго прызначыў. У тую хвіліну, калі прызначаў, усміхаўся, абдымаў. Вось гэтая засада на могілках і страляніна былі ім прадвызначаны. Ён ведаў, што Скарга не здасца. Ён сам здаў яго жандарам яшчэ ўдзень. Таму яго не бралі. Яны былі ўпэўнены — схопяць а дзевятай на Залатой горцы. Напэўна, і Адама здрадзіў ён. І данёс, па тэлефоне. І грошы возьме Антон, а Старога зноў павядуць у Пішчалаўскі замак, як і сорак гадоў назад. І Астровіч ботамі будзе спаганяць на ім сваю злосць. Ці Антон сам заб'е Старога, як на золку забіў Пана, таму што Стары ведае сапраўднае прозвішча чалавека, якому трэба аддаць пакунак. І партыйныя грошы застануцца ў яго, ён будзе забяспечаны і спакойны. Грэх усіх гэтых бедстваў спальваў Скаргаву душу. «Божа! Дай мне хоць гадзіну жыцця! — памаліўся ён.— Я ўсё змяню» І з гэтай малітвай Скарга рвануўся цераз пустату сцежкі ў змрок кустоў, але нябачны распалены прэнт ударыў яго ў грудзі...

Ён ляжаў на спіне. Чорны крыж убачыўся яму над галавой, высока ў небе мігцела цьмяная зорка, і боль разрываў грудзі, даючы супакаенне. «Скарга!» — пачуў ён лісlівы голас і пазнаў голас Кліма. Але бачыць Кліма яму не хацелася, і ён апынуўся на вакзальнай плошчы: яны ўтраіх — ён, Адам і Пан — ішлі ў чырвоных кашулях, маладыя, дужыя, гордыя тым, што апрануліся ў чырвонае, бо чырвоны колер — сімвал партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, іхні сцяг афарбавала народная кроў. Гэтая кроў расцякалася па плошчы, і ён шукаў таго, хто прасіў паратунку. «Вольга!» — паклікаў ён, і яна з'явілася ў светлай сукенцы і светлым жакеце. Яна ішла да яго, вочы прамяніліся каханнем, але зямля не магла стагнаць пад яе лёгкімі крокамі... Нейкі цень засланіў Вольгу і павольна да яго набліжаўся. Скарга чуў злавесны шоргат ягонага руху. Ён зразумеў, што крадзецца той, хто назваў яго імя. Ён хацеў стрэліць у яго, але рука не падымала наган. Ён перамог слабасць рукі і павёў ствалом на высокі цень, які закрыў зоркі і Вольгу, і тады гэты цень стрэліў у яго...

Клім стрэліў яшчэ раз, але другога стрэлу Скарга не чуў.

Быў 1907 год, трыццатае верасня.

---

[1] Койданаўская — цяпер вул. Рэвалюцыйная.

[2] Пярэспа — назва старадаўняй мінскай слабады, якая знаходзілася за Старажоўкай на рэчцы Пярэспе, што ўпадала ў Свіслач (каля цяперашняга Камсамольскага возера). Паводле легенды, на Пярэспе жыў заснавальнік горада волат Менеск.

[3] У 70-я гады могілкі знесены і рэканструяваны пад сквер.

[4] Маламанастырская — цяпер вуліца Герцэна.

[5] Гандлёва-Набярэжная займала бераг Свіслачы паміж цяперашняй плошчай 8 Сакавіка і вуліцай Янкі Купалы. Забудова знесена ў 60-я гады.

[6] Раманаўская — цяпер вуліца Рэспубліканская.

[7] Серпухаўская — цяпер вуліца Валадарскага.

[8] Захар'еўскі завулак — цяпер вуліца Урыцкага. Тут маецца на ўвазе пешаходная частка вуліцы — ад тытунёвай крамы на Ленінскім праспекце да вуліцы К. Маркса.

[9] Падгорная — цяпер вуліца К. Маркса.

[10] Ігумен — цяпер горад Чэрвень Мінскай вобласці.

[11] Электрастанцыя знаходзілася на Захар'еўскай, працавала ад плаціны на Свіслачы. Пабудовы станцыі захаваліся паміж цыркам і мостам; цяпер тут спартыўныя залы.

[12] Даўгабродская — сучасныя вуліцы Казлова і Даўгабродская.

[13] Рэшткі залатагорскіх могілак знесены ў 60-я гады. Цяпер на гэтым месцы стаіць Палац мастацтва.

[14] Былы касцёл Святога Роха рэстаўрыраваны пад Залу камернай музыкі філармоніі.





Андрэй РАЗІН,
кіраўнік студыі
«Ласкавы май»

# «ШУМІМ, БРАТКІ, ШУМІМ...»

**Даўно ўжо не было ў нашым друку такога! Ледзь не кожны месяц сродкі масавай інфармацыі аддаюць свае палосы і эфірны час фельетонам, рэпартажам, інтэрв'ю, рэплікам, герой якіх адзін — ансамбль «Ласкавы май». Цэнтральнае тэлебачанне і Усесаюзнае радыё, «Комсомольская правда» і «Московский комсомолец», ленінградская «Смена» і «Вечерняя Пермь»... Ахвяравала рэпартажамі з акцябрацкіх збораў і ўключылася ў дыскусію нават «Пионерская правда»! Скандальны ажыятаж вакол маладой групы сёння такі, што, бадай, перакрыў гвалт пасля наведвання Алай Барысаўнай гасцініцы «Прыбалтыйская»...**

**Давайце ж задумаемся: а чаму гэта раптам такая ўвага да ансамбля і мяне асабіста, якіх год назад яшчэ ніхто не ведаў!**

**Так, некаму «Ласкавы май» вельмі падабаецца, але хіба мала з'яўляецца на эстрадным небасхіле аналагічных «зорак»!**

**Так, лёс салістаў «Ласкавага мая» неардынарны, але хіба мала ў нас сірот, дзетдомаўцаў, напэўна, таленавітых не менш за хлопцаў з нашага ансамбля,— ды прэса чамусьці пакінула іх па-за сваёй увагаю...**

**Дык чаму ж свет клінам сышоўся менавіта на «Ласкавым маі»! Што за «майскі» феномен у разгары зімы! Паспрабуем разабрацца.**

**Як ні засмуцяцца абывацелі, прыйдзецца пакінуць без увагі «выкрывальную кампанію» журналіста Ю. Філінава, нашага галоўнага ганіцеля...**

**Усе гэтыя факты, што так і ледзяняць душу,— кіднэпінг, персанальныя «мерсэдэсы», шафёры-мільянеры, цэлаахоўнікі... Не будзем абмяркоўваць і лексіку журналіста — «халтура», «зараза», «маладыя аферысты», «група шарлатанаў»... Урэшце, мы будуем прававую дзяржаву, і цяпер, калі я, як арганізатар ансамбля, падаў у суд іск аб абароне гонару і годнасці, Ю. Філінаву прыйдзецца даказваць свае абвінавачанні дакументальна. Што, дарэчы, наўрад ці яму ўдасца, бо ў мяне няма ні «мерсэдэса», ні шафёра, які зарабляе па паўтары тысячы ў месяц, выдуманыя журналістам і многія іншыя дэталі майго жыцця.**

**Не, калі ўжо і праўда паспрабаваць зразумець «ласкавамайскі» феномен, дык варта быць сумленным ад самага пачатку. А ў артыкулах і Ю. Філінава і шэрага іншых журналістаў няшчырая сама пазіцыя — маўляў, вось на нашай слаўнай эстрадзе з'явіліся драпежнікі, якія, дзейнічаючы ў горшых традыцыях заходняга шоу-бізнесу, абіраюць няшчасных гледачоў.**

**На жаль, сябры, прыйдзецца ўсё-такі аднойчы пакончыць з уяўленнем, што наша эстрада адрозніваецца ад «іхняга» шоу-бізнесу, як ударніца-камсамолка ад гаспадыні бардэля. «На жаль» таму, што механізмы прасоўвання, а тым больш узлёту тых ці іншых артыстаў і ў нас, і ў іх мала адрозніваюцца. Калі «зоркі» запальваюцца, значыцца, гэта некаму трэба. І нават вядома каму — аднаму з усёмагутных эстрадных аб'яднанняў для ўласнае камерцыйнае дзейнасці, якая часта не мае нічога агульнага з мастацтвам. Без такога апекуна «зоркаю» не станеш — ён і студыю для запісу праб'е, і забяспечыць прэстыжныя канцэртныя пляцоўкі, і «раскруціць» на радыё, і, галоўнае, на тэлебачанні... Ну а чым расплачваюцца будучыя «зоркі» за такое апякунства! Хто чым. Часцей за ўсё — творчай і іншай свабодаю. Няпісаныя правілы гульні, уласцівыя, напэўна, не толькі свету эстрады.**

**І раптам, уявіце, з'яўляюцца малакасосы, якія хочуць дамагчыся поспеху, не ідучы ні да кога на паклон. Што дзеля гэтага робіцца! Замест таго, каб прадавацца, як прынята ўсюды, таму ці іншаму эстраднаму клану, яны проста ВЫДУМВАЮЦЬ сабе апекуна. І, як выяўляецца, з няменшым эфектам!**

**Цяпер нехта заломвае рукі, жахаецца — божа, што робіцца! А. Разін, выдаючы сябе за прыёмнага сына «вялікага чалавека», забяспечыў сваю групу студыямі, апаратураю, адмысловымі ўмовамі працы... Караул!**

**Але хіба дамагчыся таго ж шляхам здзелкі з адным з эстрадных кланаў хоць на грам больш маральна! І хіба не анекдот, што сёння, на чацвёртым годзе перабудовы мая хлестакоўшчына мела стопрацэнтны поспех: чыноўнікі ад эстрады выпрасталіся ў струну, задавальняючы ўсе пажаданні «наследніка»!.. Дык што гэта — чыста эстрадны феномен ці сацыяльны, маральны, эканамічны!**

**Што б ні было, «Ласкавы май» нечакана для лідэраў эстрады ўзляцеў на вяршыню паверхі папулярнасці. Прыбыткі, якія ён мог бы прыносіць зубрам шоу-бізнесу, пацяклі міма іх. Ці ж можна такое сцярпець! І пайшло, і паехала...**

**У ход пайшло ўсё — ад стогнаў па нібыта ўкрадзеных з інтэрната дзецях да папрокаў у выкарыстанні фанаграмы на канцэртах, ад абвінавачання ў махінацыях і «падключэння» пракуратуры да распускання плётак аб звышдаходах... Стала пападаць не толькі самому ансамблю, але і другім удзельнікам канцэртаў, у якіх выступаў «Ласкавы май». Амерыканская група «Рок-хаўз», якая працавала з «Маем» у Палацы спорту ў Лужніках, была названая «слабенькай», нікому не вядомай. Невераrодная бестактоўнасць, калі ўлічыць, што «Рок-хаўз» выступаў бясплатна, увесь ганарар пералічваўся ў фонд дапамогі Арменіі. За запрашэнне ансамбля ў спарткомплекс «Алімпійскі» дасталося Савецкаму камітэту абароны міру; Вышэйшую камсамольскую школу «прабралі» за запрашэнне мяне на творчую сустрэчу...**

**Словам, схема выпрабаваная, мэта якой — выклікаць, з аднаго боку, раздражненне простых гледачоў, а з другога — страх у арганізацый, што запрашаюць «Ласкавы май». Не хочацца, паўтараю, разбірацца з домысламі — гэта будзе рабіць суд. Звяртаю ўвагу на іншае. Ганячы сам ансамбль, эстрадныя апекуны, аднак, не пагрэбавалі магчымасцю пажывіцца за кошт ягонай славы. Нечакана пры тэатры-студыі «Музыка» ўзнікла група «Ласкавы май-2», кіраўнік якой у інтэрв'ю «Вечерней Москве», тлумачачы такую назву, дагаварыўся да таго, што «словаспалучэнне «Ласкавы май» стала абазначэннем музычнае плыні», накшталт дыска, рэгі і г. д.**

**Выпадак, напэўна, беспрэцэдэнтны ў гісторыі сусветнае эстрады! Калі б нешта падобнае здарылася на Захадзе, дзе аўтарскае права не фікцыя, а рэальнасць,— наваяўлены «Май» да канца дзён расплачваўся б за пірацкае прысваенне чужой назвы, якая стала ўжо камерцыйнай. Зрэшты, у нас такое свавольства ініцыятарам праз бок пакуль яшчэ не вылазіць. Але крыўдна, што сам аўтар наладжвае канцэрты нашым двайнікам. На-**

Заканчэнне на 4-й стар. вокладкі.

# КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

Мне 18 гадоў, жыву ў горадзе Омску. Вельмі люблю музыку і спорт. Хацела б перапісвацца з равеснікамі з іншых гарадоў.
644041, г. Омск, вул. Кірава, д. 7, кв. 192. **Галіна ІЛЬЯШЭНКА.**

Мне 19 гадоў, я вельмі адзінокі. Не п'ю і не куру. Хачу звязаць свой лёс з добрай і чуллівай дзяўчынаю.
246014, г. Гомель, вул. Горкага, д. 63/2. **Юрый ГРЫНКЕВІЧ.**

Мне 18 гадоў, але дагэтуль у мяне няма сапраўднага сябра. Хацелася б пазнаёміцца з добрым хлопцам, які захапляецца музыкай і спортам. Трохі пра сябе: я студэнтка, захапляюся музыкай, вельмі кантактная, люблю чытаць.
211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Маладзёжная, д. 35, кв. 47. **Алена КАВАЛЕНКА.**

Мне 26 гадоў, а спадарожніцу жыцця я так і не знайшоў. Так хочацца мець сям'ю, дзяцей. Я люблю музыку, кіно, захапляюся спортам.
223710, г. Салігорск, вул. Узбярэжная, 15—146. **Віктар ПУПКЕВІЧ.**

Мне 18 гадоў, па натуры я чалавек вясёлы. Люблю вершы пра каханне, фантастыку і музыку. Захапляюся плаваннем і самба. У вольны час шыю, вяжу, малюю. Пастараюся адказаць усім, хто мне напіша.
231900, г. Ваўкавыск, вул. Сацыялістычная, 33 а. **Ала КУРЫЛОВІЧ.**

Мне 17 гадоў. Люблю сучасную музыку, захапляюся культураю Індыі. Вельмі хачу мець сапраўдных сяброў.
220095, г. Мінск, вул. Пляханава, 52—1—126. **Віталь КРЫВАНОС.**

Мне 14 гадоў. Вучуся ў сёмым класе. Займаюся барацьбой дзюдо, маю другі юнацкі разрад. Захапляюся музыкай у стылі «рок». Хачу знайсці сяброў з падобнымі інтарэсамі.
247400, Гомельская вобл., г. Светлагорск, мікрараён Маладзёжны, д. 37, кв. 59. **Святлана ГРЫЦКОВА.**

Мне 18 гадоў. Захапляюся класічнай і эстраднай музыкай. Хаджу на дыскатэкі, бо вельмі люблю танцаваць. Хачу знайсці сябра, які б цалкам падзяляў мае інтарэсы.
220094 г. Мінск, пр-т Ракасоўскага, д. 7, корп. 2, кв. 112. **АКСАНА.**



Пішу ў рэдакцыю, бо гэта мой апошні шанц стаць шчаслівым. Так ужо выйшла, што ў свае 25 гадоў я зусім адзін. Аднастайна праходзяць дні: праца — тэлевізар — сон. Усе сябры даўно ажаніліся, адзін я ніяк не магу сустрэць свой лёс. Я не з тых, ад каго адварочваюцца дзяўчаты. Яны ў мяне былі, ды вось толькі ўсе яны любілі выпіць і пакурыць. Таму буду вельмі рады, калі нехта з дзяўчат адгукнецца на мой ліст.
247210, Гомельская вобл., г. Жлобін, вул. К. Маркса, д. 84. **Сяргей АСАВІЦКІ.**

Мне 29 гадоў, рост 176 см. Не п'ю, не куру. На службе страціў нагу. Быў жанаты, прыйшлося развесціся. Маю вышэйшую адукацыю, жыву адзін у добрай кватэры ў Мінску. Адчуваю сябе вельмі адзінокім, хачу пазнаёміцца з жанчынаю да 27 гадоў з мэтай стварэння сям'і. Вельмі люблю дзяцей. Адкажу ўсім, хто такі ж адзінокі, хто гадаваўся ў дзетдоме, у школе-інтэрнаце.
220117, г. Мінск, вул. Бялецкага, д. 4, кв. 8. **АЛЯКСАНДР.**

**Мне 20 гадоў, я работнік кіно. Люблю падарожнічаць, чытаць, слухаць музыку. Фатаграфую, займаюся радыётэхнікай. Люблю сабак і кошак. Хачу мець сяброў па перапісцы. ВІТАЛЬ.**

**Мне 18 гадоў, працую на фабрыцы «Белмасткераміка». Люблю чытаць фантастыку, захапляюся музыкай. Хачу пазнаёміцца з чалавекам, які можа стаць верным сябрам. АЛЕНА.**

**Мне 20 гадоў, вучуся ў інстытуце, займаюся атлетычнай гімнастыкай. Па характары я сарамлівы, а так хочацца пазнаёміцца з добрай дзяўчынаю. ГЕОРГІЙ.**

**Я добра вучуся, і таму мае бацькі і настаўнікі лічаць, што я павінна паступаць у інстытут. А я хачу стаць мастаком-мадэльерам, вучыцца ў тэхналагічным тэхнікуме. Хачу перапісвацца з тымі, хто марыць пра гэтую ж прафесію ці ўжо вучыцца на мастака-мадэльера. Мне 16 гадоў. ІНА.**

**Мне 23 гады, вучуся ў політэхнічным інстытуце, жыву ў інтэрнаце. У мяне шмат сяброў, а вось у каханні не шанцуе. Я люблю музыку, захапляюся спортам. Вельмі хачу пазнаёміцца з добрай дзяўчынаю. МІХАІЛ.**

**Мне 27 гадоў, была замужам, але ад замужжа засталіся толькі горкія ўспаміны. Сваю дачку стараюся выхоўваць так, каб не прыйшлося за яе чырванець. Працую тэхнікам, сваю работу люблю. Нядрэнна шыю, умею стварыць хатнюю ўтульнасць. Хочацца знайсці добрага, чуллівага чалавека. СВЯТЛАНА.**

**Мне 27 гадоў. Жыллём забяспечана. Жывём удваіх з 4-гадовым сынам. У людзях цаню адданасць і прыстойнасць. Можа, на свеце ёсць чалавек, якому мы будзем патрэбныя. ЛЮДМІЛА.**

**Мне 25 гадоў. Жанаты яшчэ не быў. Нарадзіўся ў вёсцы, але вось ужо сем гадоў жыву ў Наваполацку. Закончыў нафтавы тэхнікум і працую на заводзе. Матэрыяльна забяспечаны: ёсць кватэра, машына. Захапляюся фатаграфіяй, спортам. Нядрэнна гатую. Хацеў бы пазнаёміцца з разумнай і сціплай дзяўчынай не старэйшай за 23 гады. І не важна, калі знешне яна не надта прывабная, галоўнае, каб яна была добраю гаспадыняю і любіла дзяцей. ВІКТАР П.**

**Нагадваем, што адрасы рэдакцыя не высылае. Калі вы хочаце пазнаёміцца з аўтарам аб'явы, напішыце яму (ёй) ліст і дашліце ў «Крыніцу», абавязкова напісаўшы на канверце імя адрасата і нумар часопіса, у якім была надрукаваная аб'ява. Ліст будзе адасланы па адрасу.**

# МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП



РОК-ГУРТ «МЯСЦОВЫ ЧАС»



РОК-ГУРТ «МАГІСТРАТ»

Пол Макартні, Джордж Харысан і Рынга Стар далі згоду на здымкі мастацкага фільма пра гісторыю «Бітлз». Мяркуецца, што фільм з'явіцца на экранах у наступным годзе.

Пасля сусветнага турнэ з праграмаю пласцінкі «Істэрыя» група «Дэф Лэпэрд» вяртаецца ў сваю студыю, размешчаную ў Галандыі, каб працаваць над новым альбомам. Пласцінка «Істэрыя» — адна з самых паспяховых у камерцыйных адносінах работ года: толькі ў ЗША дыск разышоўся сямімільённым тыражом. Новы альбом выйдзе, відавочна, толькі ў наступным годзе, а сёлета чакаецца выпуск відэакліпаў групы.

На грані развалу знаходзіцца цяпер група «Ван Хэйлен», якая знаходзіцца ў канцэртнай паездцы з праграмаю альбома «Оў-Ю 812». Вакаліст Сэмі Хэгер і гітарыст Эдзі ван Хэйлен заявілі, што не хочуць больш працаваць разам. Выхад з групы Эдзі ван Хэйлена азначаў бы для яе музычную смерць, бо тварам «Ван Хэйлен» заўсёды было непаўторнае гучанне ягонай гітары. Чым усё гэта скончыцца, пакуль няясна. Застаецца толькі спадзявацца, што талерантнасць пераможа.

Выйшаў двайны альбом групы «Пінк Флойд» пад назваю «Пяшчотны гук перуна». У яго ўвайшлі канцэртныя запісы, зробленыя ў час выступленняў групы ў сусветным турнэ, якое пачалося пасля выпуску ў 1987 годзе дыска «Імгненная страта розуму». Выходзіць таксама фільм, зняты ў час гэтых гастроляў.

Буйной падзеяй у свеце хэві-металу стаў выпуск у канцы 1988 года альбома групы «Мэноўар» пад назваю «Каралі металу». На пачатку восені групу пакінуў гітарыст-віртуоз Рос Зэ Бос, і планы калектыву знаходзіліся пад пагрозаю зрыву. Аднак ужо ў кастрычніку на месца Боса прыйшоў Дэйв Шэнкі, які змог паспяхова замяніць яго, і група без асаблівых праблем запісала новы альбом.

Былы вакаліст брытанскай групы «Алтравокс» Мідж Юр пачаў сваю сольную дзейнасць з выпуску пласцінкі «Адказы без пытанняў», праца над якой працягвалася два гады.

Падрыхтаваў
Генадзь РАБЦАЎ

У снежні 1988 года ў Наваполацку адбыўся III Рэспубліканскі фестываль маладзёжнай песні і музыкі. У ім прынялі ўдзел каля трыццаці гуртоў і салістаў, сярод якіх былі «Акцэнт», «Фарпост», «Зарціпо», «Прэстыж», «Граніт», «Лімонны сок», «Студыя», Даміно», «Ісціна»...

Ад часопіса «Крыніца» на фестываль паехаў пераможца нашага хіт-парада рок-гурт «Мроя», які і стаў галоўным лаўрэатам. На жаль, не ўсе рок-музыкі былі задаволены рашэннем кампетэнтнага журы (Ігар Лучанок, Лявон Барткевіч, Міхась Масюкоў, Віталь Сямашка, Юрый Цыбін...), яны палічылі, што «Мроя» недастаткова «тэхнічная» каманда, але загадчык аддзела культуры ЦК ЛКСМБ Міхась Масюкоў растлумачыў, што журы кіравалася ў сваіх адзнаках іншымі крытэрыямі: «...тэхнічны ўзровень выканаўцаў даволі высокі, але «Мроя» вылучалася на агульным фоне сваёй самабытнасцю і грамадзянскай пазіцыяй, таму і атрымала званне лаўрэата».

На фестывалі было прысуджана шмат прызоў: рок-гурт «Мясцовы час» атрымаў прыз глядацкіх сімпатый і прыз надзей, сола-гітарыст рок-гурту «Фарпост» — Аркадзь Юшын быў прызнаны лепшым гітарыстам, вакаліст рок-гурту «Граніт» Сяргей Сялькевіч бясспрэчна быў лепшым сярод сваіх калег, рок-гурт «Лабірынт» лепш за астатніх у сваіх тэкстах вырашаў сацыяльную праблему, але цукру ў крамах не стала больш.

На конкурсе салістаў, што змагаліся за пуцёўку на конкурс «Юрмала-89», перамаглі Аляксандр Саладуха, Анжэла Найдзіён і гурт «Кэры», Сяргей Кравец.





РОК-ГУРТ «УЛІС»



РОК-ГУРТ «РЭЙ»

Рок-гурт «Рэй» браў удзел у фестывалі «На Доўгім бродзе-88» і стаў адным з лаўрэатаў — атрымаў прыз за творчы пошук. У хіт-парадзе радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» «Рэй» з кампазіцыяй «Экалогія душы» перамог у міні-фінале. Пасля прыза і перамогі, такая шкодная завядзёнка ў гуртах, у «Рэі» адбыліся змены. Цяпер гурт рыхтуе новую праграму на вершы Уладзіміра Жылкі і Уладзіміра Караткевіча, працуе «Рэй» у наступным складзе:

Андрэй Аляксандраў — вакал,
Ілья Шэўчык — гітара,
Андрэй Маркуц — гітара,
Мікола Машанскі — бас-гітара,
Сяргей Кашэль — бубны.

За апошні час сярод мінскіх слухачоў рок-музыкі ўзрасла папулярнасць рок-барда Арцёма Цялегіна. Сказваецца дэфіцыт жанру — рок-бардаў, акрамя Цялегіна, у Мінску няма. Вядомы гурт «АВІА» прапанаваў Арцёму сумесныя выступленні. Наша сталіца мае магчымасць згубіць яшчэ адзін бясспрэчны талент.

Падрыхтавала
Кася КАМОЦКАЯ

Цана 25 к.
Індэкс 74824




«Крыніца», 1989, № 6, 1—44

# «ЛАСКАВЫ МАЙ»

Заканчэнне.
Пачатак на 41-й стар.

прыклад, 1—5 лютага ў Лужніках... Вось і «прынцыповасць» журналіста, які, напэўна, забыўся, у якой шаноўнай газеце ён працуе.

Словам, неласкавая была мінулая зіма для «Ласкавага мая». Але давайце хоць зараз паглядзім на ўсё, што адбываецца, аб'ектыўна.

Так, вядома, ні салісты ансамбля, дзетдомаўцы, ні я, былы дзетдомавец,— не святыя. Мы звычайныя хлопцы, дзеці нашага часу з няпростым лёсам, са сваімі амбіцыямі і «закідонамі». І не трэба паказваць нас узорна-паказальнымі камсамольцамі з плакатнымі поглядамі і стэрыльнымі думкамі.

Але тое, што наша музыка стала папулярная задоўга да з'яўлення ансамбля на тэлебачанні, гаворыць пра многае. І сённяшнія аншлагі ў шматтысячных палацах спорту ўзніклі таксама не на пустым месцы. Значыцца, патрэбная ўсё-такі праца «Ласкавага мая» моладзі, а гэта ж вышэйшае прызначэнне артыста — быць патрэбным.

І колькі б нехта ні стараўся, «Ласкавы май» — адзін, усё астатняе — падробка. Дык, можа, прыйшоў час прыпыніць паток істэрычных публікацый, у якіх больш пафасу, чым ісціны, больш лаянкі, чым аргументаў, і больш слядоў затоенай зайздрасці, чым бескарыслівага жадання разабрацца, што да чаго!

* * *

У ліпені плануюцца гастролі студыі «Ласкавы май» у рэспубліцы.